ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 19 (2545)
ПЯТНІЦА
7
мая 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



## Ідзе год за годам, і ўсё больш велічнай паўстае перад светам наша Перамога.

Пра былыя паходы ў векапомныя гады расказвае школьнікам, што сабраліся ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, генерал-палкоўнік авіяцыі ў адстаўцы Рыгор Георгіевіч Гур'яненка.

Фота Ул. КРУКА.



Мікола НАВІЦКІ

•

Не наракай, герой народны,
На срэбраную сівізну.
Яна—твая узнагарода
За перажытую вайну.
У сівізне той кучаравай—
Рассечаны снарадам танк,
І дым дняпроўскай пераправы,
І водбліск одэрскіх атак—
Ў ёй след суровае часіны,
Адказ, як нам жыццё пражыць...
Не наракай на срэбра-іней.
Ты ім павінен даражыць.

# З ПАЧУЦЦЁМ АДКАЗНАСЦІ ПЕРАД ПАРТЫЯЙ І НАРОДАМ

У АБСТАНОЎЦЫ агульнага патхнення, выкліканага XXIV з'ездам КПСС, адзначыў савецкі народ свята працоўных усяго свету— 1 Мая. Людзі працы — рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя дэманстравалі сваю непахісную волю пад сцягам Леніна змагацца за ажыццяўленне дзевятай пяцігодкі, за мір і дружбу паміж народамі.

З глыбокім разуменнем нацыянальнага і інтэрнацыянальнага абавязку прынялі ўсе савецкія людзі словы Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, якія прагучалі з трыбуны Маўзалея Леніна: «Ад працы савецкіх людзей, ад магутнасці і працвітання Савецкай краіны ў немалой ступені залежыць і справа ўсеагульнага міру, і поспехі вызваленчай барацьбы народаў».

Пачуццём гордасці напоўнілі сэрцы ўсіх працоўных Беларусі словы першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава, сказаныя на першамайскім мітынгу ў Мінску: «Усё, што намі дасягнута, усё, што намі заваявана,—гэта вынік аб'яднаных у адно натхнёных намаганняў партыі і народа. У гэтым крыніца нашых перамог».

З пачуццём сумленна выкананага абавязку і жаданнем яшчэ больш зрабіць для росквіту роднай літаратуры адзначалі Першамай беларускія літаратары. Напярэдадні свята, 26—27 красавіка на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі яны падвялі вынікі творчай працы за мінулае пяцігоддзе і паставілі новыя задачы.

У мінулым нумары штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» былі надрукаваны цалкам справаздачны даклад праўлення Саюза пісьменнікаў, які зрабіў Максім Танк, выступленне на з'ездзе першага сакратара ЦК КПБ Пятра Міронавіча Машэрава, даклад рэвізійнай камісіі, новы склад кіруючых органаў саюза. Сёння друкуюцца спрэчкі па справаздачным дакладзе і дакладзе рэвізійнай камісіі. Такім чынам, наш чытач мае амаль поўную карціну таго, што гаварылася на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, і магчымасць асэнсаваць значэнне гэтай падзеі.

На з'ездзе прысутнічалі кіраўнікі партыі і ўрада, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў і госці пісьменніцкіх арганізацый братніх рэспублік. Гэта сведчыць аб вялікай увазе і павазе да творцаў беларускай літаратуры, да той ролі, якую адыгрывае наша шматнацыянальная літаратура ў выхаванні новага чалавека—будаўніка камунізма.

Першы сакратар ЦК КПБ таварыш Машэраў сказаў, што гаворка на з'ездзе была вялікай і змястоўнай. І сапраўды, галоўны клопат усіх прамоўцаў быў адзін—як з большым плёнам адказаць на рашэнні XXIV з'езда партыі, каб літаратура ва ўсіх сваіх жанрах ішла ў нагу з нашым часам, з цудоўнымі справамі савецкага народа.

На з'ездзе не трэслі дываны. Затое была ўдумлівая і разважлівая гаворка аб тым, што зроблена, і клопат аб тым, што трэба зрабіць, была па-партыйнаму вострая і прынцыповая крытыка, якая поўнасцю адпавядала духу XXIV з'езда КПСС. У дакладзе і выступленнях не апушчана ніводнай больш-менш важнай праблемы, якая хвалюе пісьменніцкую арганізацыю і ўсіх прыхільнікаў мастацтва і літаратуры. Быць бліжэй да народа, паспяваць за плынню часу, ідэйна выхоўваць і загартоўваць моладзь, весці наступальную атаку на варожую буржуазную ідэалогію, умацоўваць інтэрнацыянальныя сувязі літаратур, павышаць партыйнасць крытыкі, клапатліва адносіцца да кожнага творцы, уважліва ставіцца да пошукаў новага, стварыць лепшыя ўмовы выдавецкай дзейнасці, палепшыць матэрыяльныя ўмовы пісьменнікаў. Аб усіх гэтых праблемах гаварылася па-дзелавому, з грамадзянскай усхваляванасцю.

Друкуючы выступленні прамоўцаў, мы лічым, аднак, патрэбным адзначыць, што некаторыя з іх выказвалі і не зусім абгрунтаваныя думкі. Нельга, напрыклад, пагадзіцца з крытыкам, які сцвярджае, быццам не кожны твор можна крытыкаваць. Калі і хто гэта забараніў? Гэта, відаць, залежыць ад мужнасці самога крытыка. Таксама нельга лічыць поўнасцю слушным папрок у адрас выдавецтва, нібы яно не лічыцца з рэкамендацыямі, якія даюць рукапісам творчыя секцыі саюза. Відаць, тут справа ў тым, што гэтыя рэкамендацыі часам даюцца не з поўнай адказнасцю. Зусім слушна звернута ўвага на важнасць праблемы перакладаў, але той-сёй не ўлічвае гаспадарчы бок гэтай праблемы.

Зусім зразумела, як слушна заўважыў у сваёй заключнай прамове старшыня праўлення саюза Максім Танк, на з'ездзе няма магчымасці вырашыць усе творчыя пытанні. Яны будуць вырашацца ў штодзённай дзейнасці саюза і яго новага кіраўніцтва.

Адзін з гасцей з'езда назваў з'езд святам. І гэта адпавядала таму і дзелавому, і ўзнёсламу настрою, які панаваў на з'ездзе. З'езд быў дэманстрацыяй еднасці творцаў мастацкай літаратуры з роднай Камуністычнай партыяй, гатоўнасці кожнага літаратара мастацкім словам садзейнічаць ажыццяўленню велічных задач, пастаўленых перад народам XXIV з'ездам КПСС.



# САЛДАТЫ ПЕРАМОГІ

Якое пругкае, энергічнае слова — Перамога. Нібы самаходка імкліва бярэ вышыню, узараную выбухамі, вышыню мая 1945 года...

Сёння нашай вялікай Перамозе — дваццаць шэсць. Вырасла новае пакаленне, пасівелі ветэраны. Але і праз дзесяцігоддзі і стагоддзі Перамога будзе маладой і дзёрзкай, упэўненай у сабе і добрай. А тыя велічныя, суровыя, мужныя дні стаяць перад вачыма, кажучы словамі Канстанціна Сіманава, «быццам глядзіш у бінокль перавернуты» — усё бачна гранічна выразна, да самай дробязі...

Ды бывае раптам, нібы зноў павярнуў усё буйным планам — наплываюць на цябе твары салдат вялікай вайны, эпізоды баёў і паходаў...

Зірні, чытач, на гэтыя фотаздымкі — сапраўдныя дакументы часу. Яны захаваліся ў альбоме фотакарэспандэнта П. Нікіціна, якому давялося служыць у дывізійнай і армейскай газетах Волхаўскага, Ленінградскага, 3-га Прыбалтыйскага і 1-га Беларускага франтоў. Гэтыя здымкі зроблены ў часы жорсткіх баёў з фашысцкай Германіяй на франтавых дарогах, на прывалах, у Берліне. Простыя, няхітрыя, яны пераносяць нас у векапомныя дні.

Вось салдаты паселі вакол сержанта. Хто ведае, ці ўсе яны дайшлі да фашысцкага логава, ці ўсе вярнуліся да сваіх матак, жонак, дзяцей, нявест. Можа некаторыя ляжаць сёння на плошчах Прагі, Варшавы, Будапешта, пад сціплым безыменным абеліскам на скрыжаванні вясковых дарог. Але ўсе яны жывыя, усе маладыя. Назаўсёды. Навечна.

...Мінамётчыкі! Наперад! На агнявыя пазіцыі рухаецца мінамётны разлік. Фатограф ледзь-ледзь паспявае зрабіць здымак, бо як толькі шчоўкне затвор апарата, грымне вокліч: «Уперад! За Перамогу!»

...Разведчыкі прывялі гітлераўскага «языка». Сёння, калі ён жывы, ён павінен быць удзячны гэтым савецкім салдатам за тое, што яны выцягнулі яго з пекла развязанай фашызмам вайны...

...Хлопцы, зрабіўшы справу, могуць





Першамай—гэта першая зеляніна і глыбокае блакітнае неба, гэта чырвань сцягоў нашага вялікага свята. Першамай—гэта наша маладосць, гэта дзень, адкуль бяруць старт самыя дзёрзкія задумы, самыя светлыя мары.

Аб'ектыў нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука занатаваў адно з імгненняў першамайскай дэманстрацыі ў Мінску...

## Ад пятніцы да пятніцы

# ВЫДАТНІКІ ДРУКУ

За шматгадовую плённую работу ў галіне кнігавыдавецкай справы і ў савецкім друку Дзяржаўны Камітэт па друку пры Савеце Міністраў СССР і Цэнтральны камітэт прафесійнага саюза работнікаў культуры ўзнагародзіў групу работнікаў друку Беларусі значком «Выдатнік друку». Сярод іх—галоўны мастак Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку М. Ганчароў, старшы рэдактар выдавецтва «Беларусь» Д. Пульянаў, загадчыкі рэдакцый выдавецтва «Народная асвета» В. Дэбалтоўская і Ю. Сувораў, старшы мастацкі рэдактар гэтага выдавецтва Ю. Каралёў, начальнік Упраўлення па друку Віцебскага аблвыканкома М. Ястрабаў, начальнік Упраўлення па друку Магілёўскага аблвыканкома М. Платонаў і іншыя.

Усяго значком «Выдатнік друку» ўзнагароджана больш 50 работнікаў выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю рэспублікі.





перакурыць у акопе. Што даражэй за самакрутку? Хіба толькі добрая песня, бо і яна разам з салдатам здабывала Перамогу...

...А гэтую песню везлі з сабой на лінію фронту артысты, удзельнікі ансамбля чырвонаармейскай песні і танца 3-га Прыбалтыйскага фронту. Вось яны выступаюць перад салдатамі 1-га Беларускага на імправізаванай сцэне, змайстраванай наспех з чатырох грузавікоў.

...Шырэй круг. Салдат пусціўся ў скокі. Хай кароткая хвіліна адпачынку, але бадзёры дух. Такое магчыма толькі пасля ўдалага боя.

...Наперад праляглі франтавыя дарогі. Цяжкімі былі яны. Але ні лясы, ні багна — не перашкода, калі ёсць такія салдаты, як наводчык Фадзееў, чый партрэт на лясной прасецы — нібы адна з вех, што ўказваюць шлях на захад, у Берлін.

...Берлін тых дзён. Берлін мая 1945 года, што застаўся напамінкам таго, чым канчаецца фашызм.

Мы не ведаем імёнаў усіх, каго зняў франтавы фатограф. Ва ўсіх іх адно слаўнае імя: салдаты Перамогі. І перад імі схіляюць сёння галаву мільёны.







# СВЯШЧЭННАЯ ЗЯМЛЯ

Экспазіцыя Музея абароны Брэсцкай крэпасці папоўнілася новым раздзелам. Называецца ён «Свяшчэнная зямля нашай Радзімы».

Шкатулкі, мяшэчкі, гільзы, напоўненыя рознага колеру зямлёй... Палымяныя словы, што ідуць ад гарачых сэрцаў тых, хто нічога не забыў, хто помніць.

...Гэтая зямля на беразе Заходняга Буга прывезена з берагоў Волгі, з радзімы вялікага Леніна. Дарагі падарунак паднеслі настаўнікі і вучні школы, у якой калісьці вучыўся Валодзя Ульянаў.

Неўміручую славу здабылі ў жорсткіх баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і абаронцы Масквы, Ленінграда, Сталінграда, Адэсы, Кіева, Севастопаля. Палітая іх крывёй зямля зараз знаходзіцца побач з зямлёй, узятай на Курскай дузе, на магілах Героя Савецкага Саюза Зоі Касмадзям'янскай, Канстанціна Заслонава, Мікалая Кузняцова, героя грамадзянскай вайны Алека Дундзіча, з месца гібелі Васілія Чапаева, героя-лётчыкаў Мікалая Гастэлы і Цімура Фрунзе, з братніх магілах бальшавікоў-рэвалюцыянераў, якія загінулі ў барацьбе за перамогу Вялікага Кастрычніка, краснадонскіх маладагвардзейцаў.

Тут захоўваецца зямля з 25 братніх магілах у Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці, з магілах Магілёва, дзе пахаваны тысячы патрыётаў, якія аддалі сваё жыццё, каб жылі мы. Тут жа зямля з Кургана Бяссмерця ў Оршы і Кургана на скрыжаванні межаў Расіі, Беларусі і Латвіі, з месца, дзе пабудаваны помнік Перамогі ў Маскве.

З многіх гарадоў і сёл, краёў і абласцей нашай неабсяжнай краіны дастаўлены ў крэпасць-герой жменькі свяшчэннай зямлі. Вось якія радкі выгравіравалі на металічнай вазе чалябінскія рабочыя: «Сэрцы ў гераічным Брэсце пакінуў уральскі народ. У кожным сэрцы, як у песні, памяць аб загінуўшых жыве. Тая памяць, як Радзіма, святая. Яе не зламаць і не спаліць. Надзейны ў руках у салдата Уралам акаваны меч». Працоўныя Пскова прыслалі зямлю — сведку нараджэння 23 лютага 1918 года рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі, а школьнікі Алма-Аты — зямлю з месца фарміравання Панфілаўскай дывізіі. Тут зямля з Перакопа і Марсава поля, з Тамбоўшчыны, што дала 163-х абаронцаў Брэста і 250 Герояў Савецкага Саюза...

У гэтых жменьках зямлі, свяшчэнай для ўсіх савецкіх людзей, — любоў і павага Радзімы да тых, чый подзвіг будзе жыць у вяках.

**У. ФРЭЙДЗІН.**

# НАРОД НАЗЫВАЕ ЛЕПШЫХ

**Крыху больш месяца засталося да выбараў у Вярхоўныя Саветы саюзных і аўтаномных рэспублік, у мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных.**

**У рэспубліцы, як і па ўсёй краіне, праходзяць перадвыбарчыя сходы, на якіх працоўныя выпучаюць кандыдатаў у састаў вышэйшага органа дзяржаўнай улады.**

**Першымі сваімі кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР працоўныя Беларусі назвалі Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева, Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалая Вікторавіча Падгорнага, Старшыню Савета Міністраў СССР Аляксея Мікалаевіча Касыгіна, а таксама іншых членаў Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі.**

**Сярод народных кандыдатаў — лепшыя прадстаўнікі рабочага класа, калгаснага сялянства, савецкай інтэлігенцыі.**

**Сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі рабочыя і служачыя дзяржаўнага племяннога завода «Індустрыя» Пухавіцкага раёна назвалі першага намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Івана Шамякіна.**

# АКЦЁРЫ — ЛЕКТАРЫ

343 лекцыі для рабочых, студэнтаў, сельскіх працаўнікоў прачыталі за мінулы год артысты, рэжысёры Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра— члены пярвічнай арганізацыі таварыства «Веды».

З цікавасцю былі праслуханы такія лекцыі, як «Вобраз У. І. Леніна ў тэатры і кіно», «Тэатр і сучаснасць», «Гісторыка-рэвалюцыйная тэма ў Гродзенскім тэатры», «Вобраз Ф. Энгельса ў мастацкай літаратуры і ў тэатры», «Наш савецкі тэатр» і іншыя.

За плённую працу ў юбілейным годзе пярвічная арганізацыя тэатра ўзнагароджана дыпломам Беларускага рэспубліканскага таварыства «Веды».

**Ул. ДЗЁМІН.**



# У ГОНАР ДНЯ ДРУКУ

У ПАМЯШКАННІ Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра БССР імя Я. Купалы 4 мая адбыўся гарадскі сход журналістаў, работнікаў выдавецтваў і паліграфіі сумесна з прадстаўнікамі партыйных, савецкіх, грамадскіх арганізацый Мінска, прысвечаны Дню савецкага друку.

Сход адкрыла сакратар Мінскага гаркома КПБ Т. Ц. Дзмітрыева. Аркестр выканаў Дзяржаўныя гімны СССР і БССР.

На сходзе з прамовамі выступілі старшыня праўлення Саюза журналістаў БССР, рэдактар «Сельской газеты» У. В. Мацвееў, сакратар парткома Мінскага трактарнага завода К. М. Каратай, рэдактар акруговай газеты «Во славу Родины» В. В. Маякоў, народны паэт БССР П. У. Броўка.

На сходзе прысутнічалі намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. М. Шабаноў, сакратар Мінскага абкома КПБ У. С. Багданаў.

У заключэнне быў паказаны спектакль «Зацюканы апостал».

БЕЛТА.



І. ВЯТРОЎ,

былы сакратар Палескага падпольнага абкома партыі, камандзір злучэння партызанскіх атрадаў Палескай вобласці.

# ДАРАГІЯ МАЕ

ДВАЦЦАЦЬ з лішнім гадоў амаль нічога не было вядома пра лёс і подзвіг гэтага сціплага і цудоўнага чалавека. І толькі нядаўна па знойдзеных дакументах з дапамогай блізкіх сваякоў Абрамава, яго саратнікаў па барацьбе мне ўдалося крок за крокам узнавіць тыя далёкія падзеі.

У 1967 годзе я атрымаў пісьмо ад жонкі Абрамава, Соф'і Міканораўны. «Да Вас звяртаецца жонка былога падпольшчыка Цімафея Яўсеевіча Абрамава, які ў 1941 годзе быў пакараны смерцю фашыстамі. Усё, што я і дзеці перажылі, вельмі цяжка падрабязна апісаць. Вельмі мне крыўдна і балюча, што за 25 гадоў ніхто не ўспомніў імя майго мужа, які загінуў за Радзіму...»

Я пачаў пошук, перагледзеў свае асабістыя архівы, дзённікі, дакументы, сустрэўся з дзесяткамі партызан, падпольшчыкаў. Вось што ўдалося ўстанавіць.

У першыя дні Айчыннай вайны Цімафей Яўсеевіч, тады супрацоўнік Палескага абласнога ўпраўлення НКУС разам з усімі работнікамі пільна ахоўваў важныя аб'екты, выязджаў вылоўліваць варожых парашутыстаў, дыверсантаў.

У кастрычніку 1941 года па заданні ЦК КП(б)Б. Цімафей Яўсеевіч разам з баявымі сябрамі Раманам Казачэнкам, Сцяпанам Пакаціным, Купрэем Кельчанкам, Адамам Харланчуком і іншымі накіроўваюцца ў глыбокі тыл ворага, у Мазыр.

Ішлі глухімі лясамі і балотамі, абыходзілі буйныя населеныя пункты, варожыя гарнізоны. Прыйшлі на дзевятнаццатыя суткі.

Перад бургамістрам Васілём Крыцкім стаіць высокі, статны, але змучаны і апрануты як папала малады чалавек.

Цімафею Яўсеевічу яшчэ ў Курску сказалі, што Крыцкі свой чалавек, пакінуты партыйнымі органамі для выканання асобых заданняў.

Абрамаў, захоўваючы канспірацыю, дастаў з кішэні і падаў бургамістру даволі пакамячаную афіцыйную даведку з подпісамі і пячаткай: «Гр-н Малінаў Васіль Іванавіч, ураджэнец г. Мазыра, Палескай вобласці, БССР, раней асуджаны Гомельскім нарсудом І уч. ад 13 чэрвеня 1940 г. па арт. 106-А УК БССР, тэрмінам на адзін год і 6 месяцаў папраўчых работ. Меру пакарання адбываў пры Крычаўскай выпраўленчай калоніі з 30 чэрвеня 1940 года па 29 чэрвеня 1941 г. У сучасны момант ад далейшай меры пакарання вызвалены і накіраваны ў Крычаўскі райваенкамат».

Крыцкі, прачытаўшы даведку, пакруціў яе ў руках, загадкава паглядзеў на Абрамава і запытаўся:

— Значыць, быў пакрыўджаны Савецкай уладай. Чаго ж ты хочаш ад нас?

— Работы прашу, пан бургамістр.

— Не падвядзеш, калі пашлём цябе грузчыкам дастаўля[illegible] прадукты? Нам патрэбен там [illegible]надзейны чалавек.

— Маёй сям'і і мне трэба неяк жыць і карміцца. Паст[illegible]аюся ваш давер апраўдаць.

Работа цалкам задавальняла Абрамава. Ён меў пропуск, а значыць, і магчымасць ездзіць па горадзе і ўдзень і ўначы.

Разведчык падмячаў усё, што яго цікавіла, прыглядаўся да людзей, збіраў патрэбныя звесткі.

Па вечарах сустракаліся з Рыгорам Чавусам, Раманам Казачэнкам, Аляксеем Смародскім, Сцяпанам Пакаціным, пасля прымалі рашэнні, намячалі новыя планы работы.

Абрамаў і яго сябры не былі ў Мазыры адзінокія. 22 кастрычніка 1941 года пад Мазыр у вёску Тварычаўка прыйшлі са сваёй групай М. Васько, А. Бондар, А. Пінчук, І. Ільяшоў, Л. Філонаў, С. Ракіцкі.

Хутка Ракіцкаму ўдалося ўстанавіць у Мазыры сувязь з падпольшчыкамі Мікалаем Казарэзам, Дзмітрыем Казлоўскім, камсамольцам Яўгеем Талкачовым і іншымі, праз якіх, як указвае Ракіцкі, «давялося наладжваць работу па падборы людзей у партызанскі атрад і пошуках зброі».

Многія таварышы з групы Ракіцкага былі ўжо звязаны з групай Абрамава. Ужо к канцу 1941 г. Цімафею Яўсеевічу пры дапамозе Рамана Казачэнкі, Мікалая Казарэза, Сцяпана Пакаціна ўдалося стварыць баявую падпольную групу, у якую былі ўцягнуты Аляксей Смародскі, Даніл Карасёў, Амялян Пархоменка, Адам Харланчук і іншыя. А ў студзені 1942 г. да іх далучыўся брыгадны ваенны ветурач Мікалай Міхайлавіч Говараў, пасланы ў Мазыр Житомірскім падпольным цэнтрам для разгортвання барацьбы супраць захопнікаў і наладжвання кантактаў з мазырскімі патрыётамі. Гэта яшчэ больш натхніла і актывізавала работу групы.

Работа кіпела і ўдзень і ўначы: пісаліся ад рукі лістоўкі з паведамленнямі Савінфармбюро і расклейваліся на відных месцах.

Гестапаўцы збіліся з ног, шукаючы аўтараў лістовак, арыштоўвалі нават выпадковых праходжых, якія спыняліся іх пачытаць. Але лістоўкі зноў і зноў з'яўляліся на базары, на вуліцах, у гарадскім клубе і нават на сценах нямецкай камендатуры.

Нязменным баявым памочнікам Абрамава была яго жонка Соф'я Міканораўна. Пагарджаючы небяспекай, яна звязвалася з патрэбнымі людзьмі. Нямала трывожных бяссонных начэй правяла яна, каб дапамагчы мужу ў яго цяжкай і небяспечнай справе.

Цімафей Яўсеевіч яшчэ з першых дзён свайго прыходу ў Мазыр устанавіў сувязь з адным з арганізатараў і кіраўнікоў Мазырскага падполля Рыгорам Антонавічам Чавусам і яго баявымі саратнікамі Станіславам Паўлавічам Петрасяком, Мікалаем Савельевічам Дз'ячэнкам і Лук'янам Сямёнавічам Матвеевым. Сустрэча адбылася на кватэры Абрамава.

Пра гэты перыяд адзін з мазырскіх падпольшчыкаў Аляксей Фёдаравіч Смародскі ўспамінае: «З Абрамавым я быў знаёмы да вайны. Таму, сустрэўшыся ў Мазыры, позняй восенню 1941 года, мы дамовіліся аб сумесных дзеяннях. Асабліва многа ўвагі ён надаваў дыверсійнай рабоце. Помню, як вясной 1942 года падпольшчыкі Раман Казачэнка і Мікалай Говараў атрымалі заданне ад Абрамава ўзарваць аўтамашыну з гебітскамісарам, які часта ездзіў у горад Корасцень. Уначы міна была падкладзена ў патрэбным месцы, але на міну наскочыла іншая машына з фашысцкімі карнікамі і ўзляцела ў паветра».

Неўзабаве гітлераўцам удалося напасці на след Абрамава.

«У тую ноч, — успамінае Соф'я Міканораўна, — муж доўга гутарыў у кватэры з падпольшчыкам Смародскім, які падтрымліваў сувязь з партызанамі, а я, як заўсёды, на двары вяла назіранне. Сустрэча скончылася, Смародскі пайшоў, а я зайшла ў кватэру. Мінут праз пяць на поўным хаду падляцела грузавая машына з карнікамі. Яны акружылі дом, уварваліся ў кватэру і арыштавалі мужа. Цімафей трымаўся спакойна. Апранаючыся, ён ласкава паглядзеў на мяне, падміргнуў, ціха сказаў: «Не губляйся». Яго штурхнулі ў спіну і павялі. Я тут жа кінулася і папярэдзіла Смародскага, ён паспеў схавацца за некалькі хвілін да арышту. Не паспеў схавацца толькі Раман Казачэнка. Яго арыштавалі ў тую ж ноч. Гестапаўцы заўсёды былі верныя сабе. Грузавік з шумам уляцеў у двор эсэсаўскай турмы, якая размяшчалася па

---

Ал. АВЕЧКІН,

былы камандзір эскадрыллі 661 авіяцыйнага палка 16 паветранай арміі

# НА ПАДСТУПАХ ДА ПЕРАМОГІ

## 1. І ЎНАЧЫ І ЎДЗЕНЬ

Перагортваеш пажаўцелыя старонкі франтавых блакнотаў, і ўспамінаюцца, здавалася б, ужо даўно забытыя дэталі франтавога жыцця, баявыя сябры.

Успамінаецца.

Мы стаялі на палявым аэрадроме кіламетраў 25—30 на поўдзень ад Кюстрына. Красавік. Вясна. Цяплынь. Крыху прыціхла вайна. Самалёты ў капанірах. Прыкіданы галінкамі, якія вось-вось гатовы выстраліць клейкімі пупышкамі. Кожную раніцу прачынаемся пад каманду:

— Пад'ём!

Для кожнага з нас, зразумела,—вучоба. Разумеем галавой. А сэрца лютавала: да Берліна рукой падаць, чаго ж чакаем? Навошта марудзім? Хутчэй бы, хутчэй!..

Гадзінамі праседжвалі над картамі з навігацыйнымі лінейкамі, ветрачотамі. Пракладвалі маршруты, вывучалі мясцовасць, занятую праціўнікам. Прайгравалі ўзаемадзеянне з суседнімі авіяцыйнымі палкамі, з наземнымі часцямі. Усё гэта трэба. Наперадзе сур'ёзная вялікая работа.

А на змярканні асобныя экіпажы вылятаралі на разведку. За Одэрам прытаіўся вораг. Мы ведаем — ён моцна акапаўся. Асабліва на Зеелаўскіх вышынях. Разведвальныя палёты праходзілі цяжка. Зенітныя батарэі, пражэктары гітлераўцаў пільна ахоўвалі апошні кавалак неба ад Одэра да Шпрэе.

Гарызонт над Берлінам кожную ноч афарбоўваўся водбліскамі разрываў буйных квартальных бомб. Гэта працавалі англа-амерыканскія бамбардзіроўшчыкі. Але галоўная сіла немцаў была не там, не ў Берліне, а вось тут, на гэтай зямлі, цёмнай і насцярожанай, якая ўвесь час прашывалася вогненным серпанцінам трасіруючых куль і снарадаў.

Мы лятаралі паміж Кюстрынам і Франкфуртам. Сачылі за дарогамі. Справа — якія ішлі праз Мюнхенберг да Зеелава, злева — з Фюрстэнвальдэ да Франкфурта. Цёмна. Ні агеньчыка. Падыдзеш бліжэй да горада—выклічаш на сябе зенітны агонь. А нам загадана толькі паглядзець, што робіцца на дарогах.

— Давярні крыху ўлева! — камандуе мой штурман Барыс Рапапорт.

Даварачваю.

— Так трымай!

Памятаю — ляцім на Фюрстэнвальдэ. Угадваю хутчэй, чым бачу—злева горад. Падыходзім бліжэй. Чаму ж маўчаць зенікі?

— Кідаю САБ! — крычыць штурман.

Не паспеў сказаць: «Кідай, Бора!», як пад самалётам яркім малочным святлом успыхнуў нябесны ліхтар. Я рэзка паклаў самалёт на левае крыло. Так лепш бачыш зямлю. За кароткі час, пакуль маўчалі зенікі, трэба было ўбачыць, запомніць усё, што адбывалася ўнізе. Зямля ўскапана варонкамі. Дарога. На ёй маленькія прамавугольнічкі аўтамашын, танкаў. Ідуць к гораду. Лічым іх. Не дакладна, канечне. І раптам адразу, нібы па камандзе, уваткнуліся ў неба промні пражэктараў. Адзін, два, тры... Сотні чырвоных, белых, аранжавых камячкоў пацягнуліся ад зямлі да самалёта. То з правага борта, то з левага, над галавой лопаліся чорныя шапкі снарадаў. Хітруем. Не ідзём назад, а са зніжэннем, прыглушыўшы матор, ляцім на захад, у бок Берліна. Пагаслі промні, прымоўк зенітны агонь. Разварочваемся на сто восемдзесят градусаў і, набраўшы вышыню, вяртаемся дамоў.



Одэр. Красавік, 1945 год. Штурман Іван Оськін чытае свае вершы. У цэнтры (з люлькай) аўтар успамінаў.

Заданне выканана.

## 2. ПАЧАЛОСЯ!

Ніхто з нас не ведаў, калі будзе наступленне. Але ўсе адчувалі — вось-вось пачнецца. На палявы аэрадром падвозілі вялікі запас бомбаў, рэактыўных снарадаў, свяцілак, гаручага. Усе ў прыўзнятым настроі. Як заўсёды перад вялікай і важнай падзеяй.

У ноч з 14 на 15 красавіка нашаму палку не давалі баявога задання. На ўчастку 1-га Беларускага фронту працавалі самалёты 4-й паветранай арміі 2-га Беларускага фронту.

15 красавіка. Яшчэ да цямна, па трывозе, лётны састаў прыбыў на аэрадром. Тут на поўны ход ішла падрыхтоўка да баявых палётаў. Тэхнікі правяралі самалёты, збройнікі складвалі радамі ля стаянак бліскучыя ад змазкі фугасы. Прыбарысты корпаліся ў кабінах, правяраючы вышынямеры, тахометры, варыометры. Нас, камандзіраў эскадрылляў, выклікалі на КП.

— Баявы загад!.. — пачаў урачыста камандзір палка Васіль Мікалаевіч Сонін.

І стала ўсё зразумела. Наступленне! Няўжо апошняе? І больш не будзе трывог? Не будзе неспакойных начэй? Не пачуем сумных слоў: «З задання не вярнуўся...» Значыць — хутка перамога!..

І вось ужо заблыталіся ў цемры сілуэты самалётаў, людзей. Асцярожна і таямніча замільгалі сігнальныя агеньчыкі на старце: белы, зялёны, чырвоны. Аэрадром запоўніўся тугім ровам матораў. Аранжава - блакітныя язычкі полымя нецярпліва вырываліся з патрубкаў рухавікоў. У палёт!.. У палёт!.. І пайшлі адзін за адным, гужам, самалёты на старт. І вось машыны ў небе. Нябачныя, гурчучы маторамі, ішлі яны туды, дзе шырока разліўся вясновай паводкай Одэр.

Задача — бамбіць апорныя пункты і вузлы супраціўлення галоўнай паласы абароны праціўніка.

Гэта была гарачая ноч. Прыляцеўшы з баявога задання, штурманы беглі на КП дакладваць аб выніках бомбакідання, а лётчык, не дакурыўшы папяросы, дапамагаў збройнікам падвешваць на свой самалёт бомбы. Усе працавалі апантана. Экіпажы літаральна змагаліся за кожны лішні баявы вылет.

Набліжалася раніца. На лініі фронту параўнаўча спакойна. Праціўнік не праяўляў актыўнасці. У асобных месцах ішла перастрэлка. Ці можа нам зверху здавалася, што на зямлі нібыта ціха.

Пяць гадзін раніцы 16 красавіка. Уздрыганулі сцены КП. Усе, хто быў у гэты час у памяшканні, кінуліся к выхаду. Глядзім, у напрамку Кюстрына, у шырокай паласе фронту велізарныя сполахі артылерыйскай стральбы.

Пачалося!

Мы ляцім на Зеелаў. Штурман прыспешвае. А што я магу выціснуць з матора, у які ўціснуты крыху больш як 100 конскіх сіл. Ды і пад крыламі вісяць тры «соткі». Яны цягнуць машыну да зямлі. І ўсё-такі стрэлка альціметра, дрыжучы, нібы ад натугі, стаіць вышэй за сярэднюю рысу. Значыць ідзём з наборам вышыні.

Злева Кюстрын. Цёмна-шэрай стужкай разліўся Одэр. Хочацца ўсё запомніць, усё заўважыць. Але няма часу. Зеелаў — моцны арэшак. І трэба дапамагчы пяхоце разбіць яго.

На зямлі гарачы бой. Ніці трас пераплятаюцца ў прыгожую, але смяротна небяспечную сетку. Як жа цяжка там, нашым наземным часцям.

Вось Зеелаў. Некалькі пражэктараў ужо шныпараць па небе. Бачу разрывы, разрывы... Заходзім на баявы курс. Штурман прывычна схіляецца над прыцэлам. Лёгкія штуршкі. Вызвалены ад бомбаў самалёт стаў зусім паслухмяны, рэзвы.

# ТАВАРЫШЫ...

вуліцы Пушкіна, з машыны высыпалі фашысты, яны ўтварылі жывы калідор з аўтаматамі напагатоў».

Абрамава вядуць у кабінет начальніка турмы і ставяць у куток, тварам да сцяны. Праз некалькі хвілін у суправаджэнні аховы ўваходзіць начальнік Мазырскай аб'яднанай жандармерыі гаўптман Ганс Ёхім Кольморген.

— Нам вядома, што вы камуніст, засланы для падрыўной работы ў тыле войск фюрэра, — крычыць Кольморген. — Назаві саўдзельнікаў, раскажы праўду. Толькі гэта аблегчыць твой лёс.

— Не, — цвёрда адказвае Абрамаў, — ніякіх паказанняў вам даваць не буду, і не ведаю, што вам ад мяне трэба?

Два дужыя эсэсаўцы накінуліся і пачалі біць гумавымі палкамі. Катавалі і сам Фрыдрых Келерман, і яго памочнік Ёзеф Тытцэ. Білі па-зверску, адлівалі вадой, задавалі тое ж пытанне і зноў білі. А раніцай, каб зламаць волю сваёй ахвяры, фашысты арыштавалі Соф'ю Міканораўну з дзецьмі, правялі паўз камеру змучанага катаваннямі Абрамава.

Абрамава дапытвалі бесперапынна. Некалькі разоў у дзень званіў капітан Ганс Кольморген і начальнік гебітскамісарыята Мазыра Фрыц Гале, чакаючы паказанняў разведчыка. І кожны раз чулі адно і тое ж: «Маўчыць!»

На восьмыя суткі ўначы фашысты, разлютаваныя жалезнай стойкасцю Абрамава, Казачэнкі і іншых патрыётаў, вывезлі Цімафея Яўсеевіча, Рамана Казачэнку і яшчэ некалькі дзесяткаў патрыётаў да месца пакарання. Расстрэльвалі з кулямётаў і спіхвалі ў яму.

«Да гэтага часу не магу забыць нечуваных здзекаў, якія перажыла ў фашысцкім засценку, — расказвае Соф'я Міканораўна. — Білі плёткай, білі пісталетам па галаве і твары, у падбародак, траціла прытомнасць і падала, але гаварыла адно: нікога не ведаю, у кватэры нікога не бачыла, муж нікуды, апрача работы, не хадзіў, у справы мужа не ўмешвалася. Для запалохвання фашысты ставілі мяне на калені перад знявечаным трупам, з выкалатымі вачыма, адрэзанымі вушамі, і ўсё патрабавалі: гэта будзе і з табой, гавары пра саўдзельнікаў мужа. Пасля вызвалення Мазыра я адразу ж пайшла ў турму, дзе сядзеў муж, і ў камеры ніжэй акна прачытала: «Бывайце, жонка і дзеці, мяне сёння пакараюць смерцю, бывай Радзіма» — а ніжэй тры літары «А. Ц. Я».

Так загінуў разведчык-камуніст Цімафей Яўсеевіч Абрамаў. Якому было тады ўсяго 24 гады...

●

«ПІША вам дачка брыгаднага ваеннага ветурача Говарава Мікалая Міхайлавіча, якога фашысты расстралялі зімой 1943 года ў Мазыры. Да гэтага часу мы не ведаем падрабязнасцей аб рабоце і жыцці нашага бацькі ў Мазыры, таму што на ўсе нашы запыты афіцыйныя органы горада адказвалі, што партызан, якія ведалі Говарава М. М., у Мазыры няма».

Займаючыся раскрыццём подзвігу разведчыка Абрамава, я ўстанавіў, што брыгадны ветурач Говараў М. М. таксама працаваў у групе Абрамава з канца студзеня 1942 г. і што ў Мазыры ёсць многа нашых партызан, падпольшчыкаў, мірных грамадзян, якія асабіста ведалі і сустракаліся з Говаравым, ведалі пра яго патрыятычную работу ў падполлі Мазыра...

Пасля гібелі Абрамава ўвесь цяжар работы па падполлі лёг на плечы ветэрана грамадзянскай вайны Говарава, які афіцыйна лічыўся ветурачом пры Мазырскай ветлячэбніцы.

...Увосень 1941 года Говараў трапіў у акружэнне, а потым і ў палон. Мікалай Міхайлавіч быў змешчаны ў Ноўгарад-Валынскі канцэнтрацыйны лагер, адкуль яму неўзабаве ўдалося ўцячы. Хутка ён аказаўся ў Мазыры і звязаўся з мясцовымі падпольшчыкамі.

Пасля арышту Абрамава ўсе яўкі былі перанесены ў ветлячэбніцу і часткова на кватэру Говарава.

Вось што расказвае падпольшчык Л. Макарчук: «У 1942—1943 гг. я працаваў конюхам у Мазырскай ветлячэбніцы, якую ўзначальваў Говараў. На мне ляжаў абавязак падтрымліваць сувязь з мясцовымі партызанамі. Карыстаючыся пастаянным пропускам, я больш як дзесяць разоў прывозіў партызанам прадукты, тытунь, медыкаменты і адзенне, а ад партызан прывозіў Говараву пісьмы, лістоўкі, розныя ўказанні».

Улетку 1942 года, знаходзячыся па справах службы ў вёсцы Міхалкі, ветурач устанавіў, што на мясцовым маслазаводзе скапілася многа масла, смятаны, сыру. Говараў неадкладна звязаўся з партызанамі Сычовым, Казловым і іншымі. Цёмнай ноччу група ў 12 чалавек на чале з Говаравым выйшла на аперацыю. Ішлі хутка, каб справіцца з дыверсіяй да світання.

Ля самага маслазавода аднекуль вынырнуў вартавы, але стрэліць не паспеў: ударам прыклада яго знялі без шуму. Некалькі паліцэйскіх узнялі рукі ўгору. Уся прадукцыя маслазавода была пагружана на падводы і адпраўлена партызанам, а Говараў, як заўсёды, своечасова аказаўся на рабоце, у ветлячэбніцы. Толькі па прыпухлых вачах і стомленым выглядзе можна было здагадацца, што чалавек правёў трывожную бяссонную ноч.

Чалавек высокай культуры, гарачай любві да Радзімы, Мікалай Міхайлавіч валодаў рэдкай вытрымкай, душэўным спакоем і прывабнасцю. Нездарма ветурачы Міхаіл Сяргеевіч Шэмет, Кацярына Міхайлаўна Іванова, конюх Ларыён Рыгоравіч Макарчук, прачка Марыя Кірылаўна Ліс, прыбіральшчыца Ганна Рыгораўна Сафронава і яе сын Мікалай Гаўрылавіч Сафронаў, якія працавалі з ім, ахвотна аказвалі яму дапамогу ў цяжкай і небяспечнай рабоце.

— Ніколі не падайце духам, — любіў гаварыць Говараў сваім таварышам, — перамога будзе за намі.

Вестка аб акружэнні гітлераўскіх войск пад Сталінградам выклікала ў гэтым чалавеку незвычайны прыліў сіл і радасці. Мікалай Міхайлавіч не спаў начамі, пісаў лістоўкі, планаваў новыя дыверсіі, пісаў пісьмы. Адно з іх незадоўга да арышту ён перадаў Лідзіі Кажадуб...

Аднак многія задумы засталіся няздзейсненымі. Вораг быў хітры, вопытны, каварны. У канцы 1942 года зноў пачаліся арышты падпольшчыкаў. Хутка быў арыштаваны і Говараў.

Больш як месяц яго катавалі. Говараў не сказаў ні слова.

Зімой 1943 года Говараў, Шэмет, Казлоў, Матвееў і іншыя савецкія патрыёты былі расстраляны ў раёне яўрэйскіх могілак, дзе забілі раней Цімафея Абрамава, Рамана Казачэнку і дзесяткі іншых савецкіх патрыётаў.

Цудоўны вобраз савецкага чалавека, камуніста можна дапоўніць яго пісьмом ад першага верасня 1941 года. Нягледзячы на тое, што ўжо бушавала полымя Вялікай Айчыннай вайны, Мікалай Міхайлавіч не забываў свае бацькоўскія абавязкі. Якой высакароднасцю і аптымізмам павявае ад гэтага пісьма! Ён піша дзецям:

«Дарагія мае дзеці Лора, Росця, і Толя. Віншую вас з пачаткам новага навучальнага года. Гэты навучальны год вы пачынаеце ў той момант, калі наша гераічная Чырвоная Армія вядзе барацьбу з нахабнымі нашымі ворагамі — нямецкімі фашыстамі. Мы тут на фронце прыкладзём усе нашы сілы, каб у найкарацейшы тэрмін вызваліць нашы вобласці, часова занятыя ворагам — ненавіснымі фашыстамі, якія разбураюць культуру і цягнуць чалавецтва да змрочнага сярэдневякоўя. Ад вас, будучых будаўнікоў нашага сацыялістычнага грамадства, патрабуецца авалодаць у дасканаласці ўсімі ведамі, якія вам даюць у школе. Партыя і ўрад далі вам поўную магчымасць для гэтага і мая парада бацькі — вучыцца толькі выдатна і добра. Цалую вас моцна. Ваш бацька М. Говараў».

---

Заканчвалася баявая ноч з 15 на 16 красавіка сорак пятага. Першая баявая ноч на подступах да Перамогі.

## 3. ШТУРМАН ІВАН ОСЬКІН

Ні ў першы, ні ў другі дзень вялікага наступлення ў эскадрыллі не было страт. Але вось, здаецца, 20 красавіка, не вярнуўся з баявога задання адзін экіпаж. А ўдзень прыйшло паведамленне: недалёка ад Одэра, на занятай нашымі войскамі тэрыторыі, знойдзены самалёт. Лётчык і штурман загінулі.

...Штурман Іван Оськін. Весялун і наш палкавы паэт. Не адзін дзесятак баявых вылетаў ён зрабіў. Прайшоў з баямі ад берагоў Ільмень-возера да рубяжоў перамогі. Але да Берліна не паспеў. Варожы снарад цяжка параніў і самалёт і экіпаж. Не даляцелі хлопцы да аэрадрома, каб далажыць: «Заданне выканана!» Смерць узяла іх у паветры.

Я добра памятаю гэтага хлопца з непакорлівай рыжаватай шавялюрай. Ён часта прыходзіў да мяне ў зямлянку са сшыткам у чырвоным каленкоравым пераплёце. Крыху бянтэжачыся, пытаўся:

— У вас ёсць крыху вольнага часу, таварыш камандзір?

Я разумеў, навошта Оськіну спатрэбіўся мой вольны час. Адразу адказваў:

— Давай, Ваня, чытай...

Ён разгортваў сшытак, спісаны слупкамі строф і пачынаў чытаць.

Гэта былі вершы пра Маскву, пра лётчыкаў-начнікоў, лірычныя пасвячэнні той, якая чакала яго недзе далёка ў тыле нашай Радзімы.

Вершы Івана Оськіна чыталіся на нашых вечарах мастацкай самадзейнасці, друкаваліся ў палкавой насценнай газеце, у армейскім друку.

Пасля першых баявых начэй Берлінска-Одэрскай аперацыі, у цёплы сонечны дзень, сабраліся лётчыкі, штурманы, тэхнікі. Іван Оськін чытаў вершы пра будучую перамогу. На жаль, я не запомніў іх, не захаваўся і сшытак у чырвоным каленкоравым пераплёце. Толькі памятаю, аднойчы, тут жа на аэрадроме, Іван Оськін чытаў нам свой апошні твор. Ён клікаў у бой, на ратны подзвіг у імя Айчыны. Ён быў напоўнены вялікай сардэчнай верай у жыццё, шчасце, перамогу.

Гэту веру мы пранеслі на чырваназорных крылах да самага Берліна. Полк заслужыў званне Чырванасцяжнага Берлінскага. Гэтыя словы і выгравіраваны гарачым металам па дубовым абеліску на магіле нашага крылатага паэта Івана Оськіна на правым беразе Одэра.

---



Сустрэліся баявыя сябры. Злева — Вернер Нерліх.

# СУСТРЭЧА Ў ПАТСДАМЕ

РОУНА ГОД таму мне давялося быць у камандзіроўцы ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Там у мяне адбылася хвалюючая сустрэча, пра якую хочацца расказаць.

У Патсдаме мы любаваліся яго славутымі паркамі. Наведалі палац Сан-Сусі — багатую летнюю рэзідэнцыю былых імператараў, дзе сабрана нямала твораў вялікіх майстроў. Цяпер Сан-Сусі — вядомы музей.

Але яшчэ больш нас зацікавіў другі патсдамскі музей, які размешчаны ў невялікім палацы Цацыліенхоф, што належаў раней нямецкаму кронпрынцу. Менавіта ў гэтым доме пад чырвоным чарапічным дахам, за шэрымі каменнымі сценамі, увітымі плюшчам, праходзіла Патсдамская канферэнцыя. У час экскурсіі да мяне падышоў работнік бюро падарожжаў і ціха запытаў:

— Вас можна на хвілінку?

Мы выйшлі ў калідор.

— Пойдземце з музея, — прамовіў ён тонам змоўшчыка. — Я пакажу вам штосьці вельмі цікавае для вас.

Каля палаца я ўбачыў высокага мужчыну гадоў пяцідзесяці пяці. Памяць маланкава перанесла мяне ў мінулае, і я пазнаў гэтага чалавека, хоць расстаўся з ім у той час, калі мы абодва былі маладыя.

А ён ужо крочыў насустрач. І ў наступнае імгненне мы моцна абняліся. Перада мной быў Вернер Нерліх, мой франтавы таварыш і друг, якога я не бачыў з канца вайны. Гляджу на Вернера і бачу слёзы на яго шчаках.

— Вернер, ці ты гэта?

— А хто ж?

— Мне здаецца, што ты бацька Вернера.

— А мне здаецца, што ты бацька Аляксандра, — у лад мне адказвае ён.

Вакол нас сабралася ўся наша група. Пстрыкалі фотаапараты і кінакамеры. А мы, нібы сляпыя, нічога не заўважалі.

Неўзабаве Вернер запрасіў мяне ў сваю аўтамашыну, якая стаяла тут жа, і сказаў:

— Садзіся. Пакажу табе наш горад, які мы з табой вызвалялі.

Ён вёў машыну і расказваў пра Патсдам, у якім жыве і цяпер. А я глядзеў на горад і не пазнаваў яго — да таго ён змяніўся і папрыгажэў.

А Вернер усё гаварыў, усё паказваў і паказваў.

— Вунь там жылі мае бацькі, — сказаў ён. — Памятаеш?

Яшчэ б не памятаць! Мы толькі што вызвалілі горад, у якім жыў і «наш Вернер», як мы называлі Нерліха. І ён папрасіў дазволу наведаць бацькоў. Паехаў з ім і я. Вось і дом. Стукаем, але ніхто не адчыняе. А час, адпушчаны нам, ужо на зыходзе. Тады я забарабаніў у дзверы.

Ціха бразнула клямка, і Вернер, расчыніўшы дзверы, замер на месцы. А за парогам, амаль непрытомная, застыла яго маці. Яна не верыла сваім вачам. Тут Вернера даўно пахавалі, а ён стаяў перад ёю ў чырвонаармейскай форме і паўтараў:

— Мама, гэта я. Гэта я, мамачка!

Здаецца, даўно гэта было, але не забылася. З таго часу мы пастарэлі. Затое выраслі нашы дзеці. І выраслі гарады, як і гэты вось, Патсдам, які калісьці ляжаў у руінах.

— Вернер, — кажу я другу, — раскажы пра сябе.

І ён пачаў расказваць пра сябе. Паўтарыў і тое, што я даўно ведаў. Як ён, малады мастак, быў прызваны ў гітлераўскую армію. Як быў асуджаны ваенным трыбуналам «за разлажэнне войск» і прыгаворан да штрафных работ на мінных палях. Гэта было раўназначна смяротнаму прысуду. Але Вернер выжыў. Вайна супраць Савецкага Саюза жэрла зграі вермахта, і Нерліха адправілі на Усходні фронт, пад Сталінград. Там ён і перайшоў лінію фронту.

А затым лагер ваеннапалонных, агітацыйная работа сярод палонных, антыфашысцкая школа, пасля заканчэння якой з ім гутарыў Вальтэр Ульбрыхт. Гэта была незабыўная сустрэча.

Неўзабаве Нерліх прыбыў у якасці ўпаўнаважанага Нацыянальнага камітэта «Свабодная Германія» ў 28-ю армію, дзе служыў і я. Разам з ім мы пісалі лістоўкі і тэксты радыёперадач, апытвалі палонных, ляжалі ў акопах на перадавой, звяртаючыся па гучнагаварыцелі да нямецкіх салдат і афіцэраў. Нас падружыла вайна.

У маі 1945 года Вернер застаўся на радзіме. Ён уступіў у кампартыю, загадваў аддзелам прапаганды ў зямельным камітэце партыі, пісаў антыфашысцкія плакаты. Але ён быў перш за ўсё мастак, і мастацтва паклікала яго да сябе.

15 год Вернер Нерліх працуе дырэктарам мастацкай школы ў Берліне. Ён — віцэ-прэзідэнт Акадэміі мастацтваў ГДР, прафесар, мастак, вядомы не толькі ў сваёй краіне.

— Цікава, як цябе сустрэлі ў Патсдаме ў 1945 годзе? — запытаў я Вернера.

— Па-рознаму, — адказаў ён і задумаўся: — Былі і такія, што называлі «здраднікам Вернерам у чырвонаармейскай уніформе». А ўвогуле... увогуле пазаўчора, у гонар Дня Вызвалення, мне прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Патсдама. Уручан Ордэн заслуг перад айчынай.

— А як сямейныя справы?

— Жанаты. Маю дзвюх дачок — Лідзію і Тамару. Іх імёны напамінаюць мне маю другую радзіму — вашу краіну.

— Значыцца, усё добра?

— Вельмі добра. Не дарма ж мы з табой прайшлі агонь і ваду.

Апошнія словы ён сказаў па-руску.

Мы спыніліся на ўскраіне Патсдама. Выйшлі з машыны. Проста ад дарогі ішоў пакаты спуск да ракі, якую відаць было ў далечыні.

Між намі і ракой цягнуліся бясконцыя сады ў квецені.

У той жа вечар Вернер запрасіў мяне ў сваю студыю. Яго атэлье размяшчалася на верхнім паверсе вышыннага будынка. За прасторнымі вокнамі мільгацелі тысячы агеньчыкаў сталіцы акругі.

Я глядзеў работы мастака-барацьбіта: амаль завершаныя і толькі пачатыя карціны, эскізы фрэсак, узоры мастацкага афармлення будынкаў. На сцяне вісела фатаграфія карціны, якая адразу зацікавіла: Ленін у паліто і кепцы, энергічны твар з родным прышчурам. Унізе подпіс: «Ленін. В. Нерліх. 70».

— Гэтую карціну я напісаў для выстаўкі, прысвечанай стагоддзю з дня нараджэння Ільіча, — сказаў Вернер. — На выстаўцы мастакоў ГДР у Берліне шмат выдатных палотнаў пра Ільіча.

Я глядзеў і не мог адарвацца...

«Як ты думаеш, удалося?» — пыталі мяне вочы Вернера.

«Так, — падумаў я. — Гэта — Ленін. Гэта ваша жыццё і наша жыццё».

А. СЕРДЗЮКОЎ.

# ДЗЕЛЯ НОВАГА ЎЗДЫМУ РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

VI З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ Беларусі праходзіў у дні высокага працоўнага ўздыму, выкліканага рашэннямі XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, — з'езда, які выпрацаваў навукова абгрунтаваную праграму жыцця і дзейнасці савецкага грамадства, асвятліў шлях да новых вышынь камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Свой форум пісьменнікі рэспублікі сустрэлі значнымі творчымі поспехамі. За гады, што прайшлі паміж V і VI з'ездамі, за гады, што супалі з гадамі восьмай пяцігодкі Савецкай краіны, беларускія літаратары стварылі нямала твораў, якія атрымалі шырокае прызнанне не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі, твораў, якія маюць вялікае значэнне ў выхаванні савецкіх людзей у духу камуністычнай ідэйнасці.

Поспехі беларускай літаратуры, як адзначалася ў справаздачным дакладзе праўлення Саюза пісьменнікаў «Беларуская літаратура на новым уздыме», з якім выступіў першы сакратар праўлення Максім Танк, сапраўды значныя. Разам з тым дакладчык галоўную ўвагу засяродзіў на тых недахопах, праліках і ўпушчэннях, якія яшчэ ёсць у рабоце пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі, на тым, што ў нас усё яшчэ друкуецца нямала твораў, слабых у ідэйна-мастацкіх адносінах, павярхоўных, пазбаўленых жыццёвай праўды. У справаздачным дакладзе з усёй сур'ёзнасцю і партыйнай прынцыповасцю было падкрэслена, што ў нашай літаратуры яшчэ далёка недастаткова вырашаецца тэма працы ва ўсёй яе складанасці і глыбіні, няпоўна, а часам і слаба адлюстроўваюцца тыя працэсы і з'явы, што адбываюцца сёння на заводах і фабрыках, у калгаснай і саўгаснай вёсцы, што асноўным героем твораў усё яшчэ не стаў савецкі чалавек, наш сучаснік ва ўсёй велічы яго спраў, клопатаў, імкненняў.

Партыя заклікае дзеячоў літаратуры і мастацтва заўсёды быць на перадавой лініі барацьбы за камунізм, ярка і праўдзіва адлюстроўваць усю шматграннасць нашай багатай рэчаіснасці, ствараць яркія вобразы нашых сучаснікаў, перш за ўсе — людзей працы з іх штодзённымі гераічнымі справамі, думамі, пачуццямі. У прывітанні Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі VI з'езду пісьменнікаў рэспублікі гаворыцца: «Духоўныя і культурныя запатрабаванні народа, якія няспынна павялічваюцца, патрабуюць ад пісьменніка плённай працы па стварэнні высокамастацкіх вобразаў сучаснага савецкага рабочага, працаўніка калгаснай вёскі, прадстаўніка народнай інтэлігенцыі. Сілай мастацкага слова кожны твор павінен пастаянна служыць вялікай справе барацьбы за камуністычныя ідэалы, глыбока і ўсебакова раскрываць веліч і маштабы стваральнай працы савецкіх людзей, несці свету праўду пра наша грамадства, пра сацыялістычны лад жыцця...

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі выказвае цвёрдую ўпэўненасць у тым, што пісьменнікі рэспублікі, верныя агульнанароднай справе будаўніцтва камунізма, будуць і надалей усе свае творчыя сілы аддаваць беззапаветнаму служэнню народу, дастойна адлюстроўваць яго велічныя здзяйсненні, сцвярджаць вернасць савецкіх людзей усепераможнаму сцягу вялікага Леніна».

Пафасам гэтых патрабаванняў была прасякнута работа з'езда, які прайшоў у дзелавой, працоўнай атмасферы. У справаздачным дакладзе і ў выступленнях таварышаў, якія прынялі ўдзел у спрэчках па дакладзе, гучала шчырая заклапочанасць далейшым ростам нашай літаратуры, ішла патрабавальная гаворка аб поспехах і няўдачах у рабоце пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі — творчых і арганізацыйных, аб тых задачах, якія стаяць перад літаратарамі Беларусі ў святле рашэнняў гістарычнага XXIV з'езда партыі, выказвалася ўпэўненасць у тым, што наша літаратура па-ранейшаму будзе служыць вялікім ідэалам камунізма, што беларускія пісьменнікі будуць нястомнымі памочнікамі партыі ў здзяйсненні тых гістарычных прадвызначэнняў, якія вядуць наша грамадства да светлых камуністычных вышынь.

Частка матэрыялаў з'езда, як вядома ўжо чытачу, апублікавана ў мінулым нумары штотыднёвіка. Сёння змяшчаем скарочаныя стэнаграмы выступленняў таварышаў, якія прынялі ўдзел у спрэчках па справаздачным дакладзе праўлення і дакладзе рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

## МОЛАДЗЬ – БУДУЧЫНЯ ЛІТАРАТУРЫ

*З выступлення Алеся АСІПЕНКІ*

ЯК ГЭТА НІ ДЗІЎНА, але з даволі бурным ростам пісьменніцкіх радоў колькасць кніг, што выдае наша выдавецтва, не толькі не павялічваецца, а, бадай, памяншаецца. Не дужа завозна з новымі творамі і ў рэдакцыях часопісаў, хоць здавалася б, што шэсцьдзесят чатыры новапрынятыя члены саюза павінны былі павялічыць гэтую чаргу. Ці не гаворыць гэта пра тое, што мы крыху занізілі патрабаванні пры прыёме ў члены саюза? Мусіць, гэта гаворыць і пра іншае: пра недастатковую творчую і грамадзянскую актыўнасць пісьменнікаў — зрэшты, не толькі пісьменнікаў малодшага пакалення, але і старэйшага.

Слушныя думкі аб выхаванні творчай моладзі выказаў на старонках «ЛІМа» Ніл Гілевіч і не прыняць іх пад увагу было б, мабыць, памылкай. Асноўным метадам выхавання маладых мы зрабілі ўшчуванне. Што ж, ушчуванне таксама мае пэўнае значэнне, але калі яно становіцца надакучлівым, тады пачынае прыносіць шкоду.

Гэта праўда, што сярод некаторай часткі маладых літаратараў назіраецца прыкметная пасіўнасць да ўдзелу ў творчых размовах. Аднак справа, мабыць, у той атмасферы, што запанавала ў Саюзе пісьменнікаў. Асноўныя пытанні жыцця нашага саюза вырашаліся кялейна, пры зачыненых дзвярах. Разгляд жа творчых пытанняў найбольш ішоў у агульных маштабах, канкрэтнага аналізу творчасці маладых не ставала. Раней, перад прыёмам у саюз, творчасць маладога ў прысутнасці яго і ў адкрытым парадку разглядалася на секцыях. На пасяджэннях прэзідыума таксама, перад галасаваннем, ішла гаворка аб творчым абліччы будучага члена пісьменніцкай арганізацыі. Цяпер жа ўсё робіцца ціхком, як у масонскіх ложах.

Забыліся мы і на тое, што заахвочванне, давер — важныя сродкі выхавання. Да часу і да месца сказанае добрае слова, дадзенае даручэнне, прэмія — усё гэта разам з патрабавальнасцю нагадвае маладому творцу, што ён не хлапчук, а ўвагай і павагай надзеленая асоба.

У літаратуру апошнім часам ідзе моладзь, запасікі памяці якой не вельмі багатыя, бо ёй, у адрозненне ад папярэдніх пакаленняў, не даводзілася так шчыльна сутыкацца з жыццём. А папаўняць гэтыя запасікі ім не так лёгка. Усе яны, як і мы, старэйшыя, нясём службу, пры якой не толькі што жыццё вывучаць — пісаць няма часу. Таму адных заклікаў быць бліжэй да жыцця мала. Патрэбны зусім пэўныя захады кіраўніцтва саюза, якія б садзейнічалі ажыццяўленню гэтых заклікаў.

Апошнім часам склалася надзвычай цяжкае становішча з выданнем кніг маладых пісьменнікаў. Многія з іх чакаюць сваёй першай кнігі па тры-чатыры і больш гадоў. Думаецца, што, апрача таго, што нам абавязкова трэба мець выдавецтва мастацкай літаратуры, патрэбна ўсур'ёз падумаць і над тым, каб пры часопісе «Маладосць» стварыць бібліятэку маладога паэта і навеліста, дванаццаць зборнікаў якой палегчылі б справу і з'явіліся б асновай для стварэння спецыяльнага маладзёжнага выдавецтва.

Малады талент не можа развівацца, не можа расці, калі ён жыве адасоблена, не ўдзельнічае ў творчым жыцці. Семінары і творчыя нарады маюць пэўнае значэнне ў выхаванні маладых творчых сіл. Бяда, аднак, у тым, што паміж семінарамі малады пісьменнік прадастаўлены сам сабе. Праўда, у нас ёсць літаратурныя аб'яднанні, але што там робіцца і чаму там вучаць, нікому не вядома. Часопіс «Маладосць», які павінен быў бы стаць цэнтрам масавай і творчай работы з маладымі пісьменнікамі, такой лабараторыяй не стаў. Не стаў таму, што штаты ў яго тыя, якія былі яшчэ тады, калі ён быў тонкім часопісам. У нас у рэдакцыі няма нават аддзела крытыкі і бібліяграфіі. Пра які ж творчы цэнтр можа ісці гаворка!

У саюзе ўся творчая работа вымяраецца тым, што маладым часам аказваецца грашовая дапамога. На творчых жа пленумах, на пасяджэннях секцый творчасць маладых звычайна аналізуецца пад рубрыкай «і іншыя». Вось чаму, думаецца, настала пара стварыць рэспубліканскае літаратурнае аб'яднанне, праца ў якім была б накшталт кандыдацкага стажу для паступлення ў саюз. На чале гэтага аб'яднання павінен стаяць адзін з кіраўнікоў пісьменніцкай арганізацыі — чалавек аўтарытэтны і вопытны. Кансультанты Саюза пісьменнікаў таксама павінны знаходзіцца пры гэтым аб'яднанні. У яго пасяджэннях абавязаны рэгулярна ўдзельнічаць пісьменнікі. Дарэчы, вопытныя літаратары павінны дапамагаць маладым у рэдагаванні іх кніг, бо прафесійны ўзровень выдавецкіх рэдактараў у апошні час вельмі панізіўся, а правы іх павысіліся.

Творчая праца — гэта галоўны клопат саюза. Але дзеля таго, каб творчая праца трывала, неабходны спрыяльныя ўмовы. Перш за ўсё, паўтараю, патрэбна сапраўды творчая атмасфера. Давайце будзем спрачацца доказна, без крыўд і помсты, давайце гаварыць праўду, але без злосці і жадання звесці рахункі.

Жыццё так шпарка рушыла наперад, савецкі чалавек так вырас духоўна, што, каб пісаць пра яго і дзеля яго, трэба і самому няўхільна вучыцца і расці. Адных кніжных ведаў мала, патрэбна веданне нашага шматграннага жыцця. Думаецца, што новаму кіраўніцтву саюза ёсць да чаго прыкласці рукі, і хочацца верыць, што мы будзем жыць больш змястоўна, атрымліваць ад саюза не толькі нейкія там матэрыяльныя даброты, але і творчы запал, і таварыскую падтрымку.

## СІЛЫ І ТАЛЕНТ – ЛЮБАЙ РАДЗІМЕ

*З выступлення народнага паэта Беларусі Петруся БРОЎКІ*

РАШЭННІ XXIV з'езда партыі адкрываюць такія перспектывы матэрыяльнага і духоўнага жыцця народа, ад якіх, калі ўдумацца, займае дух. І пабудова новых волатаў у Мазыры, Магілёве, Оршы, Бабруйску і Гродне, і ўзбуйненне тых, што ўжо працуюць у Салігорску, Мінску, Наваполацку, і ўзбуйненне рэчышчаў нафты, якія параджае беларуская зямля, і значнае павышэнне ўрадлівасці ад асушэння спрадвечных багнаў і ад паляпшэння ўсяе глебы, — усё гэта сапраўды натхняе кожнага творчага работніка. Працуючы разам з народам, які стварае гэтыя сапраўдныя багацці, можна і трэба ствараць творы, вартыя яго цудатворнай дзейнасці.

Але кругагляд наш павінен быць усебаковым. Маючы на мэце напісанне твораў аб новай рэчаіснасці, мы павінны памятаць, што мы яшчэ вялікія даўжнікі перад сваім народам. Нельга сказаць, што ўсё велічнае, што бачылі і адчулі мы, намі адлюстравана. Так, у нас з'явіліся творы і пра новабудоўлі, і наогул на рабочую тэматыку, але калі прымерацца да Салігорска, да Наваполацка, да Гомельскага хімічнага, ды і да шмат якіх іншых новабудоўляў, дык сапраўды адчуеш, як шмат намі яшчэ недароблена. Адстаём мы ад жыцця і ў паказе нашай вёскі.

Прызнаюся, што ўжо многа год, яшчэ тады, калі быў малады, была ў мяне задума напісаць лірычную аповесць пра каханне двух юных сэрцаў на, як кажуць, вясковым матэрыяле. Мне здавалася, што на тым матэрыяле, які я ведаў з дзяцінства і юнацтва, я мог бы гэта зрабіць. Але гады ішлі, і па розных абставінах я не выканаў сваёй задумы. А вось цяпер, у даволі сталыя гады, калі мне асабліва захацелася расказаць пра гэта, дык адчуў, што пры тым веданні сельскага жыцця, якім валодаю сёння, здзейсніць сваёй задумы не магу, бо па-сапраўднаму, у дэталях не ведаю таго дзейснага жыцця, якое будуюць мае героі. Кароткія наведванні сяла не маглі мне даць усебаковага ведання жыцця нашай сельскай моладзі. Вось я і падумаў, што, каб узяцца мне цяпер за гэтую працу, якая мяне даўно хвалявала і, прызнацца, яшчэ хвалюе і цяпер, мне, пры-

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ



П. Пестрак і П. Прануза сярод гасцей з'езда.



Г. Бураўкін, Н. Пашкевіч і Р. Эсенаў (Ашхабад).



Т. Хадкевіч, М. Ракітны і скульптар С. Селіханаў.

намсі, трэба пажыць 3—4 месяцы, самае малое, у добрым калгасе, каб дадаць неабходнае да таго, што ведаю.

Кажу пра ўсё гэта таму, што кожны літаратар, які бярэцца за тую ці іншую працу, лавінен дасканала вывучаць жыццё. Гэтая думка зусім не новая, але вельмі актуальная. Прыклад вялікіх твораў паказвае шлях да гэтага.

У пацвярджэнне гэтай думкі П. Броўка прыгадвае жыццёвыя і творчыя лёсы народных песняроў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, творчы прыклад Кузьмы Чорнага, якія дасканала ведалі жыццё народа, былі непарыўна звязаны з жыццём краіны і актыўна ўдзельнічалі ў ім. Прамоўца падкрэслівае, што гэтая паўнакроўная сувязь з жыццём і забяспечвала Я. Купалу, Я. Коласу і К. Чорнаму сапраўдную народнасць іх творчасці, падказвала ім тэмы і вобразы, падштурхоўвала іх пісаць пра тое, што найбольш хвалявала народ у той час.

Далей П. Броўка гаворыць аб рабоце над стварэннем Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, аб тым, з якімі цяжкасцямі сустракаецца рэдакцыйны калектыў у падрыхтоўцы матэрыялаў БелСЭ па пытаннях літаратуры і мастацтва. У прыватнасці, ён адзначае, што не вывучаны, як належыць, так званы «нашаніўскі» перыяд нашай літаратуры, што пра шмат каго з дэмакратычных дзеячоў роднай літаратуры няма нават бія-біблія-графічных звестак, вельмі абмежаваная колькасць манаграфічных даследаванняў канкрэтных літаратурных помнікаў, няма вычарпальных матэрыялаў аб літаратурных сувязях Беларусі з літаратурамі братніх савецкіх народаў і замежных краін, не распрацавана гісторыя дарэвалюцыйнага беларускага тэатра, няма даследаванняў па народных беларускіх танцах, няма кніг, якія б асвятлялі музычнае жыццё беларускіх гарадоў дарэвалюцыі і ў наш час, адсутнічаюць навуковыя працы па тыпалогіі будынкаў і пабудоў і г. д.

Нягледзячы на гэтыя цяжкасці, выхад двух тамоў БелСЭ прыхільна сустрэты нашым друкам і грамадскасцю. Нават беларускія буржуазныя нацыяналісты за мяжой не здолелі аспрэчваць вялікага значэння выхаду Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Праўда, яны скардзяцца, што энцыклапедыя занадта «савецкая». Але тое, што ім не падабаецца—гэта наш гонар. Мы ствараем энцыклапедыю не наогул і тым больш не для нацыяналістаў, а менавіта савецкую, на падставе вучэння марксізма-ленінізма. У нас свая камуністычная ідэалогія і мараль. Гэта нам трэба заўсёды памятаць як у стварэнні нашай БелСЭ, так і ў творчасці кожнага літаратара.

У наш час ідзе надзвычай вострая ідэалагічная барацьба двух светаў, і кожнаму з нас трэба цвёрда ведаць сваё месца. Я не разумею тых людзей—праўда, іх нікчэмныя адзінкі,—якія ганяюцца за псеўдапапулярнасцю на захадзе. Гэтую танную папулярнасць не цяжка набыць, варта толькі даваць у сваіх творах сёе-тое, што патыхае антысаветчынай. Але гэтая папулярнасць і на капіталістычным захадзе нядоўгавечная. Выкарыстаўшы, што ім трэба, у сваіх мэтах, нашы ворагі хутка адкідаюць такіх аўтараў як непатрэбшчыну. Мы ўжо маем такія прыклады. Забыты на захадзе і некаторыя творы, вакол якіх было раней нямала шуму. Ну, а наш народ закляйміў іх у свой час ганьбай, а зараз нават і не ўспамінае. Вось чаму нікому не трэба шукаць таннай вядомасці за кошт інтарэсаў народа, а заўжды памятаць пра інтарэсы народа і Радзімы. А яна ў нас і да нас вельмі любая і ласкавая. Радзіма дзякуе нам за добрую працу, і мы павінны заўжды памятаць пра свой абавязак—добра і сумленна працаваць.

Ёсць такая песня: «З чаго пачынаецца Радзіма?» І праўда, пачынаецца яна з таго, што першым прыходзіць у нашы дзіцячыя вочы: з роднага парога, з роднае сасны ці бярозы, з роднае крыніцы, роднага поля, з роднай сцяжынкі. Але мы расцём. І расце ў нашых вачах і ў нашых сэрцах наша Радзіма. І ў нас, у беларускіх пісьменнікаў, яна вельмі вялікая. Яна Мінск і Брэст, Полацк і Гомель, Магілёў і Віцебск, Гродна і Баранавічы, Нёман і Дзвіна, Дняпро і Бярэзіна, Буг і Прыпяць. Але сёння яна для нас яшчэ большая, з Масквой у самым цэнтры, ад сцюдзёнага Нарыльска да спякотнага Душанбе, ад Уладзівастока да Комі, і ўсё добрае ў ёй нас радуе, а ўсё непамыснае—засмучае.

Будзем жа мы, беларускія паэты і пісьменнікі, актыўней працаваць, каб нашая любая Радзіма яшчэ больш магутнела і квітнела.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ



Р. Бярозкін дае аўтограф.

# «ЭПОХА НАСТОЙЛІВА ПАТРАБУЕ...»

*З выступлення Кастуся КІРЭЕНКІ*

У ГЭТЫЯ красавіцкія дні ўся Савецкая краіна жыве пад непасрэдным уражаннем XXIV з'езда КПСС, і нельга на нашым форуме не ўспомніць, якой гордасцю поўніліся нашы сэрцы, калі мы слухалі і чыталі даклад Генеральнага сакратара ЦК нашай партыі таварыша Брэжнева і выступленні дэлегатаў з'езда, у якіх з самай высокай павагай і прызнаннем, з самым высокім дзяржаўным клопатам партыя гаварыла і аб поспехах, і аб задачах савецкай літаратуры. Вызначаючы сваю палітычную лінію на будучыя гады, выпрацоўваючы планы стваральных перамог у імя народа, партыя камуністаў улічвала і нашы творчыя рэсурсы і магчымасці, рэсурсы і магчымасці савецкай літаратуры. Ці трэба гаварыць, які гэта гонар для нас і якія гэта ўскладае на кожнага з нас абавязкі!

З гэтых пазіцый я ўспрымаў і справаздачны даклад кіраўніцтва саюза на нашым з'ездзе пісьменнікаў. Мяне да глыбіні душы хвалюе і радуе факт з'яўлення многіх і многіх новых твораў у розных жанрах літаратуры, у якіх праўдзіва і ярка выпісаны вобразы будаўнікоў камунізма. Мяне кранае і радуе тое, што ў наша асяроддзе ўлілася багатая плынь маладых талентаў, у якіх сэрцы гарачыя і няўрымслівыя, энергія сонечная і жыццярадасная. І трэба толькі, каб маладыя нашы сябры ясна сабе ўсведамлялі, у які час і пад якой славаю яны ўступілі на свой літаратурны шлях. Савецкая літаратура народжана Вялікім Кастрычнікам, і самыя яркія свае поспехі здабыла ў барацьбе за справу камунізма. Воляю партыі Леніна, воляю ўсяго працоўнага народа наша літаратура стала часткай агульнапралетарскай, ленінскай партыйнай справы. Чым больш прыцягальным для народаў свету робіцца прыклад сацыялістычнага пераўтварэння жыцця ў нашай краіне, тым больш узрастае адказнасць савецкага пісьменніка не толькі перад сваім народам, але і перад народамі свету.

Сёння на ўсіх кантынентах нашай планеты ідзе няспынная, вострая і бескампрамісная ідэалагічная барацьба. І нам ніколі не трэба забываць, што імперыялізм у сваіх бясконцых дыверсіях супраць камунізма не спыняецца ні перад якімі самымі бруднымі намаганнямі ў спробах зганьбаваць працу савецкіх пісьменнікаў, прынізіць ролю і значэнне савецкай літаратуры, нейтралізаваць яе ўплыў на развіццё міжнароднага прагрэсу. Што асабліва ненавісна імперыялістам, дык гэта непахісная адданасць савецкіх пісьменнікаў ідэям Леніна, камуністычным ідэалам свайго народа. Чаго толькі не прыдумвае «мазгавы трэст» капіталу, каб наша самаадданае служэнне справе народа «растлумачыць» нібыта «адсутнасцю» ў нас свабоды творчасці.

З гэтых марных патуг імперыялізму мы можам толькі пасмяяцца. Калі вораг нас ненавідзіць — значыць, мы сапраўдныя камуністы. Калі твор таго ці іншага савецкага пісьменніка выклікае збянтэжанасць і злосць у лагеры імперыялізму—значыць, пісьменнік ідзе правільнай дарогай, значыць, яго творчасць актыўна і дзейсна адгукаецца на заклік гісторыі, пра які так выдатна сказаў у свой час вялікі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі: «Эпоха настойліва патрабуе ад літаратара ўдзелу ў будаўніцтве новага свету, ў абароне краіны, эпоха патрабуе ад літаратуры актыўнага ўдзелу ў класавых бітвах».

Прывёўшы шматлікія прыклады фарысейскай «свабоды творчасці» ў ЗША (праследаванні Уолта Уітмена, Джона Рыда, Альбера Рыса Вільямса і многіх сучасных амерыканскіх пісьменнікаў), К. Кірэенка гаворыць:

— На бязглуздыя і злосніцкія наскокі ворагаў адказ савецкіх пісьменнікаў заўжды быў, ёсць і будзе адзін: наша свабода творчасці нарадзілася разам са свабодай нашага народа, наша свабода творчасці ўзвышалася і будзе ўзвышацца разам са свабодай і росквітам нашага народа! І гэтая свабода — недатыкальная!

Далей прамоўца спыняецца на сённяшнім стане беларускай паэзіі. Мяне радуе, гаворыць ён, што наша паэзія апошняга часу пачала глыбей і больш настойліва ўзірацца ў жыццё, мяне радуе, што паэзія многіх маладых паэтаў набывае купалаўскую значнасць грамадзянства і купалаўскую яснасць формы. Мяне радуе, што крытыкі, якія прысвячаюць сваю ўвагу паэзіі, паступова пачалі вызваляцца ад нядобрага ўплыву самазваных заканадаўцаў мод і сталі больш сур'ёзна разумець псіхалогію творчасці, больш чалавечна ставіцца да разгляду і ацэнкі паэтычных здабыткаў.

Быць з чалавекам, жыць думамі і пачуццямі чалавека—стваральніка і творцы, які перарабляе свет, робіць яго прыгожым і шчаслівым, даражыць роднасцю з гэтым чалавекам, захапляцца яго справамі і разам з ім памнажаць і ўзвышаць гэтыя вялікія справы,—так разумеем мы свае задачы і будучае сваёй прафесіі.

Мы заўсёды памятаем, што савецкая літаратура заваявала пачэсныя пазіцыі ў свеце, заўсёды выступаючы як літаратура наступальнага пралетарскага гуманізму, як баявая паслядоўніца самых лепшых традыцый айчыннай і сусветнай літаратуры. Не забудзем, што лепшыя творы савецкай літаратуры — гэта тыя, што авеяны палымянасцю камуністычнай ідэі, адданасцю высокім ідэалам народа.

# СПАДЧЫНЕ — ПАМЯЦЬ І ПАШАНА

*З выступлення Уладзіміра ЮРЭВІЧА*

ХОЦЬ У ДАКЛАДЗЕ і намалявана шырокая панарама колькаснага росту нашай літаратуры, трэба шчыра прызнаць — зроблена намі куды як менш, чым на тое здатна такая рослая, дужая, ідэйна згуртаваная пісьменніцкая арганізацыя. Калі б у дакладзе, як казаў некалі Бялінскі, пераважала «вызначэнне ступені эстэтычнай вартасці твораў», панарама атрымала б глыбінную перспектыву, і мы мелі б магчымасць перажыць большую ўстрывожанасць тым, што пэўная і, можа, самая актыўная частка пісьменнікаў староніцца рэальнай складанасці жыцця, баіцца вастрыні грамадска значных праблем. І таму мы сустракаемся з творамі як бы і аб сучаснасці, але сацыяльна інфантыльнымі. А ўсё, мабыць, таму, што літаратура і крытыка прадаўжаюць толькі суіснаваць, без добра зачышчаных кантактаў.

Гэта адчувалася і ў дакладзе, дзе раздзел пра крытыку — багаты на пералік, ёмісты, але нават па стылі сваім недапасаваны да астатніх раздзелаў. Ён прагучаў аўтаномна. Нормай сённяшняга літаратурнага жыцця ў нас не стаў яшчэ саюз працы і навукі, як гэта ёсць у вытворчай дзейнасці чалавека. У нас да навукі справа не даходзіць нават тады, калі мы ўзважваем творчыя здабыткі — вельмі разнастайныя, рознафарбныя, рознагалосыя. На пленумах і з'ездах мы вымушаны заслухоўваць даклады, пабудаваныя часцей па старой завядзёнцы: кожнай сястрыцы па завушніцы. Ды яно, мусіць, сапраўды зацішней, калі няма крытыкаў у апараце Саюза пісьменнікаў, калі не надта густа іх у нашых друкаваных органах і ў выдавецтве.

Нам пашанцавала, што мы сабраліся на свой з'езд адразу пасля з'езда партыі, якая сярод мноства клопатаў адным з першых мае і клопат пра літаратуру, бо выразна ўсведамляе, што вялікую справу будаўніцтва камунізма нельга рухаць наперад без усебаковага развіцця чалавека. А ўсебаковае, гарманічнае развіццё нашага чалавека цяжка сабе ўявіць без шырокага, маштабнага выкарыстання невычэрпных магчымасцей—не толькі сённяшніх, але і ўчарашніх здабыткаў літаратуры, што складаюць залаты скарб у духоўным арсенале нашага грамадства.

У гэтай сувязі прамоўца спыняецца на праблеме адносін да культурнай спадчыны роднага народа, падкрэсліваючы, што вывучэнне і прапаганда мінулага мае вялікае значэнне. Сучаснае прачытанне забытых ідэй, вобразаў, традыцый можа падказаць нам шмат новага, карыснага ў нашай штодзённасці, пазнанне мінулага ці хоць бы больш-менш грунтоўнае азнаямленне з ім скарачае адлегласці па часе паміж рознымі пакаленнямі людзей, дазваляе разумець і засвойваць тое, чаго яшчэ не было ў табе самім.

Вывучэнне багатай спадчыны нашай літаратуры, у прыватнасці, спадчыны такіх яе волатаў, як Купала і Колас, адкрывае шырэй вочы на сучаснасць. Толькі шкада, што гэтае вывучэнне не наладжана ў нашай рэспубліцы як сістэма. Пры ўсіх поспехах купала- і коласазнаўства мы пакуль што не маем даследаванняў асобных найбольш значных перыядаў жыцця песняроў, іх грамадскай і навуковай дзейнасці, не даследаваны пераклады Купалы і Коласа на мовы іншых народаў, не створаны пакуль іх навуковыя біяграфіі, мы не маем нават летапісу іх жыццяў, цалкам аддадзеных служэнню народу.

Падрабязна спыняецца прамоўца на рабоце Літаратурнага музея Янкі Купалы, на тых праблемах і цяжкасцях, з якімі сутыкаецца калектыў яго супрацоўнікаў, прыводзіць прыклады няўвагі да роднай літаратуры з боку тых, хто займаецца масава-палітычнай, культурна-асветнай, выхаваўчай работай сярод самых розных слаёў насельніцтва, выказвае пажаданне, каб у рэспубліцы быў створаны агульналітаратурны музей.

У будучым годзе спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Купалы і Коласа. Гэта — не музейныя даты. Яны павінны стаць вялікім нацыянальным святам усяго беларускага народа, да яго трэба прывабіць увагу і іншых народаў нашай Радзімы. Было б добра, каб да дзён урачыстасцей на плошчах Мінска паўсталі велічныя помнікі бацькам нашай літаратуры Купалу і Коласу.

У нашай краіне сталі новай прыкметай часу масавыя святы паэзіі: яны праходзяць у Міхайлаўскім, на радзіме Пушкіна, у Каневе ля магілы Шаўчэнкі, у Канстанцінаве на радзіме Ясеніна. Хай жа сярод іх будуць і святы паэзіі Купалы і Коласа.

Мяне трошачкі здзіўляе даволі абыякавая пазіцыя кіраўніцтва нашага саюза да ўсіх спраў, звязаных з літаратурнымі музеямі. Калі мы падпарадкаваны Міністэрству культуры, дык гэта не значыць, што Саюзу пісьменнікаў і клопату няма пра тых, хто заснаваў беларускую савецкую літаратуру, хто стварыў пісьменніцкую арганізацыю, хто і сёння разам з намі, вось тут, на гэтым з'ездзе. Купала і Колас — нашы сучаснікі, яны сваім прыкладам беззапаветнага служэння народу, партыі, Радзіме падтрымліваюць усе нашы самыя сучасныя захады. У прамове, якой Якуб Колас адкрываў III з'езд пісьменнікаў Беларусі, сярод іншых думак была выказана і такая: «Нам трэба стварыць высокую паэзію працы, каб яна падымала і захапляла чалавека». Удумайцеся ў гэты зварот песняра. Які ён сугучны таму, што патрабуе ад літаратуры партыя сёння, што павінна складаць генеральны кірунак нашай надзённай працы. Дык жа, мусіць, нам асабліва трэба

(Працяг на 10-й стар.).

# ДЛЯ СУЧАСНІКАЎ І НАШЧАДКАЎ

## КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ КІНАХРАНІКЁРАЎ

*Нядаўна ў Мінску адбылася канферэнцыя па пытаннях беларускай кінаперыёдыкі. Гэты баявы жанр публіцыстыкі набывае асаблівае значэнне сёння, калі бурлівая плынь жыцця вымагае ад кінажурналістаў сур'ёзнага і глыбокага асэнсавання падзей, каб не толькі расказаць пра іх сучаснікам, але і захаваць для гісторыі.*

### ХРОНІКА — ЖАНР КІНАМАСТАЦТВА

Гэтая думка была асноўнай у дакладзе мастацкага кіраўніка аб'яднання «Летапіс» рэжысёра Б. Сарахатунава.

— Аператыўнасць і інфармацыйнасць, безумоўна, з'яўляюцца неад'емнымі якасцямі кінахронікі, — сказаў ён. — Але гэта ні ў якім разе не павінна адбівацца на мастацкіх вартасцях кіначасопісаў. Існуе думка, што тэлебачанне, якое мае магчымасць больш аператыўна адгукацца на падзеі сённяшняга дня (літаральна ў той момант, калі яны адбываюцца), перашкаджае кінахранікёрам быць першаадкрывальнікамі. Але на самай справе работнікі тэлебачання, усклаўшы на сябе нялёгкія абавязкі аператыўных інфарматараў, стварылі кінажурналістам умовы для больш грунтоўнага, глыбокага, праблемнага падыходу да падзей. «Кінахроніка,—гаварыла яшчэ на III Усесаюзнай нарадзе кінахранікёраў у 1935 годзе Н. Крупская, — будзе адыгрываць усё большую і большую ролю ў паказе падзей ва ўсіх іх сувязях і ўзаемным уплыве». Хранікёры, адбіраючы матэрыял, павінны адрозніваць галоўнае ад малазначнага, глыбіннае ад павярхоўнага, тое, што зробіцца гісторыяй, ад таго, што адыдзе ў небыццё. Словам, павінны імкнуцца, каб кожны сюжэт кіначасопіса стаў нарысам у мініяцюры.

У мінулым годзе, працягвае дакладчык, аб'яднанне «Летапіс» выпусціла на экраны рэспублікі 20 нумароў кіначасопісаў «Савецкая Беларусь», «Піянер Беларусі», «Спартыўны агляд» і «Мастацтва Беларусі». Усяго — 128 сюжэтаў. Год быў багаты на падзеі: 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, 25-годдзе перамогі над гітлераўскай Германіяй, з'езд камсамола Беларусі, выбары ў Вярхоўны Савет СССР, падрыхтоўка да XXVII з'езда КПБ і XXIV з'езда КПСС. Усе гэтыя падзеі знайшлі адлюстраванне ў кіначасопісах. Сярод лепшых сюжэтаў, на думку дакладчыка, кінападарожжы па ленінскіх мясцінах, расказ аб стваральніках электронна - вылічальнай машыны «Мінск-32», аб старым салдаце Дзмітрыі Цепіне, які выратаваў сцяг Самара-Ульянаўскай дывізіі, партрэт дырэктара саўгаса «Бабінічы» Ганны Гарнак. Добрага слова заслугоўваюць спецвыпуск часопіса пра Ленінскі камсамол Беларусі, некаторыя нумары «Мастацтва Беларусі», «Спартыўнага агляду», «Піянера Беларусі». На жаль, такіх прыкладаў не шмат.

Калі пералічыць назвы сюжэтаў, працягвае Б. Сарахатунаў, можа стварыцца ўражанне, што ў нас усё ў парадку. Але большасць сюжэтаў вырашана павярхоўна, чыста інфармацыйна, гэта хутчэй ілюстрацыі да падзей, чым іх творчае асэнсаванне. Недастаткова, каб толькі па назве тэма была актуальнай, значнай, сучаснай. Сучаснасць мастацтва — гэта перш за ўсё той змест, якім напаўняе яго стваральнік. Рэжысёры і аператары хронікі толькі тады могуць па-сучаснаму паказаць жыццё, калі яны трымаюць руку на пульсе краіны, адчуваюць жывое дыханне эпохі. Жанр кінадакументалістыкі вымагае, каб кожная падзея была адлюстравана спецыфічнымі сродкамі кіно, «вобразамі, выхапленымі з жыцця». Некаторыя кінематаграфісты лічаць, што выкарыстанне найноўшай тэхнікі само па сабе зробіць іх фільмы сучаснымі. Але ніякая тэхніка не выратуе рэжысёра ці аператара, калі ён не будзе сапраўдным, удумлівым, сур'ёзным мастаком.

Ясна адно, працягвае дакладчык, сёння нікога не можа задаволіць той узровень, на якім знаходзяцца нашы кіначасопісы. Мы павінны самым сур'ёзным чынам праверыць гатоўнасць усяго арсеналу сродкаў мастацкай выяўленчасці для таго, каб быць на вышыні задач, якія ставяць перад намі народ і партыя.

### ЗА ТРАДЫЦЫЙНЫ ТРОХКУТНІК

Рэжысёр — аператар — рэдактар. Вось той трохкутнік, на які павінна трывала абапірацца кінахроніка, сказала рэдактар аб'яднання «Летапіс» І. Хазанская. На жаль, атрымліваецца так, што ў нас на студыі пераважная большасць клопатаў кладзецца на плечы рэдактара — ад пошукаў сюжэтаў да перазапісу. Рэжысёры і аператары працуюць на хроніцы часова і таму не зацікаўлены ў пошуках новых сюжэтаў для будучых часопісаў. Больш таго, многія з іх глядзяць на хроніку як на справу другарадную. Маўляў, пакуль няма іншай працы, можна якнебудзь перачакаць і тут.

Думаецца, што гэта не дзелавы падыход, бо менавіта хроніка ў першую чаргу з'яўляецца летапісам нашых дзён. Дарэчы, тыя выпускі, якія прывезлі і паказалі нам рыжскія калегі, сведчаць пра тое, што можна рабіць часопісы, у цітрах якіх не сорамна паставіць сваё імя нават самым вядомым майстрам.

Для таго, каб палепшыць становішча з кінаперыёдыкай на нашай студыі, пажадана было б замацоўваць за хронікай рэжысёраў і аператараў на больш працяглы тэрмін. Але тады абавязкова трэба прадумаць пытанне аплаты іх працы.

У наша імклівае стагоддзе інфармацыя ідзе магутным бясконцым патокам. Натуральна, што рэдактар, які мае мноства абавязкаў, можа часам і прапусціць тыя ці іншыя падзеі. Таму было б мэтазгодна, лічыць І. Хазанская, увесці на студыі пасаду рэдактара-інфарматара альбо завязаць пастаянныя творчыя сувязі з журналістамі, якія працуюць у абласцях.

### ПРЫТРЫМЛІВАЮЧЫСЯ ПАРАД ПІФАГОРА...

Госць з Латвіі, рэжысёр-аператар У. Браунс пачаў сваё выступленне з ацэнкі месца часопіса ў сучасным кіно. Нягледзячы на тое, сказаў ён, што на словах усе аднадушна прызнаюць вялікае значэнне кінаперыёдыкі, на справе адносіны да яе стваральнікаў пакідаюць жадаць лепшага. Нават на фестывалях часопісы паказваюць у апошнюю чаргу. Не выклікае сумнення, што неабходна тэрмінова ўзняць іх аўтарытэт. Але наракаючы на недастатковую ўвагу да нас, мы часта бываем несамакрытычнымі і забываемся, што аўтарытэт гэты ў першую чаргу залежыць ад нас, кінахранікёраў.

Колькі мы бачым шэрых, стандартных, штампаваных стужак, за якімі не стаіць творчае аблічча журналіста. У пераважнай большасці сюжэтаў — усё гладка, добра, бесканфліктна. А калі яшчэ дадаюцца лёгкая музыка і колер, у гледача наогул ствараецца ўражанне, што ён ледзь не ў рай трапіў. А многія праблемы, якія хвалююць нашага сучасніка, застаюцца па-за ўвагай хранікёраў. Між тым, аднолькава важна як у час пахваліць і падтрымаць добрую з'яву, так і пакрытыкаваць тое, што можа прынесці шкоду. У беларускіх часопісах апошняга года наогул няма ніводнага крытычнага сюжэта. У гэтай сувязі хочацца нагадаць параду Піфагора: калі любіш сябра, трэба гаварыць яму больш пра недахопы, чым пра вартасці. Бо шлях да дасканаласці ляжыць праз пераадоленне гэтых недахопаў.

### УМЕННЕ БАЧЫЦЬ

Аператар Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў А. Крычэўскі спыніўся на аналізе беларускіх кіначасопісаў. Ён адзначыў сур'ёзную работу рэдактуры, падбор цікавых па тэмах сюжэтаў. Але зняты сюжэты ўстарэлымі метадамі, людзі здымаюцца ненатуральна, рэдка калі прарываюцца жывое слова, жэст, трапная жыццёвая дэталь, якая, па словах К. Паўстоўскага, «раўназначна вобразу». Так, напрыклад, у выпуску, прысвечаным Дню Перамогі, удала схоплены жэст дырыжора стварае яркую фарбу свята. На жаль, такія фарбы рэдкія ў сюжэтах беларускіх часопісаў. Шмат з іх бліжэй да тэлебачання, чым да кіно.

Чалавек, незнаёмы з жыццём рэспублікі, мала што даведаецца пра Беларусь з гэтых сюжэтаў. Амаль што няма ў кадрах пейзажаў, на якія такая багатая беларуская зямля, і людзей прыгожых мала — аператарам не ўдаецца зняць чалавека ў момант душэўнага альбо творчага парыву. Невыразна расказваюць беларускія кінажурналісты пра велічны размах прамысловага будаўніцтва.

А. Крычэўскі пажадаў сваім беларускім калегам плённых пошукаў, без якіх немагчыма цяжкая, складаная, адказная, але цудоўная і ўдзячная прафесія кінематаграфіста.

### СТВАРАЦЬ ЗАЛАТЫ ФОНД ХРОНІКІ

Будучае пачынаецца сёння — таму, здымаючы часопісы, мы павінны думаць аб тым, што кожны кадр — гэта тое спыненае імгненне, за якое будуць удзячны нам нашы патомкі праз пяцьдзесят — сто год. Ствараць залаты фонд хронікі — гэтая думка была цэнтральнай у выступленнях рэжысёраў І. Вейняровіча, І. Пікмана, А. Ястрабава, аператара Я. Сакалова і іншых прамоўцаў.

Рэжысёр Ул. Цяслюк і аператар В. Арлоў спыніліся на неабходнасці весці летапіс буйнейшых новабудоўляў, а для гэтага неабходна мець дастатковую колькасць плёнкі, каб здымаць не толькі непасрэдна для сюжэтаў, але і ў запас. Занадта рэдка геаграфія сюжэтаў выходзіць за межы Міншчыны, адзначалі аператары Я. Сакалоў і Ул. Стральцоў. Неабходны больш шырокія магчымасці для азнаямлення работнікаў хронікі з жыццём рэспублікі. Прынеслі б свой добры плён паездкі рэжысёраў і аператараў у пошуках сюжэтаў. Гэта дапамагло б ім праявіць сваю творчую індывідуальнасць, бо, як адзначалі рэжысёр І. Пікман і аператар Ф. Осіпаў, стужкі атрымліваюцца надзіва аднастайныя, у іх не адчуваецца творчае аблічча аўтараў.

Павялічыць колькасць часопісаў і, такім чынам, ахапіць больш падзей прапаноўвалі ў сваіх выступленнях рэжысёр Ч. Цяўлоўскі, аператар М. Бераў і іншыя.

### НЕ КОЛЬКАСЦЬ, А ЯКАСЦЬ

— Мэта сённяшняй канферэнцыі — абмен думкамі па творчых пытаннях кінаперыёдыкі, — сказала галоўны рэдактар аб'яднання «Летапіс» А. Астроўская. — У першую чаргу мы павінны гаварыць пра тое, як рабіць часопісы, а не колькі іх рабіць. Наіўна думаць, што арыфметычнае павелічэнне кіначасопісаў дасць нейкі якасны зрух у нашай рабоце. Што датычыцца здымак сюжэтаў, якія ўвойдуць у будучыя фільмы, то такі фонд ёсць. А. Астроўская заклікала маладых аператараў адносіцца да таго, што здымаецца ў фонд летапісу, з гэткай жа адказнасцю і сур'ёзнасцю, якія ўласцівыя старэйшаму пакаленню.

Думку А. Астроўскай аб якасным удасканальванні беларускай кінаперыёдыкі падтрымаў дырэктар студыі «Беларусьфільм» Ул. Іваноўскі. Нашы часопісы робяцца іншы раз занадта паспешна, не ўсе работнікі адносяцца да кінаперыёдыкі з дастатковай сур'ёзнасцю, што, безумоўна, нельга дапускаць у такой адказнай справе. Ці лагічна разважаюць тыя таварышы, якія лічаць, што трэба павялічыць колькасць часопісаў за лік кінанарысаў, якія дастойна прадстаўляюць «Беларусьфільм» на ўсесаюзных і сусветных кінафестывалях? Трэба змагацца, каб і нашы часопісы занялі на іх пачэснае месца.

У заключэнне канферэнцыі выступіў дырэктар аб'яднання «Летапіс» І. Пастухоў. Ён адзначыў плённасць такіх сустрэч, каштоўнасць многіх прапаноў і заклікаў работнікаў «Летапісу» актыўна іх ажыццяўляць.

*РЭПЛІКА*

# КАШЧУНСТВА!

Можа, гэта і занадта. Можа, больш падыходзіць тут якое іншае, мякчэйшае слова — непрадуманасць, галавацяпства ці яшчэ што-небудзь з гэтага раду. Але дужа ж гарачае яшчэ ў сэрцы абурэнне. І не толькі ў маім сэрцы...

Пазаўчора ўвечары ў сталічным кінатэатры «Партызан» глядзеў выдатны фільм «Беларускі вакзал». Хвалюючае апавяданне пра самае святое для кожнага з нас. Фільм, які яднае гледачоў у адзіным высокім і прыгожым пачуцці.

І вось, калі дзевяцьсот шэсцьдзесят чалавек (гэтулькі гледачоў, паводле слоў работнікаў кінатэатра, умяшчае зала «Партызана», а пустых крэслаў на тым сеансе відаць не было), стаіўшы дыханне, разам з героямі фільма ўзважвалі пражытае і перажытае, калі суровы эмацыянальны напал карціны дасягнуў вяршыні і сціснуў не адно як жаночае, так і мужчынскае горла, у залу ўварвалася... таннае джазавае скавытанне.

Зрэшты, хай сабе і не таннае. Хай сабе зусім прыстойнае, прынятае і зацверджанае самай патрабавальнай музычна-рэпертуарнай камісіяй.

Але як жа не можа зразумець адміністрацыя кінатэатра, што гэта прыкра, недапушчальна — вясёленькая, саладжавая музычка ў момант трапяткога ачышчэння мала не тысячы людзей сустрэчай з сапраўдным мастацтвам! Што гэта — паўтараю слова, з якога пачаў — кашчунства. Здзек з нечага вельмі дарагога, святога ў чалавеку...

Хвацкі джазік і спявачка ў фае не змаўкалі ўжо да самага канца фільма. Ні тады, калі таварышы паведамілі Райцы пра смерць дарагога ёй друга і з экрана гучала цішыня (о, як яна можа шматзначна гучаць, цішыня!). Ні тады, калі пяцёра на экране і дзевяцьсот шэсцьдзесят у зале слухалі мужную, як жа непадобную на тую, што лезла праз шчыліны ў дзвярах з фае, франтавую песню...

Магу засведчыць—сотні людзей адчувалі сябе абражанымі. Дзесяткі выказвалі сваё абурэнне дзяжурным работнікам кінатэатра. І, канечне, не маглі прыняць разгубленага тлумачэння, што тут план, папярэдняя дамоўленасць з філармоніяй, узгодненая з гарадскім аддзелам кінафікацыі, нават з рэспубліканскім камітэтам па кіно мерапрыемства...

Не магу прыняць гэтага тлумачэння і я. Тым больш, што самі ж работнікі кінатэатра прызнаюцца—абурэнне, што давялося ім выслухаць пазаўчора, выказваецца гледачамі ўсе дні, што ідзе ў «Партызане» «Беларускі вакзал».

Пішу гэтую нататку таму, што «Беларускі вакзал»—не апошні харошы фільм мужнага і суровага ладу на экране «Партызана». Павsituацце ж пачуцці, што гэтымі фільмамі выклікаюцца, таварышы адміністрацыя!

**Уладзімір МЕХАЎ.**

Малюнкі Н. Паплаўскай да кнігі «Залаты ручнік» А. Кобец-Філімонавай. Кніга неўзабаве выйдзе ў выдавецтве «Беларусь».

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# «Я КАМУНІЗМУ АДДАЮ...»

## Сцяпану ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ—60 гадоў

Здаецца, не так даўно (а калі дакладна падлічыць, дык чатыры дзесяцігоддзі назад) мы часта сустракаліся з ім у Мінску, у Доме пісьменніка, у «Чырвонай змене», на камсамольскіх сходах і літаратурных вечарах. Чытачы і аматары паэзіі часта бачылі яго ў залах Мінска, Гомеля, Віцебска, дзе ён з натхненнем чытаў свае вершы, у заводскіх цэхах, калгасах і сельскіх школах, у пагранічнікаў і чыгуначнікаў. І ўсюды сакратар камсамольскай арганізацыі Дома пісьменнікаў быў нястомны: выступаў на літаратурных вечарах і дыспутах, удзельнічаў у абмеркаванні новых твораў літаратурнай брыгады «Чырвонай змены», куды ён уваходзіў, натхняў маладых пісьменнікаў на стварэнне твораў, вартых камсамола. І сам пісаў, працаваў шмат і плённа.

Такім запомніў я Сцяпана Ліхадзіеўскага. І вось яму — шэсцьдзесят!

Нядаўна ён быў у Францыі. 17 сакавіка ён перапыніў сваё падарожжа па краіне і з Ліёна вярнуўся ў Парыж, каб у дзень 100-годдзя Парыжскай камуны пакласці да сцяны камунараў букецік кветак. Гэта было нядаўна, сёлета. А яшчэ ў тыя далёкія камсамольскія гады ён пісаў аб Парыжскай камуне. Гэта былі вершы аб вялікім і бессмяротным подзвігу парыжскіх камунараў. Гэта былі нарысы аб праслаўленым лінкоры «Парыжская камуна», над якім у тыя гады шэфстваваў беларускі камсамол.

Інтэрнацыянальная тэма, тэма дружбы і шчасця народаў арганічная для Ліхадзіеўскага — для яго паэзіі, для яго літаратуразнаўчых даследаванняў, для яго грамадскай дзейнасці. У маладосці ён пісаў вершы пра нямецкіх чырвоных франтавікоў-тэльманаўцаў, аб гераічнай рэвалюцыйнай барацьбе камуністаў, камсамольцаў і ўсіх працоўных былой Заходняй Беларусі. Запомніўся яго ёмісты вобраз:

**Звісла нават Вісла ніц**
**Пад цяжарам вісельніц...**

Яго паэзія і зараз застаецца вернай пралетарскаму інтэрнацыяналізму, дружбе народаў. А літаратуразнаўчая дзейнасць у гэтых адносінах не менш паказальная: пяру Ліхадзіеўскага належаць артыкулы пра Янку Купалу і Мікалая Ціханава, пра Гуляма, Айбека, Кахара, Мірцеміра і іншых узбекскіх пісьменнікаў. Ён перакладчык: з французскай на рускую і беларускую перакладае вершы Гюго, Верлена, Рамбо, з узбекскай на рускую і беларускую — вершы Фархата, Хамзы, М. Бабаева, Р. Бабаджана і іншых. Доктар філалагічных навук, спецыяліст па замежнай літаратуры. С. Ліхадзіеўскі ўсебакова даследаваў творы вялікага французскага пісьменніка-камуніста Анатоля Франса, стварыўшы манаграфію аб яго творчасці.

Але вернемся яшчэ да яго вершаў. Ёсць у С. Ліхадзіеўскага вершы «Вуліца Якуба Коласа ў Ташкенце» і «Тры мовы». Думаецца, што ў гэтых вершах ярка выказана адна з асаблівасцей творчасці паэта. Там, у Ташкенце, дзе ён жыве і плённа працуе, ён сапраўдны паўпрэд беларускай літаратуры і культуры, а ў Мінску, у Беларусі ён многімі сваімі вершамі прадстаўляе Узбекістан і яго культуру. Жартам кажучы, ён праўдзівы беларус сярод узбекаў і ў пэўнай ступені ўзбек сярод беларусаў. А калі гаварыць усур'ёз, дык ён — палымяны інтэрнацыяналіст, пясняр дружбы братніх народаў СССР.

Жыццёвы шлях яго не быў гладкі і лёгкі, нямала цяжкасцей выпала на яго долю. Але, пераадолеўшы іх, ён па праве заявіў:

**...Задачу ведаю сваю.**
**Свой вопыт, здольнасці да грама**
**Я камунізму аддаю.**

...І вось мы зноў, праз многія гады, сустрэліся з ім у Маскве. Так, яму шэсцьдзесят. Але і цяпер ён па-ранейшаму бадзёры, поўны ўсялякіх планаў і задум. У яго той жа светлы, іскрысты пагляд, тая ж прыемная, жыццярадасная ўсмешка. Веру, што ў яго грудзях б'ецца тое ж нястомнае камсамольскае сэрца. Вось чаму я цвёрда ўпэўнены, што паэт Ліхадзіеўскі напіша новыя вершы, што літаратурны крытык Ліхадзіеўскі напіша новыя артыкулы і даследаванні аб творчасці пісьменнікаў Расіі, Беларусі і Узбекістана, што перакладчык Ліхадзіеўскі парадуе нас новымі перакладамі, што прафесар Ліхадзіеўскі будзе яшчэ доўгія гады паспяхова рыхтаваць кадры народных настаўнікаў, літарататараў-філолагаў...

**М. ВЕРНІКОЎСКІ.**

## Пятру РУНЦУ — 60 гадоў

*Споўнілася шэсцьдзесят гадоў дзіцячаму пісьменніку Пятру Рунцу. Юбіляра цёпла прывітала праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. У прывітальным адрасе, накіраваным П. Рунцу з нагоды юбілею, гаворыцца:*

«Паважаны Пятро Мікалаевіч!

Ад усяго сэрца віншуем Вас з 60-годдзем з дня нараджэння.

Вы пачалі свой шлях у літаратуру як дзіцячы пісьменнік яшчэ ў 1932 годзе, надрукаваўшы ў часопісе «Іскры Ільіча» апавяданне «Чорны камень».

Пасля вы настаўнічалі ў сельскіх школах, вучыліся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава. У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічалі ў баях, былі двойчы паранены.

Дэмабілізаваўшыся з арміі, Вы паспяхова спалучалі сваю мастацкую творчасць з журналісцкай працай у рэспубліканскіх дзіцячых выданнях— газеце «Піянер Беларусі» і часопісе «Бярозка».

Юныя чытачы рэспублікі добра ведаюць Вас па цікавых кніжках, якія Вы стварылі для іх,—«Гіпсавая маска», «Перастараліся», «Алёшка-верхалаз», «Заламаны ражок», «Аб чым шэпчацца аер» і іншыя.

Шмат увагі аддаяце Вы перакладу на беларускую мову лепшых твораў савецкай і зарубежнай дзіцячай літаратуры.

Жадаем вам, дарагі Пятро Мікалаевіч, далейшых поспехаў у творчасці, добрага здароўя, радасці, шчасця».



*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і ў сваю чаргу жадае юбіляру ўсяго найлепшага.*

З пошты ЛіМа

# ЧАС НАСПЕЎ

**Пытанне аб удасканальванні музычнага навучання малодшых школьнікаў вельмі актуальнае цяпер, калі па ўсёй краіне пачаўся пераход школ на новыя праграмы. Праводзяцца пошукавыя эксперыменты, распрацоўваюцца розныя сістэмы музычнага развіцця і выхавання.**

**Сёння з упэўненасцю можна сказаць, што сістэма, здольная з найбольшай эфектыўнасцю развіць музычныя здольнасці дзяцей і разам з тым даць трывалае засваенне ведаў,—гэта сістэма ладавага спеву або рэлятыўная, якую распрацавалі З. Кадаі і К. Орф і якая набыла шырокую папулярнасць сярод многіх музыкантаў-педагогаў свету.**

**Невыпадкова таму ў канцы мінулага года ў Маскве па ініцыятыве навукова-даследчага інстытута мастацкага выхавання АПН СССР быў праведзен Усесаюзны семінар па методыцы навучання малодшых школьнікаў музычнай грамаце. Семінар аднадушна прызнаў ладавую (рэлятыўную) сістэму як самую прагрэсіўную і эфектыўную, але прыняў толькі агульныя палажэнні, рэкамендуючы распрацаваць іх у кожнай рэспубліцы з улікам спецыфічных асаблівасцей яе музычнай культуры.**

**На жаль, на гэты семінар, які выклікаў вялікую цікавасць сярод выкладчыкаў музыкі (адзін толькі Харкаў прыслаў 7 чалавек), Беларусь не паслала ні аднаго ўдзельніка. Два чалавекі з Мінска, якія апынуліся там, прысутнічалі як аспіранты Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута мастацкага выхавання.**

**У РСФСР, Прыбалтыцы, на Украіне, у каўказскіх рэспубліках пастаянна праходзяць семінары па азнаямленні настаўнікаў з сучаснымі метадамі музычнага выхавання. Акрамя таго, у Латвіі і Эстоніі, на Украіне выходзяць падручнікі і дапаможнікі па новай методыцы.**

**У Беларусі ж укараненнем новай сістэмы займаюцца пакуль толькі педагогі-энтузіясты. Аднак іх пачынанні патрабуюць пэўнай падтрымкі: метадычных распрацовак, семінараў і г. д. Мне здаецца, што наспела неабходнасць падрыхтаваць і правесці рэспубліканскую навукова-метадычную канферэнцыю па ўдасканаленні музычнага выхавання дзяцей і падлеткаў. Такая канферэнцыя і выданне адпаведных падручнікаў з'явяцца першым крокам не толькі па шляху паляпшэння музычнага выхавання, але і па ўзняцці музычнага і культурнага ўзроўню ўсяго насельніцтва. Ул. Стасаў гаварыў: «Не павелічэннем кансерваторый можна ўзняць музычны ўзровень краіны, а галоўным чынам больш шырокім насаджэннем музыкі і музычных заняткаў у пачатковых школах... Уздым узроўню музычнага развіцця ў масах дабратворна ўздзейнічае і на поспех вышэйшай музычнай адукацыі ў кансерваторыях, выкліча прыток новых сіл і музычных ідэй».**

**В. КАВАЛЁЎ,**
**старшы выкладчык кафедры спеваў Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.**




Казімір КАМЕЙША



## КАЗКА

У казку дзяцінства веру.
Даруйце мне, дзіваку:
Як скрыпка, іграюць дзверы
На скрыўленым вушаку.
Промень прыгрэе ласкавы,
Крута запахне багун —
Аж узнімаюць ластаўкі
З кроквамі разам страху.
Лёгка і свежа ў целе,
Нехаць прыспешваць гады.
Спаленай елкі ценем
З коміна цягнецца дым.
Ціха прыходзіць поўнач,
Спыніцца ля акна.
Чую, што недзе побач
Той недаступны Парнас.
Дзівосы сплываюць за часам.
Выплывуць потым яшчэ.
Пегас, што імчаў к Парнасу,
Дровы ў двор валачэ.

## НАВАЛЬНІЦА

Прагрыміць калясніцай Ілля
І маланкай рассыплюцца спіцы.
Твая чыстая свежасць, зямля,
Вызначаецца навальніцай.
Як пад гром запяюць капяжы,
Пойдзе зелень агнём па траве,
Тады хочацца жыць і жыць
За сябе і за цэлы свет.
Разгаліняцца раўчукі,
Расцякуцца на спелыя грады.
І праломяць баравікі
Хвойнай гліцы калючыя краты.
Усё на волю свой бег ірване,
Усё абудзіцца і прачнецца.
Адаб'ецца вясёлка ў акне,
Перш чым сонца ў ім
адаб'ецца.
А пакуль што гарыць зямля,
Пыл на поплаў кідаецца ніцма.
Недзе бавіцца зноў Ілля —
Гэтак хочацца навальніцы!

●

Так шумела у тым гаі.
Глуха грукаў у бочку гром
І куляўся вецер клубком
У забэрсаным галлі.
Але нават і ў шуме такім
Ты пачула, як стукнуў ранет,
Як маланка абстрыгла сукі
І на пні праўгуліла след.
Ты пачула нават, як дождж
Дно ў дзіравым заклёпваў
вядры,
Як ішоў ён бурачнай градой
І спыніўся у нашым двары;
Як сарвалася са сцябла
І, ўгінаючы ў росы лісты,
Ў дол бруснічына паплыла—
Нават гэта пачула ты.
А калі і ў гай і ў сад
Цішыня замасціла масты,
Я «кахаю» табе сказаў...
Не пачула чамусьці ты.

●

За лёгкай лодкаю вясло
Пятлёй дзве хвалі завівае.
Нішто яшчэ не адплыло,
Але ўжо штосьці адплывае.
Я ад стыхіі не ўцяку,
Дагоніць, дзіка зарагоча
І на пустынным астраўку
Засыпле сіняй соллю вочы.
І тут,
дзе грукат і валы,
І пены пасівелы локан,
Адчую моцны пах смалы,
Якою высмалена лодка.
Запахне бор з-пад Налібок
Знаёмым пахам каніфольным.
І я падумаю, мой бор,
Што ты, як мора тут, прасторны.

адмаўляцца ад рамантычнай узнёсласці, нельга забываць на тое, што асноўны чытач нашых кніг—малады чалавек. Урэшце, маладых чытачоў не можа задаволіць і тэматычны дыяпазон нашых твораў. Моладзь хоча чытаць цікавыя творы пра сваё ўласнае жыццё, пра тыя праблемы, якія ўзнікаюць у асяроддзі рабочых, інтэлігенцыі. На жаль, да паказу гэтых праблем мы падступаемся вельмі нясмела.

Што датычыць нашай арганізацыйнай працы, дык, сапраўды, новаму прэзідыуму праўлення і партбюро трэба будзе сур'ёзна падумаць аб тым, як арганізаваць работу кіруючых органаў нашага саюза, у першую чаргу—праўлення. Відаць, акрамя пленумаў, варта склікаць адзін раз у год пасяджэнні праўлення, замяніўшы імі так званыя пашыраныя прэзідыумы. Бадай, можна і прыём у члены Саюза праводзіць на праўленні, што прадугледжана статутам саюза. Гэта крыху ўскладніць працэс прыёму, але затое вырасце патрабавальнасць і значэнне самога факту прыёму для новага члена саюза.

Работа нашага з'езда асветлена мудрымі рашэннямі XXIV з'езда КПСС. Гістарычныя дакументы з'езда вызначылі праграму і задачы для ўсяго савецкага грамадства, для ўсіх галін эканомікі і культуры, для кожнага калектыву і кожнага чалавека. Велічныя і ясныя задачы пастаўлены перад літаратурай. І мы, беларускія пісьменнікі, прыкладзём усе намаганні, усю сваю энергію, свой вопыт і талент, каб з гонарам выканаць гэтыя задачы, каб будучыя творы нашы былі на ўзроўні гераічных спраў народа—будаўніка камунізма.

## ЛІТАРАТУРА – ЧЫТАЧ – КРЫТЫКА

*З выступлення Паўла ДЗЮБАЙЛЫ*

ЦЭХІ НАШАЙ літаратурнай крытыкі працуюць не горш, чым іншыя цэхі пісьменніцкай арганізацыі. Асабліва вырасла за апошнія гады наша літаратуразнаўства. З'явіўся шэраг праблемных прац, прац па гісторыі нашай літаратуры. Прыкметна павысілася павага да аб'ектыўнай рэальнасці гістарычнага працэсу, да канкрэтных літаратурных з'яў і фактаў, павысілася культура і майстэрства аналізу, якія дазваляюць пераадольваць разрыў паміж разглядам «ідэйнасці» і «мастацкасці». Сталі больш выразнымі і дакладнымі самі сацыяльна-палітычныя і мастацка-эстэтычныя крытэрыі, што вельмі важна, што радуе. Аднак, разам з гэтым, кожнаму відавочна, што наша навука аб літаратуры, у першую чаргу крытыка, звязаная з сённяшнім днём літаратуры, яшчэ значна адстае. Як сказана ў Справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXIV з'езду КПСС, поспехі савецкай літаратуры і мастацтва былі б яшчэ больш значнымі, а недахопы зжываліся б хутчэй, калі б наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, была больш актыўнай і дзейснай.

Нельга адрываць ідэйнасць ад мастацкасці. Няма мастацкага твора, калі ён не заключае значных ідэй, праблем. Але няма мастацкага твора і тады, калі добрая тэма і важная задума не ўвасоблены сапраўды па-мастацку. Гэта аксіёмы, але іх не трэба забываць, асабліва крытыцы. А між тым, калі быць шчырымі, далёка не ўсё ў справаздачным дакладзе, які мы тут слухалі, ацэнена высокімі ідэйна-мастацкімі крытэрыямі.

Так, перад крытыкай пастаўлены адказныя задачы. Іх трэба вырашаць. Што ж з'яўляецца неабходным на шляху да гэтага? Перш за ўсё далейшы ідэйна-эстэтычны рост, прафесіяналізацыя нашай крытыкі. На жаль, адносіны да крытыкі і крытыкаў у нашым Саюзе пісьменнікаў не вельмі добрыя. Некаторыя таварышы нават заяўляюць: «Я пішу не для крытыкі, я пішу для чытача». Такая заява можа спачатку падацца нават правільнай. Аднак у савецкіх паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў адна задача — выхаванне новага чалавека. І сёння, калі на парадку дня ўсеагульная сярэдняя адукацыя, пісьменнік не можа ісці на повадзе ў чытача. Аб чытабельнасці, займальнасці твораў думаць трэба. Але гэта, мусіць, не галоўная праблема. Сапраўдны твор выклікае ў чытача шматлікія пытанні, пачуццё незадавальнення сабой, патрэбу звярнуцца да іншых матэрыялаў па закранутай праблеме ці з'яве. І ў гэтым чытачу на дапамогу прыходзіць крытыка. Яна выхоўвае чытача эстэтычна, вучыць яго разумець мастацкі твор, адкрываць у ім бясконца шырокі, ёмісты змест мастацкага вобраза, крытыка вытлумачвае мастацкі твор, падымаючы грамадскія, сацыялагічныя, філасофскія праблемы жыцця.

Само сабой зразумела, што крытыка павінна быць аб'ектыўнай, прынцыповай, незалежнай ад таго, каму яна адрасуецца. Крытэрыі ў яе павінны быць адны—як у ацэнцы твораў вядомага пісьменніка, так і ў гаворцы пра першы твор пачаткоўца. На жаль, у апошні час наша крытыка становіцца ўсё больш «бяззубай», нясмелай, паступова ў ёй выпрацоўваецца сістэма дыпламатычных агаворак, розных прыёмаў, якія дапамагаюць аднаму—не называць рэчы сваімі імёнамі. Напрыклад, пра аднаго нельга сказаць слова праўды, бо ён заслужаны чалавек; пра другога — бо ён рэдактар выдавецтва; пра трэцяга—бо ён член прэзідыума; пра чацвёртага—бо ён распрацоўвае актуальную тэматыку і г. д. А творы павярхоўныя, шэрыя, рамесніцкія наогул абыходзяцца нашай крытыкай, у многіх рэцэнзіях пераважае славесная эквілібрыстыка, з-за якой цяжка зразумець, хваліць ці ганіць крытык твор, выявіць яго пазіцыю.

Такі стан крытыкі нельга апраўдаць, але можна вытлумачыць. Прывяду некалькі фактаў. З году ў год скарачаецца колькасць крытычных кніг, што выходзяць у выдавецтве «Беларусь». Многія маладыя крытыкі не могуць выдаць свой першы зборнік. Цяжка патрабаваць ад кіраўніцтва саюза глыбокага разумення патрэб і задач крытыкі, калі ў прэзідыуме праўлення няма ніводнага прафесійнага крытыка ці літаратуразнаўцы. Відаць, з гэтым звязана і тое, што крытыкі вельмі рэдка бываюць у творчых камандзіроўках (а ім жыццё трэба ведаць не горш, чым празаікам, паэтам і драматургам), што крытыкаў надзвычай рэдка ўключаюць у склад розных пісьменніцкіх дэлегацый і груп. У саюзе ў нас ёсць секцыя крытыкі і літаратуразнаўства. Але кіраўніцтва саюза рэдка прыслухоўваецца да яе голасу, калі ў члены саюза прымаюць чарговага маладога літаратара...

Новае кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў з усёй партыйнай адказнасцю павінна будзе падумаць аб паляпшэнні ўмоў працы нашых крытыкаў і, разам з тым, паставіцца да іх з усёй патрабавальнасцю, каб узняць крытыку на новы ўзровень, дапамагчы ёй вырашыць тыя адказныя задачы, што пастаўлены перад ёю партыяй на парадак дня.

## КНІГІ НАШЫ ПРАЦУЮЦЬ, КНІГІ НАШЫ СЛУЖАЦЬ

*З выступлення Уладзіміра КАРПАВА*

СТАЛАСЦЬ літаратуры, сталасць прозы, нашай сучаснай прозы — гэта манументальныя гісторыка-рэвалюцыйныя шматпланавыя творы, гэта вясёлкавы россып навел, эсэ, абразкоў, імпрэсій, апавяданняў, гэта раманы пра вялікую вайну і нашы дні, гэта шматлікія ўспаміны герояў вайны і мірных дзён. Завяршылі, як вядома, свае трылогіі І. Гурскі і М. Машара. Неўзабаве завершаць І. Мележ і М. Лобан. Убачыла свет дылогія І. Навуменкі. Апублікаваны раманы І. Шамякіна, І. Пташнікава, А. Асіпенкі, І. Чыгрынава, Л. Арабей. Такога багацця творчых індывідуальнасцей, такіх маштабаў па ахопе падзей і людскіх лёсаў беларуская проза, бадай, яшчэ не ведала. У нас не было гістарычнага рамана— «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча далі яго нам. Цяпер з поўным правам можна гаварыць і пра беларускую Ленініяну. Са шчаслівай рукі І. Новікава пачала шырока бытаваць дакументальная аповесць. Мемуарная літаратура прымусіла выдавецтва «Беларусь» стварыць спецыяльную рэдакцыю. Дадайце сюды аповесці В. Быкава, А. Савіцкага, А. Васілевіч, І. Грамовіча, А. Кудраўца, а таксама тое, што стварылі за гады паміж з'ездамі нашы таленавітыя апавядальнікі — і карціна будзе маляўнічая, багатая. Сіла прыцягнення прозы аказалася настолькі моцнай, што за пяро празаікаў узяліся М. Танк, М. Лужанін, В. Вітка, С. Грахоўскі, А. Бялевіч, К. Кірэенка. Яны прынеслі ў прозу свой багацейшы жыццёвы і паэтычны вопыт, сваё, уласцівае сапраўдным паэтам, стаўленне да слова.

Мастацкая літаратура — гэта чалавеказнаўства, а ў лепшых сваіх творах — і народазнаўства. Узоры яго нам пакінулі Я. Колас і К. Чорны. І радасна, што дарагая, мудрая традыцыя ў беларускай прозе жыве, укараняецца, набірае моцы. Хіба гісторыя герояў «Палескай хронікі» або «Рудабельскай рэспублікі» не з'яўляецца ў той жа час гісторыяй народа пэўнага часу? Хіба эвалюцыя іх характараў не ёсць адбітак змен у самім народным жыцці? Вельмі паказальныя ў гэтых адносінах і апошнія раманы — «Мсціжы» І. Пташнікава і «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава. Сіла іх якраз у карцінах народнага жыцця, у каларытных вобразах людзей з народа.

Не так даўно я сустракаўся з чытачамі трактарнага і аўтамабільнага заводаў, завода імя Гастэлы, тонкасуконнага камбіната. Там я цікавіўся работаю бібліятэк, размешчаных на заводскай тэрыторыі. І пайшоў адтуль, нібыта дакрануўшыся да нечага вельмі важнага, мудрага, гаючага. Я адчуў, што кнігі нашы таксама працуюць. Быў я і ў воінскіх часцях, у тамашніх бібліятэках. І зноў хачу сказаць, што пакідаў воінскія часці з пачуццём, што наша кніга служыць. А што можа быць больш дарагім для пісьменніка, як тое, што кніга працуе ля станка, служыць на граніцы!

Так, здабыткі нашай прозы значныя. І ўсё-такі перад самім жыццём, перад яго заўтрашнім ды і ўчарашнім днём мы, пісьменнікі, яшчэ ў вялікім даўгу. Перш-наперш кідаецца ў вочы неадпаведнасць маштабаў, спраў, дум і планаў народных са справамі, думамі і планамі нашых літаратурных герояў. Яны ў жыцці намнога багацейшыя, цікавейшыя, чым у некаторых нашых творах. Разумны сэнс патрабуе, каб на вайне героем быў не каптэнармус, а пехацінец, танкіст, палкаводзец. Героем жа мірнай стваральнай працы павінен быць той, хто з'яўляецца ім у жыцці. Мне здаецца, што сёй-той наогул страціў смак да сучаснай тэмы, да яе, калі можна так сказаць, генеральнага напрамку — працы і творчасці савецкіх людзей. Чаму? Такія творы самыя працаёмкія. Яны толькі ўскосна могуць абапірацца на папярэдні вопыт пісьменніка. На ўспамінах далёка не паедзеш. Патрэбны жывы ўдзел пісьменніка ў справах сваіх герояў.

Адной з галоўных задач нашай літаратуры з'яўляецца, безумоўна, задача стварэння вобразаў будаўнікоў камунізма—той актыўнай свядомай сілы, што пракладае дарогу да светлай будучыні сабе, нашчадкам, усяму чалавецтву. Савецкі лад жыцця нараджае савецкі характар, і той, чыё сэрца б'ецца ва унісон з сэрцам народа, не пройдзе міма гэтага. Даследаваць гэты характар, памагаць яго фармаванню — што можа быць больш высакародным! Мы адказваем за ўсё: за перакананні і погляды нашых людзей, за тое, чым яны ацэньваюць учарашні і сённяшні дзень, за іх працу, хараство іх жыцця, за дужасць і шчасце сваёй Радзімы, за будучыню чалавецтва. І таму нам самім трэба быць на вышыні часу, на вышыні яго задач і патрабаванняў.

## МОЦ НАШАЙ ЗБРОІ—ПРАЎДА

*З выступлення Леаніда ПРОКШЫ*

НА СУСВЕТНЫМ форуме рэвалюцыянераў, як назвала XXIV з'езд КПСС Даларэс Ібаруры, у Справаздачным дакладзе, у прамовах дэлегатаў і гасцей адзначалася актуальнасць барацьбы супраць нацыяналістычных тэндэнцый у камуністычным і рабочым руху. Вопыт Чэхаславакіі паказаў, наколькі вялікая пагроза сацыялізма ўзнікае ў тым выпадку, калі пад лозунгам так званага «паляпшэння» сацыялізма пралетарскі інтэрнацыяналізм падмяняецца нацыяналістычнай і шавіністычнай істэрыяй.

Распаліць нацыяналістычную істэрыю, атруціць нацыяналістычным чадам наша грамадства шчыруць і беларускія буржуазныя нацыяналісты. Каб ім паверылі, былыя гітлераўскія паслугачы прыкідваюцца гэткімі «добразычліўцамі» беларусаў, называюць сябе часткай нашага народа і нават творцамі яго культуры. Вось што яны пішуць у часопісе «Ускалось», які выходзіць у Канадзе: «На балонках нашага часопіса побач твораў нашых эміграцкіх паэтаў і пісьменнікаў мы змяшчаем творы пісьменнікаў і БССР. Яны—частка нашай беларускай сям'і».

Навошта спатрэбілася бебурнацам перадрукоўваць з нашых часопісаў паэтычныя творы лепшых нашых паэтаў? Перш за ўсё таму, што бебурнацы —духоўныя жабракі і нічога вартага ўвагі не зрабілі на эміграцыі. Па-другое, вершы беларускіх паэтаў аб Радзіме хвалююць чытачоў за мяжой. І хто б узяў у рукі брудны эміграцкі шкумацік, каб там не было вершаў з чыстых крыніц! А ўжо сярод сапраўднай паэзіі можна ўціснуць і творы, народжаныя ў нацыяналістычным балоце.

Беларускія пісьменнікі з першых дзён Савецкай улады па закліку партыі і ўласнага сэрца вялі і вядуць актыўную барацьбу супраць чужой нам буржуазнай ідэалогіі, выкрывалі і выкрываюць крывадушша ворагаў Савецкай Айчыны. Галоўны ўклад у барацьбу за нашы светлыя ідэалы ўносяць перш за ўсё пісьменнікі, якія сваімі высокамастацкімі творамі адлюстроўваюць нашу рэчаіснасць, праўдзіва паказваюць нашу яву, хараство і цяжкасці нашай стваральнай працы. Такія творы сілай сваёй праўды абвяргаюць хлусню, заваёўваюць сэрцы людзей як у нашай краіне, так і за мяжой.

На першую лінію ідэалагічнай барацьбы выходзяць творы нашых пісьменнікаў, у якіх з палемічным запалам выкрываецца міф аб так званым «вольным свеце» і нібыта «райскім жыцці» ў ім. Пачытайце старонкі зборнікаў вершаў «Далёка ад дому» П. Броўкі, «Нью-Йоркскія малюнкі» П. Панчанкі, «Недыпламатычны дзённік» М. Танка. Яны напісаны з паэтычнай палымянасцю, напоўнены глыбокім роздумам, павагай і цеплынёй да простых людзей за мяжой, з трывогай за лёс чалавецтва, прасякнуты пачуццямі любві да роднага краю і ўкладу нашага жыцця, верай у прагрэс. Тое ж трэба сказаць і пра дарожныя нарысы «На тым баку планеты» Я. Брыля, «Два месяцы ў Нью-Йорку» І. Шамякіна, «Лісты ўражанняў» П. Кавалёва, «Тры месяцы ў Амерыцы» К. Кірэенкі, «13 пісем з Амерыкі» М. Ткачова і А. Зініна.

У абойме кніг, накіраваных супраць вылюдкаў, знаходзяцца зборнік «На задворках», аповесць М. Паслядовіча «Па воўчых сцежках», памфлет І. Гурскага «Чужы хлеб», п'еса А. Маўзона «Толькі адно жыццё», аповесць П. Кавалёва «Падзенне Хвядоса Струка», «Татальнае банкруцтва» А. Бажко і інш.

Большасць гэтых твораў напісаны ў жанры сатыры. У сувязі з гэтым хочацца сказаць колькі слоў менавіта пра гэты жанр. На жаль, мы не ўсё робім для таго, каб спрыяць яго развіццю. І віна ваты тут, як ні дзіўна, самі сатырыкі. Доўгі час на старонках «Немана» друкаваліся сатырычныя і гумарыстычныя творы. Але калі рэдактарам часопіса стаў вядомы сатырык Андрэй Макаёнак, гумар з «Немана» знік. Няма куткоў сатыры і гумару і ў «Полымі», хоць яго таксама ўзначальвае сатырык, былы рэдактар «Вожыка» Павел Кавалёў.

Цяпер — аб творчай атмасферы ў нашай пісьменніцкай арганізацыі. Мы часта гаворым аб гэтым. Але колькі б мы ні гаварылі, атмасфера ад гэтага не стане больш творчай. Патрэбны не словы, а справы. Бо творчая атмасфера—гэта не абмен кампліментамі, а канкрэтныя дзеянні. Ствараць творчую атмасферу — гэта перш-наперш «тактоўна, з увагай і беражлівасцю адносіцца да кожнага творцы». Гэтая думка была падкрэслена ў дакладзе Леаніда Ільіча Брэжнева. Трэба мець цярпенне даць выспець пошуку і калі ўжо не дапамагаць, дык прынамсі, не знішчаць яшчэ часам кволых парасткаў пошуку.

Адзначыўшы, што крытыка наша павінна больш актыўна праводзіць лінію партыі ў крытычных выступленнях, прамоўца спыняецца на паэтычнай пошце штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Нас засмучае, гаворыць ён, што ў нашай паэтычнай пошце мала вершаў высокага грамадзянскага гучання, усхваляванага паэтычнага слова аб вялікіх падзеях сучаснасці.

У дні Дзён літаратуры, якія прайшлі напярэдадні партыйнага з'езду ў рэспубліцы, мы сустракаліся з рабочымі, калгаснікамі, інтэлігенцыяй і чулі ад іх і сардэчную падзяку, і добразычлівую



крытыку. Гэта была і, так сказаць, крытыка знізу. На XXIV з'ездзе КПСС і на XXVII з'ездзе КПБ, поруч з высокай ацэнкай значэння савецкай літаратуры ў выхаванні новага чалавека, была і сур'ёзная крытыка. Гэта была крытыка зверху. Крытыка зверху і знізу супала. Яна супадае і з жаданнем кожнага савецкага пісьменніка зрабіць усё, каб сілай мастацкага слова яшчэ лепш служыць справе перамогі ленінскіх ідэй.

## МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД— НЕАД'ЕМНАЯ ЧАСТКА ЛІТАРАТУРЫ

*З выступлення Ніла ГІЛЕВІЧА*

У ДАКЛАДЗЕ ПРАЎЛЕННЯ аб перакладчыцкіх справах гаварылася досыць грунтоўна і вельмі слушна. Хочацца верыць, што, нарэшце, і ў нас зразумеюць выключна важнае значэнне і ролю мастацкага перакладу, зразумеюць, што пакуль мы па-сапраўднаму не разгорнем выданне перакладной літаратуры, не наладзім шырокіх і трывалых кантактаў з літаратурамі іншых рэспублік і краін, мы ў сваім літаратурным развіцці будзем таптацца на адным месцы і заставацца ў становішчы літаратурнай правінцыі.

Мы ў Беларусі да апошняга часу выдавалі 3—5—7 перакладных кніг у год, у той час як у Літве выходзіла больш сотні, у Азербайджане — амаль па 70 і г. д. Некаторыя таварышы ў нас разважаюць так: маўляў, беларусы не могуць раўняцца з літоўцамі ці азербайджанцамі, спасылаючыся на так званы моўны бар'ер. Навошта, маўляў, перакладаць замежных класікаў на беларускую мову, калі яны перакладзены на рускую. Аргумент гэты не вытрымлівае ніякай крытыкі, і толькі робіцца сумна, калі чуеш падобныя разважанні.

Па-першае, перакладаць з іншых моў нам патрэбна для таго, каб наша літаратура развівалася нармальна: без гэтага не можа абысціся ні адна літаратура ў свеце, калі яна хоча жыць доўгі век у добрым здароўі; без перакладаў любая літаратура будзе хірэць і занепадаць, бо парушыцца натуральны крывеабмен у яе арганізме, — гэта аксіёма, элементарная ісціна.

Па-другое, нельга думаць, што пераклады, зробленыя на рускую мову, абавязкова дасканалыя, лепшыя за тыя, якія мы можам зрабіць самі. Бывае і можа быць якраз наадварот. У нас ёсць выдатныя майстры перакладу, якія бліскуча даносяць нам на роднай мове творы сусветнай літаратуры. Я назаву толькі прафесіянальных перакладчыкаў Ю. Гаўрука і Я. Семяжона і такіх паэтаў, як А. Куляшоў, М. Танк, А. Зарыцкі, Э. Агняцвет і інш. Сумнявацца ў сваіх талентах і разлічваць толькі на тое, што для нас зробяць рускія перакладчыкі, што яны паднясуць нам гатовае, значыць, не верыць у свае магчымасці.

Па-трэцяе, не трэба перабольшваць значэнне моўнага бар'еру. Няўжо хто-небудзь сумняваецца, што ў Літве або Азербайджане чытачы, гэта значыць граматныя людзі, не ведаюць рускай мовы, не ўмеюць чытаць па-руску? Думаць так, значыць абражаць гэтыя народы, таму што гэта народы высокай культуры і рускую мову знаюць выдатна. Зрэшты, неабавязкова браць прыклад рэспублік, дзе існуе так званы моўны бар'ер. Возьмем Украіну, мова якой такая ж блізкая да рускай, як і наша беларуская. Там перакладаюць і выдаюць у шмат разоў больш, чым у нас. Толькі спецыяльныя тоўстыя часопісы «Всесвіт» і «Сузір'я» друкуюць толькі перакладную літаратуру.

Пераклады друкаваць і выдаваць у нас вельмі цяжка. Пры гэтым звычайна спасылаюцца на недахоп паперы. Кожны з нас ведае, што сапраўды з паперай трудна. Але міжволі ўзнікае пытанне: а дзе ж бяруць паперу літоўцы, азербайджанцы, украінцы? Можа, у іх не больш паперы, а проста яны больш разумна яе выкарыстоўваюць? Можа яны не дубліруюць стотысячнымі тыражамі тыя выданні, з якімі выдатна спраўляюцца цэнтральныя, маскоўскія выдавецтвы? Калі ўрад выдзяляе нам паперу, ён, мабыць, не ведае, што мы яе пусцім на дубліруючыя выданні, ён думае, што для нацыянальных выданняў гэтай паперы павінна хапіць. Творы нашых празаікаў на роднай мове выходзяць тыражом у 7—10 тысяч экземпляраў, а гэтыя ж творы на рускай мове выходзяць тут жа, у нас, тыражамі ў 100 тысяч экземпляраў. Ільвіная доля іх асядае тут, у Беларусі. Але чаму? Чым кіруюцца выдаўцы і кнігагандаль? Паводле апошняга перапісу насельніцтва, 80 працэнтаў беларусаў сваёй роднай мовай лічаць беларускую. Дык давайце ж з гэтых дзяржаўных лічбаў і зыходзіць. Статыстыка для таго і дае нам дадзеныя, каб імі мы кіраваліся на практыцы.

Нам было б непараўнальна лягчэй, калі б у нас было выдавецтва мастацкай літаратуры. Нас абслугоўвае толькі адно выдавецтва і то толькі часткова. Было б яшчэ выдавецтва — напэўна, было б больш і паперы, бо кожнае выдавецтва мела б свой фонд.

Урэшце, пра палітычны аспект усёй гэтай праблемы. Адна з важнейшых задач усяго нашага грамадства, нашай партыі — мацаваць брацкую дружбу паміж народамі нашай краіны, развіваць і мацаваць інтэрнацыянальныя сувязі з народамі сацыялістычных краін і з прагрэсіўнымі сіламі ўсіх краін. Пісьменнік свой інтэрнацыянальны абавязак разумее так: перш за ўсё — сцвярджаць у сваёй творчасці ідэі дружбы, братэрства, і па-другое — устанаўліваць і развіваць кантакты з літаратурамі іншых народаў, абменьвацца ўзаемна духоўнымі набыткамі. Дружба — гэта супрацоўніцтва. Але ці можна гаварыць пра дружбу літаратур, калі ў нас не перакладзена ні адна кніга з той ці іншай краіны, а ў іх — ні адна наша кніга? У такой сітуацыі можна бясконца гаварыць пра дружбу, але размова, выбачайце, застанецца толькі размовай. Бо каб дружыць, трэба паважаць адзін аднаго, а каб паважаць — трэба добра ведаць адзін аднаго, а каб ведаць—трэба ўзаемна перакладаць і выдаваць адзін аднаго. Тым, хто ўсё яшчэ недаацэньвае палітычны бок гэтай справы, я горача рэкамендую пачытаць матэрыялы XXIV з'езда КПСС — там вельмі ясна сказана пра нашы інтэрнацыянальныя задачы.

## ІДЭЙНА-ПАЛІТЫЧНЫ РОСТ—ГАЛОЎНАЕ

*З выступлення Хведара ЖЫЧКІ*

КОЖНЫ ГОД у літаратуру прыходзяць здольныя маладыя паэты і празаікі, драматургі і крытыкі. Толькі за перыяд паміж нашымі з'ездамі выдавецтва «Беларусь» выпусціла 42 першыя кніжкі паэтаў і 25 першых кніжак празаікаў і крытыкаў. Прыемна адзначыць той факт, што амаль усе аўтары гэтых кніг аказаліся творча перспектыўнымі, што 27 з іх прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў, выдалі альбо падрыхтавалі да друку наступныя кнігі, актыўна выступаюць на старонках часопісаў і газет. Ёсць, вядома, і адсеў. Кажуць, што гэта з'ява заканамерная. Асабіста я не прызнаю такой заканамернасці, і кожны неаплачаны аванс з боку маладых аўтараў разглядаю як мінус у рабоце рэдактара і рэдакцыі. Мы можам, калі не пазбегнуць зусім, дык знізіць адсеў да мінімуму. Шлях тут адзін— павышэнне патрабавальнасці. Супрацоўнікі выдавецтва чакаюць ад новага кіраўніцтва саюза дзейснай дапамогі ў гэтай справе. У свой час прымаліся добрыя пастановы: каб кожная першая кніжка да здачы ў набор абмяркоўвалася на секцыі, рэдагавалася вопытным пісьменнікам. На жаль, па сённяшні дзень нічога гэтага не робіцца.

Моладзь наша — і рабочая, і творчая — у сваёй большасці цудоўная. І калі ў яе асяроддзі сустракаюцца яшчэ вісусы з адхіленнямі, калі нешта ў паводзінах маладых нас не задавальняе, дык трэба цвяроза разабрацца, дзе прычыны гэтых адхіленняў. Магчыма, убачым, што нейкая доля віны кладзецца і на нас, пісьменнікаў. Ці заўсёды мы сваімі творамі будзілі ў моладзі «чувства добрыє», прывівалі ёй любоў да Радзімы, вучылі свята захоўваць рэвалюцыйныя традыцыі, паважаць працоўнага чалавека, цаніць дружбу, разбірацца ў складаных чалавечых узаемаадносінах? Не, не заўсёды. Побач з высокаідэйнымі і высокамастацкімі творамі ў нас зрэдку, але ж з'яўляліся і з'яўляюцца творы слабыя, заганныя, у якіх у той ці іншай форме ставіліся пад сумненне нашы заваёвы, затушоўваліся баявыя і працоўныя подзвігі савецкіх людзей, засяроджвалася ўвага не на галоўным у нашым жыцці, а на другарадным, дробязным, малазначным.

Праз кінафільмы, радыёперадачы і па іншых каналах з захаду пранікае буржуазная ідэалогія. Адкрыта агітаваць супраць Савецкай улады цяпер не рашаюцца нават самыя заядлыя цемрашалы. Яны спрабуюць разлажыць нашу моладзь прапагандай насілля і сексу. А што мы супрацьпастаўляем ім? Дзе нашы творы аб чыстым каханні? Няма іх. На старонках раманаў і аповесцей даволі часта можна сустрэць натуралістычныя пасцельныя сцэны, зняважлівыя адносіны да жанчыны, бессаромнае прызнанне герояў у сваёй пошласці. І ўсё гэта адрасуецца масаваму маладому чытачу.

Дзіўныя парады даём мы часам і маладым аўтарам: маўляў, навошта вывучаць жыццё, калі ў цябе ёсць талент, глядзі на дробязі і не пішы пра гераічнае і г. д. Чым друкаваць падобныя парады, ці не лепш было б часопісам адкрыць на сваіх старонках куток тэарэтычнай вучобы маладых пісьменнікаў. Клопат аб маладых — гэта ў першую чаргу клопат аб іх ідэйна-палітычным росце, аб выхаванні ў іх пачуцця высокай адказнасці перад народам і Радзімай.

У Рэзалюцыі XXIV з'езда КПСС па Справаздачным дакладзе выразна сфармуляваны задачы творчых саюзаў. Выканаць іх мы зможам толькі тады, калі мабілізуем усе свае сілы, створым творчую атмасферу ў нашай пісьменніцкай арганізацыі, будзем з павагай адносіцца да творчасці сяброў, дапамагаць адзін аднаму не паблажлівым паляпваннем па плячы, а строгай, прынцыповай і добразычлівай крытыкай, калі ўсе прасякнемся жаданнем з гонарам апраўдаць давер партыі, калі будзем развіваць ленінскія прынцыпы партыйнасці і народнасці літаратуры, пісаць творы, вартыя нашай гераічнай эпохі.

## НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

*З выступлення Віктара КАВАЛЕНКІ*

У ДАКУМЕНТАХ XXIV з'езда КПСС спецыяльна сказана пра ролю, значэнне і задачы крытыкі. Пра ўзросшыя патрабаванні да крытыкі гаварылася таксама ў час работы нашага рэспубліканскага партыйнага з'езда. У гэтым радасным факце кожны, хто працуе ў цяжкім і адказным жанры крытычнай творчасці, чэрпае натхненне і вялікія надзеі.

Праблем у нашай крытыкі — праблем нявырашаных — вельмі шмат. Тут правільна гаварылі, што нясмела, слаба беларуская крытыка звяртаецца да ўсесаюзнага чытача. Чаму? Прычына відавочная — з-за сваёй слабасці. Ды адкуль брацца той моцы, калі самыя бліскучыя таленты ў крытыцы, як, напрыклад, А. Адамовіч і Р. Бярозкін, адышлі ад сучаснай праблематыкі, адыходзяць або пераключаюцца ў іншыя жанры. Дзе ўжо гнацца за ўсесаюзным чытачом, калі мы не можам прабіцца да свайго. Калі ў 1965 годзе выйшла сем крытычных кніг (без літаратуразнаўчых), то ў мінулым годзе ўсяго адна. Адкуль брацца той моцы, калі амаль зусім спыніўся прыток маладых сіл у гэтую творчую галіну. Адкуль брацца той моцы, калі шмат якія пісьменнікі усё яшчэ глядзяць на крытыку, як на нешта непатрэбнае і назойлівае, што перашкаджае ім у працы.

А між тым крытыка — гэта і творчы набытак самога пісьменніка. Пры слабай нацыянальнай крытыцы любая літаратура не можа быць асэнсавана як нацыянальная літаратура, як састаўная частка духоўнага жыцця ўсяго чалавецтва. І калі сёння, напрыклад, свет ведае пра беларускую літаратуру менш, чым ён мог бы ведаць, то ў гэтым вінавата і наша крытыка. Справа ў тым, што, каб адкрыць глыбока ўнутраную своеасаблівасць таленту пісьменніка, яго непаўторны духоўны феномен, трэба выхавацца на традыцыях той літаратуры, да якой належыць пісьменнік. Вось чаму крытыка адной літаратуры нельга замяніць крытыкам другой літаратуры. Вядома, Р. Бярозкін вельмі таленавіты і прафесіянальна тонкі крытык, але вазьміся сёння пісаць пра М. Багдановіча літаратар з іншай рэспублікі, нават роўны па творчых магчымасцях з Бярозкіным, кніга пра Багдановіча, якая нядаўна выйшла ў Маскве, аказалася б на ніжэйшым узроўні.

Гісторыяй даказана не адзін раз, што чым слабей крытыка, тым ніжэйшы агульны ўзровень літаратуры. Пісьменнікі, якія б хацелі абмежаваць магчымасці крытыкі з нейкіх часовых асабістых разлікаў, сякуць сук, на якім сядзяць. Гэта тыя пісьменнікі, якія змірыліся з правінцыяльнасцю сваёй творчасці і якія б хацелі пражыць жыццё без усялякай крытыкі. Што ж, можна было б ім сказаць: «Памагай, божа!» Але, на жаль, бог сучаснай эстэтыкі не за іх. І крытыка ў гэтым не вінавата, не крытыка іх турбуе.

Патрабавальны падыход крытыкі да літаратурных з'яў не заўсёды сустракае ў нас падтрымку і разуменне. Больш таго — ён часам выклікае нават супрацьдзеянне. Некаторыя пісьменнікі настойваюць на тым, каб крытык у сваіх меркаваннях пазбягаў асабістай думкі, каб ён улічваў зборную думку многіх. Вядома, калі б крытык дэманстраваў толькі свае асабістыя сімпатыі і погляды без усялякай сувязі з гісторыяй і сучаснасцю літаратуры і крытыкі, то перад намі сапраўды была б непісьменная бязглуздзіца. Але такі дрымучы суб'ектывізм наўрад ці магчымы нагул, а ў наш час ён проста выключаны. А вось адмовіўшыся ад асабістага «я» як ад творчай асобы, крытык стане бездапаможным.

Вядома, небяспека суб'ектывізму ў крытыцы існуе. Аднак яму цяжка падняць галаву там, дзе літаратурнае жыццё актыўнае, дзе часта адбываюцца цікавыя праблемныя дыскусіі, абмеркаванні, спрэчкі.

І літаратура, і крытыка наша ўсё яшчэ палохаюцца глыбінь жыцця. Беларуская літаратура не здолела па-мастацку адказаць на шмат якія надзённыя пытанні сучаснага грамадскага жыцця, а крытыка не здолела па-дзелавому нагадаць ёй пра гэта. Сапраўды. Хіба ёсць у нас хоць адзін твор, у якім бы даследавалася праблема, чаму моладзь з вёскі, дзе ёсць клубы, палацы культуры, тэлевізары, усё ж уцякае ў гарады? А колькі такіх складаных праблем стаіць перад краінай! І як крыўдна, што многія з гэтых праблем вырашаюцца яшчэ без пэўных намаганняў нашай літаратуры.

Крытык, як фігура літаратурнага працэсу, у апошнія гады не мае ў нас патрэбнага аўтарытэту. Напрыклад, кнігу С. Андраюка абмяркоўвала секцыя крытыкі і прыйшла да думкі, што зборнік маладога крытыка варты выдання. Але выдавецтва гэта не пераканала. Доўга чамусьці не выдаецца і крытычная кніга С. Гусака, нядаўна памёршага. Магчыма, некаторым таварышам ад гэтага спакайней. Але ў нас ёсць агульны клопат: літаратура — дзяржаўная, народная, партыйная справа. Літаратура, якая павінна скінуць рэшткі правінцыяльнасці, паўней задавальняць духоўныя патрэбы народа, смялей выходзіць на сусветнае спаборніцтва культур, дэманструючы свету, як шмат можа даць народу, у мінулым адсталаму, сацыялістычная рэвалюцыя. Дзеля гэтага крытыцы варта працаваць, расці і мужнець і весці наступальныя літаратурныя баі.

## СЭРЦА АДДАВАЦЬ ДЗЕЦЯМ

*З выступлення Васіля ВІТКІ*

Я НІКОЛІ НЕ СПАДЗЯВАЎСЯ і не спадзяюся, што дзіцячую літаратуру раптам можна ўзняць, умацаваць, актывізаваць аднымі заклікамі з трыбуны. Марнай справай было б і з гэтай трыбуны кідаць покліч да ўсіх пісьменнікаў — пішыце для дзяцей! Бескарысны занятак — абвяшчаць такі пагалоўны аўрал. Для дзяцей трэба пісаць не па закліку і не па рашэнні сходу, а па закліку сумлення, па закліку душы, па закліку сапраўднай любві да сваёй будучыні, да шчасця нашых дзяцей. «Сэрца аддаю дзецям» — так назваў сваю кнігу выдатны педагог нашай сучаснасці. Сёння гэтыя словы гучаць як наказ, як запавет нам, бо сам аўтар кнігі Васіль Аляксандравіч Сухамлінскі пацвердзіў гэтую сваю любоў да дзяцей усім жыццём патрыёта, вучонага і пісьменніка — усім жыццём, да апошняй хвіліны.

Якая гэта не толькі пачэсная, але і адказная справа — служыць дзецям, аддаць ім самога сябе, усе свае веды, талент і сэрца. Без душэўнага пачуцця, без любві да дзяцей не можа быць нашай педагогікі, не можа быць і дзіцячай літаратуры. Бо педагогіка і літаратура — дзве родныя сястры. Толькі пры іх самым цесным супрацоўніцтве магчыма сапраўднае духоўнае і эстэтычнае фармаванне і развіццё чалавечай асобы з першых дзён яе існавання. На жаль, мы на гэта часта забываем. Як часта паэты і пісьменнікі, якія пішуць для дзяцей, не ведаюць многіх элементарных рэчаў, якія добра ведалі нашы маці і бабкі. Як часта наша тэлебачанне, радыё і кіно прывучаюць дзіця быць пасіўным, прыстасоўвац-

### У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ



М. Паслядовіч і А. Пальчэўскі.



Крытыкі В. Жураўлёў, Я. Шпакоўскі і В. Буран.



А. Кудравец і госць з Латвіі Т. Руліс.

ца, прывыкаць да ўжо гатовых, выпрацаваных штампаў, якімі так ахвотна задавальняецца інертнасць і гультайства, абыякавасць і бяздушнасць думкі і пачуцця. Як часта магутныя сродкі эстэтычнага выхавання трапляюць у нас у рукі людзей малакультурных, недасведчаных, а то і ў рукі людзей, якія нават самы тонкі інструмент могуцьператварыць у дубіну.

Цяпер, калі партыя рашэннямі свайго XXIV з'езда паставіла перад намі баявую і пачэсную задачу — рашуча ўзняць адказнасць за выхаванне духоўна і эстэтычна багатай асобы савецкага чалавека, мы, дзіцячыя пісьменнікі, павінны стаць сапраўднымі выхавацелямі і педагогамі. Без сістэмы педагагічных перакананняў, без асваення багаццяў ленінскай, партыйнай педагогікі, без вывучэння народнага вопыту выхавання не можна быць дзіцячым пісьменнікам. У дзіцячай літаратуры нецярпімы саматужніцтва, аматарства, рукадзелле, якое, на жаль, часта выдаецца ў нас таксама за творчасць. Ведаючы, што ў нас нечуваны попыт на кнігу для дзяцей і што амаль кожная з іх разыходзіцца ў першыя ж дні паяўлення ў кнігарнях, мы цешым сябе шкоднай ілюзіяй усеагульнага поспеху, у той час, як заведама бездапаможныя, прымітыўныя падробкі наносяць густам нашых дзяцей, іх эстэтычнаму і духоўнаму развіццю непапраўную шкоду.

Я ўсёй душой падтрымліваю прапанову, выказаную ў дакладзе, аб стварэнні ў рэспубліцы спецыяльнага выдавецтва дзіцячай літаратуры. Неабходнасць такога выдавецтва, пастаўленага на трывалую навукова-педагагічную аснову, наспела ўжо даўно. Вядомая пастанова ЦК КПСС аб дзіцячай літаратуры, прынятая два гады назад, абавязала нас да нецярпімасці да самацёку, абыякавасці і саматужніцтва, якія існуюць у практыцы выдання кніг для дзяцей і ў нас. Дзе-дзе, а якраз у літаратуры для дзяцей асабліва неабходна арганізатарская роля і ініцыятыва. Не будзем забываць вопыту А. М. Горкага, які першы паказаў нам прыклад такой ініцыятывы ў стварэнні савецкай дзіцячай літаратуры.

Карыстаючыся прысутнасцю адказных кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў СССР, хачу закрануць і яшчэ адно пытанне. Маю на ўвазе практыку выдання цэнтральных літаратурных часопісаў для дзяцей малодшага ўзросту. На такую краіну, як наша, пры такой разнастайнай аўдыторыі юных чытачоў ці не надта мала адных «Веселых картинок» і адной «Мурзилки»? Ці не разумней было б у інтарэсах нашых дзяцей ды і нас, дзіцячых пісьменнікаў, настаўнікаў і выхавацеляў, калі б у нас было яшчэ пяць-шэсць новых, розных і цікавых дзіцячых часопісаў? Напэўна, тады паміж імі, хочаш не хочаш, была б здаровая творчая канкурэнцыя, жывы клопат пра нашага маленькага чытача.

І яшчэ адна просьба да саюзнага праўлення ад нас, дзіцячых пісьменнікаў. У нас ёсць літаратурны інстытут і вышэйшыя літаратурныя курсы, аднак пра павышэнне прафесійнай падрыхтоўкі дзіцячага пісьменніка мы яшчэ клапоцімся не надта. Яшчэ адзін інстытут адкрываць, канечне, не трэба. Але было б добра і карысна, калі б тыя, хто спрабуе пісаць для дзяцей, маглі час ад часу сустракацца з вядомымі педагогамі краіны, з даследчыкамі дзіцячай псіхалогіі, з вучонымі, занятымі самымі актуальнымі праблемамі часу.

Няма большай асалоды і радасці, як пісаць для дзяцей. І я даўно перакананы, што кожны пісьменнік, хто па-сапраўднаму любіць дзяцей, абавязкова будзе пісаць для іх. У гэтым — зарука творчай маладосці, маладосці душы і сэрца мастака.

## АБАВЯЗАК ПЕРАД ЖЫВЫМІ І МЁРТВЫМІ

*З выступлення Івана НОВІКАВА*

В А ЎМАЦАВАННІ нашай абараназдольнасці, у выхаванні патрыятызму вялікая роля належыць літаратуры. Вялікае значэнне ў гэтым сэнсе надаецца творам на ваенна-патрыятычную тэматыку. У апошнія гады гэтым творам аддаецца ўвага і ў нас. Доказам гэтага можа служыць, у прыватнасці, стварэнне ў выдавецтве «Беларусь» спецыяльнай рэдакцыі дакументальнай і мемуарнай літаратуры.

За апошнія чатыры гады ў гэтым выдавецтве было выпушчана ў свет каля сарака назваў кніг. Аўтары іх — пераважна бывалыя людзі, якім ёсць што расказаць. І яны расказваюць у меру сваіх сіл і магчымасцей і ў меру сіл і магчымасцей літаратараў, якія прыходзяць ім на дапамогу. Пра гэтых памочнікаў бывалых людзей хочацца сказаць асобна.

Не сакрэт, што мала хто з бывалых людзей можа сам напісаць кнігу. Амаль кожнаму з іх патрэбен памочнік — пісьменнік ці журналіст. Часта гэта не проста рэдагаванне, а сапраўдная дапамога, калі ўся кніга робіцца рукамі літаратара на аснове матэрыялу, прадастаўленага, напрыклад, героем вайны. І вельмі часта, называючы аўтара кнігі ўспамінаў, які пазначаны на вокладцы, мы забываем таго, хто пісаў кнігу. Сапраўды, калі і дзе ў гэтай сувязі ўспамінаюцца імёны, скажам, А. Кулакоўскага, Р. Няхая, А. Міронава?

Уладзімір Юрэвіч зрабіў кнігу ўспамінаў Героя Савецкага Саюза Мікалая Новікава. Я крыху ведаю, як захапіў пісьменніка лёс гэтага простага чалавека, сапраўднага героя. Ул. Юрэвіч не мог не стварыць гэтай кнігі. Ён пісаў яе, не разлічваючы ні на матэрыяльныя выгоды, ні на нейкія маральныя стымулы. І вось кніга выйшла. Газета «Правда» адгукнулася на яе цёплай рэцэнзіяй. А як мясцовы друк? Нешта не заўважыў я, каб нашы крытыкі падтрымалі Ул. Юрэвіча. Так паставілася наша крытыка не да адной гэтай кнігі. У мінулым годзе выйшла ў свет кніга ўспамінаў А. Дзенісевіча. Працаваў над ёю А. Асіпенка. Кніга атрымалася змястоўнай, цікавай. Але яе, зноў-такі, крытыка не заўважыла. Яшчэ прыклад. Я. Зазека сабраў цэлы том партызанскіх песень. З гэтага тома выдавецтва адабрала і выдала невялікі зборнічак «Лясныя песні». Атрымаўся зборнік цікавы, у ім яскрава адлюстраваны патрыятызм савецкіх людзей, іх баявы дух, вера ў нашу перамогу. Але, зноў жа, крытыка прайшла міма кнігі.

Думаецца, прычыны такіх адносін крытыкаў да дакументальнай літаратуры тлумачацца пазіцыяй некаторых кіраўнікоў нашага саюза. У свой час адзін з сакратароў праўлення з трыбуны пленума заявіў у адрас дакументалістаў: «Што ж, калі факты гавораць самі за сябе, дык і не давайце ім мастацкай, так сказаць, «падтрымкі», дайце свабоду фактам загаварыць самім. А калі хочаце напісаць мастацкую рэч, дык не хавайцеся за непрыдуманых герояў, не хавайцеся за важнасць тэмы. Будзьце мужнымі, як вашы героі, не бойцеся стаць перад адным для ўсіх нас законам мастацтва». Гэты, мне здаецца, памылковы пункт гледжання некаторыя крытыкі ўспрынялі як пэўную лінію, пэўную ўстаноўку, і пачалі адлучаць дакументальныя творы ад літаратуры.

Акрамя тых пісьменнікаў, якіх я ўжо называў, на дапамогу бывалым людзям прыходзяць У. Карпаў, П. Шасцерыкоў, М. Гарулёў, В. Бурносаў. На жаль, ніводнага маладога літаратара сярод іх няма. Гэта таксама крыху насцярожвае.

Вядома, недахопаў у творах дакументалістаў яшчэ шмат. Пры напісанні дакументальнай кнігі ўзнікае нямала спецыфічных цяжкасцей. Аднак яны не даюць пісьменніку права пісаць шэра, сумна, дрэннай мовай. А такія слабыя кнігі, асабліва мемуары, яшчэ выходзяць. Часам некваліфікаваныя літпрацоўшчыкі нівелююць асобу аўтара, таму ўспаміны зусім розных людзей пішуцца аднолькавай мовай, з аднолькавых пазіцый, па адным шаблоне. Крытыка магла б дапамагчы дакументалістам грунтоўным, патрабавальным, але добразычлівым аналізам іх твораў, вывучэннем спецыфікі новага, па сутнасці, у нас жанру, слушнымі парадамі, але яна часта выступае не супраць недахопаў у дакументальных творах, а супраць самога жанру. Кепска і тое, што сапраўдны аўтар — пісьменнік, які піша бываламу чалавеку кнігу, пастаўлены ў дыскрымінацыйнае становішча і маральна, і матэрыяльна. А пакуль так будзе, мала хто з майстроў слова будзе брацца памагаць бывалым людзям пісаць мемуары.

І яшчэ адно. У падрыхтоўцы і выданні дакументальнай літаратуры пакуль няма яшчэ належнай сістэмы і планавасці. Пра некаторыя былыя партызанскія зоны, напрыклад, напісана па некалькі кніг, пра іншыя ж — няма ніводнай. У свой час была прынята спецыяльная пастанова ЦК КПБ па асвятленні гераізму Вялікай Айчыннай вайны. Там ставіліся канкрэтныя заданні і Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ, і Інстытуту гісторыі АН БССР, і саюзам пісьменнікаў і журналістаў. На жаль, пастанова гэтая выконваецца пакуль што не так, як належала б.

Беларускі народ у час Вялікай Айчыннай вайны праявіў цуды гераізму. Беларуская зямля ўся паліта крывёю патрыётаў. Жывыя, нявыдуманыя героі сваімі подзвігамі заслужылі ўвагу беларускіх пісьменнікаў. Каму, як не нашаму Саюзу пісьменнікаў, паказваць прыклад у стварэнні дакументальна-мемуарнай літаратуры. Мы ўсё яшчэ застаёмся ў вялікім даўгу перад памяццю жывых і мёртвых герояў. Дык давайце ж сплочваць гэты доўг не на словах, а на справе — паўнацэннымі творамі, глыбокімі па змесце і яркімі па форме.

## ПОМНІЦЬ ЗАПАВЕТ ГОРКАГА

*З выступлення Аляксандра МІРОНАВА*

Я ХАЧУ КРЫХУ прадоўжыць папярэдняга прамоўцу — Івана Новікава, які гаварыў пра дакументальна-мастацкую літаратуру. Гэтае пытанне не можа не хваляваць кожнага з нас.

Сапраўды, галоўнейшай задачай нашай літаратуры, як гэта было падкрэслена на XXIV з'ездзе партыі, з'яўляецца раскрыццё і ўсебаковы паказ вобліку нашага сучасніка. Што разумець пад словам «наш сучаснік»? Калі я думаю пра гэта, я ўспамінаю нашага шаноўнага Ілью Данілавіча Гурскага, удзельніка Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вось ён, наш сучаснік, пра якога можна напісаць.

Мяне хвалюе тая акалічнасць, што людзей, якія ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, у грамадзянскай вайне, ужо сёння можна пералічыць на пальцах. Людзям, якія тут, на нашай беларускай зямлі, ваявалі з гітлераўцамі ў шэрагах партызан, даўно ўжо за сорак — самым на той час маладым. Год ад году такіх людзей становіцца ўсё меней. Прыгадаем: за час паміж нашымі з'ездамі нас пакінулі бацька Мінай, Казлоў, Калінін, Арлоўскі... Пакуль не позна, трэба памятаць пра гэта і дапамагчы бывалым людзям напісаць свае ўспаміны. Нашы раманы, аповесці, вершы — усё гэта добра, няхай яны жывуць шмат гадоў, але кнігі пра слаўных людзей і кнігі саміх гэтых людзей мы проста абавязаны пакінуць нашчадкам. Я зрабіў ужо каля пятнаццаці кніг бывалых людзей і лічу, што ў гэтым мая большая пісьменніцкая заслуга, чым у напісанні раманаў і аповесцей.

Было б добра, калі б кожны пісьменнік лічыў справай свайго гонару напісаць хоць бы адну кнігу ўспамінаў бывалых людзей і тым самым выканаць запавет вялікага Горкага. І рабіць гэта, паўтараю, трэба неадкладна, інакш будзе позна. Напрыклад, цяпер ужо няма нікога, хто поплеч з Міхаілам Васільевічам Фрунзе ствараў у Мінску пралетарскую рабочую міліцыю.

Справе напісання мемуарных кніг нам трэба надаць усесаюзны размах. Відаць, наспела пара стварыць спецыяльнае ўсесаюзнае выдавецтва для выпуску такой літаратуры.

Партыя заклікае нас пісаць гісторыю сучаснасці. І многія нашы пісьменнікі адгукаюцца на гэты заклік — працуюць у такім баявым і аператыўным жанры, як нарыс. Аднак выдаць кнігу нарысаў у выдавецтве «Беларусь» вельмі цяжка. У выдавецтвах «Советский писатель» і «Советская Россия» штомесячна выходзяць 2—3 кнігі нарысаў, а ў нас такія кнігі ляжаць у партфелях рэдакцыі выдавецтва 2—3 гады. Якая ж аддача будзе ад нарыса, калі ён праляжыць 2—3 гады? Нарыс павінен атрымаць у выдавецтве зялёную вуліцу.

## З АДЗНАКАЙ «БЕЛАРУСЬ»

*З выступлення старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. В. КАНАВАЛАВА*

ДЗЯКУЮЧЫ штодзённым клопатам Камуністычнай партыі і ўрада Беларусі ў нашай рэспубліцы за апошнія гады створаны спрыяльныя ўмовы для далейшага развіцця кнігавыдавецкай справы. У выдавецтвах створан шэраг новых рэдакцый, павялічаны аб'ёмы літаратурна-мастацкіх часопісаў, паліграфпрадпрыемствы атрымалі вялікую колькасць новай тэхнікі і г. д. Выпуск мастацкай літаратуры ў рэспубліцы за пяцігодку павялічыўся як па колькасці назваў, так і па тыражы.

У апошнія гады актывізавалася работа нашых крытыкаў. Але нельга не згадзіцца і з тымі заўвагамі, якія прагучалі тут у іх адрас. У выдавецтвах чакаюць ад крытыкаў глыбокіх даследаванняў пра партыйнасць і народнасць літаратуры, пра творчасць нашых вядомых і маладых пісьменнікаў, пра дзіцячую літаратуру і г. д. Вучні і настаўнікі адчуваюць патрэбу ў папулярных артыкулах пра класічныя творы беларускай літаратуры. Даўно ўжо варта выдаць кнігі пра Купалу і Коласа ў серыі «Жизнь замечательных людей». Па гэтым пытанні мы даўно вядзём размовы ў Саюзе пісьменнікаў, але справа не зрушыла з месца.

Нямала праблем ёсць і ў галіне дзіцячай літаратуры. У свой час пленум

праўлення Саюза пісьменнікаў прыняў па гэтым пытанні разгорнутую пастанову, але пасля таго мала што змянілася. Даўно ўжо чакаюць чытачы добрых кніг аб рабочым класе рэспублікі і калгасным сялянстве, аб інтэлігенцыі, аб нашай моладзі, гераічнай Савецкай Арміі. Даць такія кнігі — ганаровая задача і пісьменнікаў, і выдавецтва.

У апошнія гады шмат зроблена для паляпшэння мастацкага афармлення і паліграфічнага выканання кніг. На ўсесаюзных конкурсах на лепшую кнігу ўзнагароджана дыпломамі розных ступеней 58 беларускіх выданняў.

Кіруючыся рашэннямі XXIV з'езда КПСС, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку ўсю сваю работу будзе праводзіць пад знакам рашучай барацьбы за павышэнне ідэйнага і мастацкага ўзроўню выпускаемай літаратуры, за далейшае пашырэнне яе тэматыкі і паляпшэнне мастацкага афармлення кніг.

## НАСТАЎНІК — ЖЫЦЦЁ

*З выступлення Івана МЕЛЕЖА*

НАМ ПАШАНЦАВАЛА, што мы жывём у вельмі складаны, магчыма — цяжкі, але разам з тым і пачэсны час. Мы — кожны са сваімі клопатамі, кожны са сваімі добрымі якасцямі і кожны са сваімі слабасцямі — жывём у гэты час і сустракаемся не толькі са звычайнымі, будзённымі праблемамі, але і з вельмі вялікімі праблемамі, аб якіх, будучы захоплены патокам вірлівага жыцця, часам і не думаем. Усе мы былі нядаўна сведкамі работы XXIV з'езда КПСС, усе мы чыталі справаздачны даклад, які зрабіў Леанід Ільіч Брэжнеў. Па гэтым дакладзе ўжо можна было ўявіць вялікую эпічную карціну сучаснага становішча нашай краіны, сучаснага стану нашай партыі, нашага народа, яго думкі і меркаванні аб тых вялікіх і вельмі важных, часам вельмі цяжкіх праблемах, якія ўваходзяць у сэрца кожнага грамадзяніна, у сэрца кожнага пісьменніка.

Беларуская літаратура існуе не толькі сама па сабе. Яна існуе як частка ўсёй савецкай літаратуры і разам з тым як частка літаратуры сусветнай. Гэта ўскладняе нашу працу і да многага нас абавязвае. Незалежна ад таго, якую школу мы прайшлі, мы абавязаны быць на ўзроўні дасягненняў савецкай літаратуры, літаратуры свету. І вось тут узнікае вельмі важная праблема — праблема культуры пісьменніка. Такая ўжо наша доля, але нам трэба несці людзям важныя і вялікія думкі, мы абавязаны вучыць нашых слухачоў і гледачоў. А для таго, каб вучыць, мы павінны быць на ўзроўні сучасных ведаў і дасягненняў розных галін навукі і тэхнікі. Пісьменнік павінен быць калі не наперадзе, дык хоць бы на ўзроўні нашых сённяшніх адукаваных, дасведчаных чытачоў.

Праблема заключаецца ў тым, што жыццё наша вельмі дынамічнае і дынамізм гэты паскараецца з кожным днём. У нас штодзённа існуе пагроза адстаць ад жыцця. Гэтая неабходнасць для пісьменніка ісці ў нагу з жыццём абавязвае яго вучыцца. Вучоба гэта залежыць ад самога літаратара. Ніхто не зможа дапамагчы яму, калі ён сам не будзе адчуваць неабходнасці вучыцца, калі ў яго не будзе неадольнага жадання пастаянна ўдасканальвацца. Разам з тым не лішнім будзе і дапамагчы яму ў гэтым кірунку. І таму мне думаецца, што кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў СССР варта падумаць аб арганізацыі курсаў ці семінараў, пашукаць нейкія іншыя формы вучобы пісьменнікаў, накшталт тых, якія існуюць у сістэме падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйных і ваенных кадраў. Відаць, было б добра, калі б Літаратурны інстытут разам з Вышэйшымі літаратурнымі курсамі наладзіў месячныя курсы, на якія можна было б паехаць кожнаму з нас, хто хоча далучыцца да ведаў у маштабе нашай краіны і міжнародным.

Але, вядома, галоўная наша школа — жыццё. Жыць са сваім народам, разумець свой народ — гэта аксіёма. Аднак нас не можа не трывожыць тое, што мы гадамі жывём у кабінетах рэдакцый і розных устаноў, у коле чыста літаратурных інтарэсаў і літаратурных сяброў. А гэта, будзем шчырымі, вельмі абмежаваны і лакальны кавалачак жыцця. Таму хочацца, каб нашы пісьменнікі часцей бывалі на заводах і ў калгасах — там, дзе адбываюцца карэнныя, глыбінныя калізіі і канфлікты жыцця. Нам трэба ўсур'ёз падумаць над тым, якім чынам стварыць для пісьменнікаў такія ўмовы, каб яны не толькі сядзелі ў рэдакцыях, а маглі больш ездзіць, бываць у калгасах і на заводах.

У сувязі з гэтым узнікае і другое, не менш важнае пытанне, — пытанне аб матэрыяльным становішчы пісьменнікаў. Пра гэта мы чамусьці саромеемся гаварыць, аднак, мне здаецца, што час заняцца гэтым усур'ёз. Я разумею, што праблема гэта складаная, але, тым не менш, ёю трэба займацца.

Зноў жа, гаворачы пра гэта, не магу не падтрымаць думкі аб стварэнні ў рэспубліцы выдавецтва мастацкай літаратуры. Неабходнасць яго абгрунтоўвалі тут многія таварышы, таму дадаваць яшчэ што-небудзь, бадай, няма патрэбы.

Цяпер — аб характары работы Саюза пісьменнікаў. Мне думаецца, што мы ў саюзе праводзім вельмі многа лішніх пасяджэнняў, нарад, мерапрыемстваў. Іх настолькі многа, што калі хадзіць на ўсе гэтыя нарады і пасяджэнні, дык не застанецца часу для літаратурнай работы. Таму трэба падумаць над тым, як перабудаваць нашу работу, як дабіцца таго, каб Саюз пісьменнікаў стаў арганізатарам жывых, самых разнастайных сувязей пісьменнікаў з жыццём.

Народ чакае ад нас не прамоў. Народ чакае ад нас новых праўдзівых і глыбокіх твораў. Наш першы абавязак — даць гэтыя творы народу, нашаму чытачу. На гэта і павінны быць накіраваны ўсе нашы намаганні, гэтаму павінны быць аддадзены ўсе нашы сілы, нашы сэрцы і наша жыццё.

## У БРАТНЯЙ СЯМ'І САВЕЦКІХ ЛІТАРАТУР

*З выступлення сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Георгія МАРКАВА*

ВАШ З'ЕЗД — гэта буйная падзея ў нашым літаратурным жыцці. Беларуская літаратура, пісьменніцкая арганізацыя Беларусі — гэта адзін з дзейсных атрадаў савецкай літаратуры. Да ўсесаюзнага пісьменніцкага з'езда вы ідзеце з добрымі вынікамі, маючы за плячыма шэраг твораў, якія ўпісаны чырвоным радком у прыходную кнігу не толькі беларускай літаратуры, але і ўсёй шматнацыянальнай нашай літаратуры.

Гаварыць пра літаратуру — гэта гаварыць пра творы. Я лічу, што ваша літаратура можа ганарыцца раманамі І. Мележа — творамі, якія бяруць буйным планам гістарычны этап у глыбокім сацыяльным разрэзе і з'яўляюцца дасягненнямі ўсёй нашай саюзнай літаратуры, літаратуры сацыялістычнага свету. З вялікай цікавасцю я прачытаў новы раман І. Шамякіна, які выйшаў велізарным тыражом у раман-газеце. Гэта таксама перамога пісьменніка і вялікі поспех нашай савецкай літаратуры. Не магу не сказаць і аб тым глыбокім уражанні, якое пакідае новая паэма А. Куляшова. Радасна бачыць, што ў вашай беларускай літаратуры ўзаемадзейнічаюць у жывым актыўным паходзе пісьменнікі розных пакаленняў. І ваш з'езд зноў пацвердзіў гэтую пераемнасць пакаленняў. Ён выявіў той дух, які пануе ў вас, — дух дзелавітасці, дух вялікай адказнасці. І таму я не сумняваюся, што зараз, калі перад намі стаіць велізарная задача выканання рашэнняў гістарычнага XXIV з'езда партыі, пісьменнікі Беларусі ў гэтай барацьбе будуць у першых радах.

Мы ідзём насустрач V з'езду пісьменнікаў СССР вельмі ўзбагачаныя. Чатыры гады, якія мы пражылі пасля IV з'езда, былі гадамі, насычанымі важнымі падзеямі як у гісторыі нашых народаў, так і ў гісторыі нашай барацьбы. Нам у гэтыя гады давялося шмат папрацаваць над павышэннем сваёй ідэалагічнай боегатоўнасці. Зноў, як і ў мінулыя часы, савецкая літаратура падвяргалася ўзмоцненым атакам ідэалагічных праціўнікаў. І ў гэтай барацьбе наша шматнацыянальная савецкая літаратура загартавалася, узмужнела, яна яшчэ раз даказала, што ў яе няма вышэйшых інтарэсаў, чым інтарэсы нашага народа і нашай партыі. Галоўны разлік, які ставяць у правакацыйнай барацьбе з намі нашы праціўнікі, — гэта адарваць савецкую літаратуру ад партыі, забіць клін у адносіны пісьменнікаў з партыяй. Ваш з'езд паказвае, як і многія сходы, што адбыліся пасля XXIV з'езда партыі, што ўсе разлікі нашых праціўнікаў марныя. Савецкія пісьменнікі былі з партыяй усюды, заўсёды і ва ўсім, яны з ёй і застануцца.

Спрэчкі па дакладзе, з якім выступіў М. Танк, ахопліваюць шырокае кола пытанняў і праблем. Адны з іх тычацца інтарэсаў вашага народа, вашых унутраных патрэб, іншыя ўяўляюць цікавасць для ўсёй нашай літаратуры. Несумненна, што многае з таго, пра што тут гаварылася, стане прадметам абмеркавання на ўсесаюзным форуме пісьменнікаў.

Сярод праблем, якія закраналіся на вашым з'ездзе, я хачу вылучыць адну — праблему літаратурна-мастацкай крытыкі. Мы павінны агульнымі намаганнямі дабіцца рашучага пералому, рашучага паляпшэння справы пастаноўкі літаратурна-мастацкай крытыкі.

Адзін з галоўных недахопаў нашай крытыкі той, што яна ахоплівае сваёй увагай толькі 15—20 працэнтаў кніг. Што сабой уяўляюць астатнія 80 працэнтаў? Ці не збядняем мы гэтым самым сябе, калі такія велізарныя касякі кніг не ўключаем у паўсядзённы аналіз, не спрабуем зразумець, што гэта такое, якія вывады і ўрокі нам трэба рабіць з усяго патоку нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры?

Другі недахоп мне бачыцца ў тым, што крытыка не цікавіцца праблемамі ўзаемнага ўзбагачэння літаратур, што яна замыкаецца ў вузкім коле інтарэсаў нацыянальнай літаратуры, не спрабуе пранікнуць у шырокія прасторы ўсёй шматнацыянальнай савецкай культуры, якая стала фактарам нашага гонару.

Трэці недахоп я б адзначыў такі. Крытыка наша, аналізуючы з'явы і факты літаратуры, часта зыходзіць не з высокіх патрабаванняў партыі да літаратуры, а з чыста суб'ектыўных крытэрыяў і матываў. Акрамя гэтага, мы не пазбавіліся яшчэ і ад групаўшчыны, якая ніяк не ўласціва нашай літаратуры.

Таму трэба зрабіць усё для таго, каб памагчы нашай крытыцы выйсці на шырокую дарогу. Мы павінны дапамагчы нашым крытыкам выйсці на шырокую чытацкую аўдыторыю, мы павінны ўзброіць нашых крытыкаў не толькі высокімі крытэрыямі партыйнай думкі, але і разуменнем рэальнасці нашага грамадства. Для гэтага трэба, каб крытыкі разам з паэтамі, празаікамі, драматургамі ішлі на заводы і фабрыкі, у калгасы і саўгасы, на новабудоўлі і вывучалі жыццё. Без гэтага ведання жыцця крытыцы будзе вельмі цяжка выконваць функцыі, якія ўскладаюцца на яе нашым часам, партыяй. Неабходна таксама, каб нашы часопісы, газеты, радыё, тэлебачанне — усе рычагі грамадскай інфармацыі — прадаставілі шырокі прастор для працы крытыкаў. Усё гэта вылучыць літаратурна-мастацкую крытыку на перадавую лінію нашага літаратурнага фронту і будзе садзейнічаць паглыбленню і пашырэнню яе зместу.

Зараз перад літаратурай стаяць вельмі важныя і адказныя задачы. Дазвольце выказаць упэўненасць, што ваша пісьменніцкая арганізацыя — моцная, згуртаваная — парадуе і сваю рэспубліку і ўсю нашу краіну новымі творамі, у якіх знойдуць адлюстраванне непаўторныя рысы нашага часу і нашага сучасніка.

## Самы вялікі мост



**(Застольны тост Амара Шахтаманава)**

— Нядаўна мы пабывалі на тым мосце, што ідзе цераз Віслу і з'ядноўвае Варшаву з вашай Прагай. Увесь свет ведае гэты мост! У пэўныя часы фашысцкай акупацыі ён быў той жыватворнай лініяй сувязі, якая прыдавала сілы і ўпэўненасці вашым падпольшчыкам, вашым патрыётам. Потым не было маста, фашысты ўзарвалі, аднак лінія сувязі заставалася. У гэтым месцы польскія войскі вызвалення разам з савецкімі войскамі фарсіравалі Віслу, каб памагчы гераічнай Варшаве стаць навечна вольнай і займець пачэсную годнасць сталіцы Польскай сацыялістычнай дзяржавы. У гэтым месцы праходзілі са зброяй супраць фашыстаў мае браты дагестанцы, узбекі, таджыкі, рускія, украінцы, беларусы. Тут праходзілі антыфашысты іншых краін.

Пасля разгрому фашызму вы ўзнавілі ваш мост, як і Варшаву, як і іншыя гарады і сёлы. Новы мост стаў яшчэ больш велічны і славуты. Я ганаруся тым, што пабываў на гэтым мосце. Мне ўявілася, што я ўбачыў там сляды маіх родных братоў, якія загінулі ў баях за вызваленне Варшавы.

І калі стаяў я на гэтым мосце, то міжвольна ўспомніў і пра другі вялікі мост. Самы вялікі! Без яго мне не было б дарогі сюды, да вас! Без яго я не мог бы так шчыра, па-сяброўску размаўляць з вамі: вы мяне не разумелі б, я вас не разумеў бы! Без яго ў мяне не было б брацкай еднасці з рускімі, украінцамі, беларусамі, з усімі іншымі нацыянальнасцямі Савецкага Саюза. Без яго ў мяне не было б жыцця!

Гэта нашы агульныя камуністычныя ідэі. Гэта наша агульная, усім зразумелая руская мова, на якой гаварыў і стварыў сваё геніяльнае вучэнне Ленін.

...За вялікім літаратарскім сталом сядзелі польскія пісьменнікі, прадстаўнікі рускай, украінскай, беларускай, узбекскай, дагестанскай літаратур, быў адзін славак. Усе дружна і аднадушна падтрымалі Амараў тост.



## Малгося

Катавіцэ — Кракаў... Адлегласць невялікая, але цягнік прыгарадны, ідзе павольна. Па вузкім калідорчыку вагона час ад часу прагульваецца дзяўчынка: чырвоныя банцікі ў яе кароткіх косках сюд-тут ды і мільгнуць паўз наша купэ. Польскія вагоны вузейшыя за нашы і хістаюцца на хаду больш, але пры няхуткай яздзе прагульвацца можна.

Дзяўчынка адзін раз спынілася каля нашага купэ, матнула коскамі, ды мы не вельмі звярнулі на яе ўвагу, бо наш украінскі дэлегат расказваў у гэты час чарговую незвычайную гісторыю: усе слухалі яго. Праз некаторы час дзяўчынка зноў спынілася каля нас — купэ адкрытае, па чатыры мяккія крэслы прымацавана з абодвух бакоў. Нас сямёра, адно месца вольнае. Дзяўчынка паглядвала на гэтае месца і быццам бы ўслухоўвалася ў нашу гаворку.

— Ідзі да нас! — запрасіў яе ўзбекскі дэлегат, — які сядзеў з краю. — Сядай вось тут, побач са мною!

Наш перакладчык пачаў паўтараць гэтае запрашэнне па-польску, але дзяўчынка не даслухала яго, хуценька падышла да вольнага крэсла і стала побач з тым дзядзькам, што запрасіў яе.

— Як жа цябе завуць? — спытаў узбек на рускай мове.

— Малгося, — адказала дзяўчынка, зноў жа не чакаючы перакладу.

— А колькі табе год?

— Шэсць.

— А мяне завуць Рахмат, — назваўся ўзбекскі прадстаўнік. — Дзядзька Рахмат. Панімаеш? Па-рускаму гэта значыць — добры дзядзька, не злосны.

Малгося згодліва паківала галавой.

— А з кім ты тут едзеш? — пытаўся далей Рахмат. — Можа адна?

Дзяўчынка адмоўна варухнула коскамі, а потым, крыху рускімі, крыху польскімі словамі, растлумачыла, што з ёй едзе тата і што ён сядзіць у суседнім купэ.

— Куды ж вы едзеце?

— Дадому.

— А дзе ваш дом?

— У Кракаве.

Так адбылося гэтае знаёмства, так былі высветлены амаль усе патрэбныя на гэты час пытанні. Больш, можа, і не было пра што пытацца. І дзядзька Рахмат палез у кішэню свайго паліто, якое вісела збоку крэсла на кручку. Але Малгося раптам спыталася:

— А кдзе ваш дом?

Заканчэнне. Пачатак глядзі 23 красавіка г.г.

# ПОЛЬСКІЯ НАВЕЛЫ

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Гаворка ўзнавілася. Рахмат сказаў, што ён жыве ў Ташкенце, гэта ў тым самым горадзе, у якім было вялікае землетрасенне, якраз тады, калі Малгося нарадзілася. Горад быў разбураны, а Малгося ў той час нарадзілася і пачала расці. Потым і горад зноў нарадзіўся і пачаў расці. Рос ён хутка і цяпер ужо вырас зусім вялікі і прыгожы.

— Ты таксама вырасцеш прыгожая і некная,—заключыў сваё тлумачэнне Рахмат.

Малгося задаволена ўсміхнулася і нават падалася крыху бліжэй да такога добрага і гаваркога дзядзькі. Потым нечакана і крышку сароменочыся спытала:

— А кдзе ён вырас? А?

— Далёка адсюль,—адказаў Рахмат.—у Савецкім Саюзе. Тата, мабыць, расказваў табе пра Ташкент?

— Так, так!—заківала галавой Малгося.—І Чэсік расказваў.

— А хто гэта—Чэсік?

— Брацік мой, ён у школу ходзіць.

Дзядзька Рахмат зноў палез у кішэню свайго паліто і выняў адтуль шакаладку, каб пачаставаць Малгосю. Мы таксама пачаставалі яе: хто цукеркай, хто яблыкам. Неўзабаве яна пайшла ў сваё купэ, але хутка вярнулася. У яе руках была раскрытая пачка пячэння, і з гэтаю пачкаю дзяўчынка падышла перш за ўсё да Рахмата:

— Проша! Тата просіць!

Потым яна падышла да кожнага з нас з такім жа словам:

— Проша!

На століку ў нас было некалькі пляшачак польскага піва. Мы пачалі есці пячэнне і запіваць півам проста з пляшачак. Потым Рахмат сказаў Малгосі:

— Ідзі, пакліч сюды свайго тату: скажы, што запрашаем яго на піва.

Мы трошкі здзіўлена глянулі на Рахмата: ці не залішне прамалінейна гэта, ці правільна зразумее нас незнаёмы спадарожнік?

Малгося пайшла і праз якую хвіліну вярнулася ў наша купэ з бацькам. Гэта быў яшчэ малады і даволі абаяльны з выгляду чалавек, у лёгкім, відаць, дарожным спорткасцюме. Ён вельмі проста і натуральна пазнаёміўся з усімі намі, заняў вольнае месца і гэтак жа па-свойску прыняў ад Рахмата адкрытую пляшачку піва. Малгося яшчэ раз абнесла нас пячэннем, мы частаваліся, пасмоктвалі піва і вялі агульную гаворку з Малгосіным татам. Ён таксама еў пячэнне і запіваў півам проста з пляшкі. У гаворцы прымаў удзел з ахвотай, з сяброўскай гатоўнасцю сказаць усё, што ведае, што мае на гэты выпадак за душою. Мы ўсе неяк адразу адчулі, што абаянне ў гэтага чалавека не толькі знешняе, што, акрамя ўсяго іншага, ён валодае каштоўнымі якасцямі хутка збліжацца з людзьмі, хутка знаходзіць агульныя інтарэсы і духоўную блізкасць.

Пачуўшы ад Рахмата пра Ташкент, ён даволі зразумела, хоць не зусім па-руску, расказаў, што ў той год, калі Малгося нарадзілася, ён быў з польскай дэлегацыяй у Звёнзку Радзецкім і бачыў там у піянерскіх лагерах многа ўзбекскіх дзяцей. Людзі расказвалі тады пра ташкенцкае землетрасенне, пра надзвычайны гераізм і мужнасць ташкентцаў. Потым ён многа чуў і чытаў пра ўзнаўленне горада.

— Як ён усё рос і рос...—удакладніла Малгося.

— Правільна!—першы ўхваліў дзядзька Рахмат.—Рос, рос і вырас! А ты, красуня, хацела б паглядзець, які ён цяпер?

Малгося на нейкі час задумалася, пацёрла далонькай нос, а потым запытала:

— У ксёнжцы ці так?

— Ну, вядома, так,—паясніў Рахмат.—Прыязджай да нас у госці і паглядзіш. Да мяне прыязджай! У мяне ёсць унучкі, такія, як ты, яны ўсё пакажуць.

Малгося яшчэ больш задумалася, яшчэ старанней пачала церці далонькай пераносее і вочы.

— Ну, чаго ты маўчыш?—папракнуў бацька і адняў яе руку ад пераносся.

— Я не маўчу, а думаю,—удакладніла Малгося.

— А пра што ты думаеш?—спытаў Рахмат.—Скажы нам!

— Я думаю...—мігаючы нацёртымі павекамі, ціха загаварыла дзяўчынка,—думаю, каб вы папрасілі майго тату ўзяць мяне з сабою... І Чэсіка ўзяць, бо ён многа рускіх слоў ведае, а я яшчэ мала ведаю.

— Дык я і прашу тату,—дадаў Рахмат.—А як жа! І тату і Чэсіка! Вядома! Прыязджайце разам!

— От жа хітрая!—задаволена смеючыся, прамовіў Малгосін бацька.—Які ход прыдумала! Я сапраўды збіраюся летам у Савецкі Саюз, пуцёўку ў нашым Орбісе заказаў. Мабыць, прыйдзецца паабяцаць дочцы... Вось тут перад вамі!

## Цюльпаны



Некалі мы разам прагульваліся па вуліцах старога Ташкента. У руках у нас былі вясеннія цюльпаны з доўгімі сцяблямі. Ён сарваў гэтыя цюльпаны на страсе аднаго нізкага доміка, і такі ўчынак не лічыўся свавольствам, бо цюльпаны раслі на многіх стрэхах старога горада. Іх ніхто тут не сеяў, не вырошчваў: самі сяліся, самі раслі.

Потым мы з ім паехалі ў стэпавыя вобласці Узбекістана, і па дарозе нам сустракаліся цэлыя плантацыі цюльпанаў-самасеек...

Ён—гэта Рахмат Файзі, узбекскі пісьменнік. Я зваў яго Рахмат-ака, ён дабаўляў «ака» да майго імя. Па-ўзбекску гэта азначае—паважаны, шаноўны.

...Цэлыя плантацыі цюльпанаў!.. Палымяныя вясеннія кветкі мы ўскладалі на помнікі герояў мінулай вайны. Вялікія букеты прывезлі ў Ташкент і паставілі іх у фарфоравыя вазы ў маім нумары ў гасцініцы.

...Потым мы разам з ім перажылі вялікую бяду народную — першае ташкенцкае землетрасенне. Тых домікаў, на стрэхах якіх раслі цюльпаны, не засталося ні аднаго. Мой нумар у гасцініцы ўцалеў, але вазы з цюльпанамі разбіліся ад магутных штуршкоў, вясеннія кветкі засыпала друзам са столі і заваліла аскабалкамі ад карнізаў. Рахмат астаўся без жылля.

Калі б ён мог паехаць са мною ў наш Мінск, я не хацеў бы нічога лепшага. Але ж хіба мог ён пакінуць свой горад? Ні адзін ташкенец, як вядома, нікуды не паехаў, толькі дзеці выязджалі ў піянерскія лагеры.

У наступную вясну я сустракаў Рахмата ў Маскве. Ён прыехаў у складзе ўзбекскай дэлегацыі на з'езд пісьменнікаў. Беларуская дэлегацыя прыехала раней. Ташкенцкія пісьменнікі яшчэ не мелі дома кватэр, не мелі сталых сядзіб, іх сем'і туліліся ў палатках, але на тварах дэлегатаў былі вясёлыя ўсмешкі, а ў руках цюльпаны. Рахмат падараваў свой букет мне. Кветкі былі яшчэ свежыя, я здзівіўся, як гэта яны не павялі ў дарозе, як Рахмат здолеў захаваць іхнюю свежасць.

— Ці сніцца табе землетрасенне?—спытаў Рахмат-ака пасля нашага дружалюбнага абмену прывітаннямі.

— Сніцца,—адказаў я.—Часта сніцца. А табе?

— Я не паспяваю яго сасніць,—сказаў ён і засмяяўся сваім задорным раскацістым смехам.

— Чаму гэта?—не адразу здагадаўся я.

— Таму, што як толькі засну, яно паўтараецца. Амаль кожную ноч паўтараецца. Разбураны ўжо ўсе старыя будынкі.

— А новыя? Гасцініца «Ташкент» стаіць?

— Стаіць!—з гонарам адказаў Рахмат.—Цяпер увесь горад такім будуем: моцным, трывалым!

— А як жа цюльпаны?—не мог не пацікавіцца я, любуючыся свежым букетам.

— Цюльпаны растуць!—ледзь не выгукнуў у радасці мой друг.—Растуць усюды: на старых дворышчах, на руінах, нават каля нашых палатак, хоць ніхто гэтых кветак і не сеяў. Растуць і цвітуць!

Нядаўна мы зноў сустрэліся з Рахматам, ужо ў Варшаве. Неўзабаве надышоў Дзень вызвалення польскай сталіцы. З самага ранку пайшлі людзі да магілы Невядомага салдата, пайшлі да помніка воінам-вызваліцелям.

— Давай пашукаем тут цюльпанаў!—прапанаваў мне Рахмат-ака.

— Давай!

Мы пайшлі шукаць цюльпаны. Нашы польскія сябры падказалі нам, што бліжэй, як дзе, іх можна купіць у адной з гасцініц старой Варшавы. Мы хутка знайшлі тую гасцініцу. На наша шчасце там яшчэ заставалася некалькі каліў прыгожых цюльпанаў. Нам іх раздзялілі на два букеты, хораша аздобілі цэлафанам, перавязалі чырвонымі стужкамі.

З букетамі ў руках мы накіраваліся да помніка. Перад намі і за намі ішлі людзі. Ішлі калонамі, арганізавана, сярэдзінаю вуліцы. Ішлі асобнымі групамі па тратуары. Мы адчувалі, што гэта ў большасці тыя варшавяне, якія вынеслі на сваіх плячах усе нечуваныя пакуты і беды фашысцкай акупацыі і вайны. Гэта тыя падпольшчыкі, удзельнікі гераічнага супраціўлення, якія не шкадавалі свайго жыцця ў барацьбе за свабоду айчыны. Гэта тыя нястомныя будаўнікі і творцы, якія, з дапамогай братніх народаў, узнавілі сваю Варшаву, як і беларусы ўзнавілі свой Мінск, як украінцы свой Кіеў, і, вядома ж, як узбекі свой Ташкент, хоць там і стыхійная была бяда.

...Ля помніка мы далучылі свае цюльпанавыя букеты да шырокай суцэльнай чырвані іншых кветак. Потым доўга стаялі, трымаючы шапкі ў руках. З высокага п'едэстала на нас глядзелі два надзвычай мужныя чалавекі—савецкі салдат і польскі жолнеж. Першы з іх нагадваў нам пра тых узбекаў, беларусаў, рускіх, украінцаў і іншых савецкіх воінаў, якія ахвяравалі сваім жыццём за вызваленне сталіцы Польскай сацыялістычнай дзяржавы. Другі ўзнаўляў памяць аб такіх жа героях-палякаў.

Нашы цюльпанавыя букеты ляжалі поруч...

## Джымала



Апошні дзень камандзіроўкі... Развітанні... Абмен адрасамі... Мне дае свой адрас наш перакладчык і гід Эдмунд Дульскі. Мой ён запісаў раней.

«Прушкаў, вуліца Джымалы» — прачытаў я выразны польскі радок.

— Гэта ў памяць нейкага героя?—пацікавіўся я.

— Так,—згадзіўся Эдмунд.—Толькі ён не воін,—не партызан, не падпольшчык. Героі розныя бываюць. Слухайце, што гэта быў за герой!

І Дульскі расказаў мне гісторыю той вуліцы, дзе ён цяпер жыве.

Пасля чарговага раздзелу Польшчы, калі і Варшава трапіла пад уладу Прусіі, пасяліўся непадалёку адзін польскі чалавек па прозвішчы Джымала. Пабудаваў хату, хлеў, стаў пакрысе заводзіцца гаспадаркаю. Але неўзабаве прыйшла паперка ад нямецкіх улад, у якой была суровая забарона будавацца паляку на гэтым месцы. Джымала звярцеў з гэтай паперкі вялікую цыгарыну і скурыў. Прыйшла яшчэ адна паперка, яшчэ больш суровая. Джымала скурыў і тую, і нямецкага загаду не выканаў.

Тады прыйшлі немцы, аблілі яго будынкі газаю і падпалілі. Стрэхі і кроквы згарэлі адразу, а бярвенне ў зрубах яшчэ не паспела добра высахнуць, таму ўсё цалкам не згарэла, некаторыя абвугленыя стрыжні засталіся.

З гэтых рэштак сваіх будынкаў Джымала зноў зляпіў сабе хату, усё на тым жа месцы. Хата была ўся чорная знадворку і за новую яе ўжо нельга было лічыць. Нямецкая ж забарона мела на ўвазе толькі новыя будынкі.

Але не стрымалі чужынскія ўлады свайго закону: прыйшлі і разбурылі Джымалаву вугальную хатку, сказалі яму, што ўсякі будынак паляка тут будзе спалены ці разбураны. Усякі!

«А калі будан?—падумаў Джымала.—Гэта ж ужо не хата, не будынак, ён не падпадае пад нямецкі ўказ». І купіў Джымала ў цыганоў будан, паставіў яго на пажарышчы і зноў стаў жыць на сваім аблюбаваным месцы. Немцы яго зганялі,—ён на нейкі час перакачоўваў куды-небудзь, а потым вяртаўся і вяртаўся зноў. Не маглі нямецкія ўлады зусім забараніць яму пражыванне ў будане: чалавек жа не асядае на ўвесь час. Чалавек качуе, хоць і не цыган.

Але Джымала па-сутнасці не качаваў, ён трымаўся аднаго месца, свайго, пэўнага, выбранага на сваёй зямлі. Выбранага назаўсёды. І ўтрымаўся, не схіліў галавы перад чужынцамі! А потым і пражыў там увесь свой век, нашчадкаў пакінуў.

Адсюль і пайшла вуліца Джымалы.

Эдмунд на хвіліну змоўк, нібы прыхоўваючы сваё хваляванне, а потым спытаў у мяне ўпэўнена і патрабавальна:

— Ну, хіба гэта не герой свайго часу? Хіба гэта не сапраўдны продак нашых цяперашніх герояў?

Хто ж гэтаму будзе пярэчыць? Я толькі пашкадаваў, што не здолеў пабываць ў Прушкове і паглядзець на тое месца, дзе некалі жыў Джымала.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

## «ВОЖЫК» НА VI З'ЕЗДЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

**Сярод гасцей пісьменніцкага з'езда былі і мастакі-вожыкаўцы. Яны ўспрымалі тыя праблемы і пытанні, пра якія ішла гаворка на з'ездзе, сваімі — спецыфічна мастакоўскімі — вачыма. У выніку нарадзіліся гэтыя малюнкі.**




У поўнай баявой...




— А куды ён паедзе?
— Да цешчы на бліны.



— Куды сабраўся?
— У Душанбе па сцэнарыі — там іх шмат забракавалі.



Крытык:
— Не бачу, пра што б гэта рэцэнзію напісаць?

Лявон КУДЛА

## ЧУЛАЯ ДУША

Літаратар Б. і не думаў галасаваць супраць кагосьці ў спісе кандыдатаў у члены новага праўлення Саюза пісьменнікаў, прапанаванага на з'ездзе для тайнага галасавання. Усе кандыдатуры здаваліся яму вартымі даверу. «Хай правяць, хай кіруюць» — сказаў ён сам сабе і падняў руку за ўвесь спіс.

У такім добрым настроі ён выйшаў, калі аб'явілі перапынак, у фае тэатра. Ідзе сабе, каму кланяецца, каму руку паціскае. Насустрач ідзе стары знаёмы, амаль сябра, К.

— Здарова.—працягнуў яму руку Б. І толькі хацеў павіншаваць...

— Пачакай, браце, няма часу. — адказаў К. і знік.

— Ах, так, — ускіпеў Б. — цябе яшчэ не выбралі, а ўжо заznаўся. Бачыш, яму часу няма падаць сябру руку. Вось і галасуй за такога. Потым ён не тое што рукі не падасць, а і зірнуць у твой бок не захоча. Хваробу я за цябе буду галасаваць. Выкраслю — і баста.

І выкрасліў. Ды з задавальненнем. Аж палягчэла на сэрцы, калі зрабіў гэта.

Але толькі ўкінуў бюлетэнь у урну, як насустрач з прыемнай усмешкай на вуснах ідзе да яго той жа К., працягвае руку.

— Здароў, браце. Ты нешта мне хацеў сказаць. Я, разумееш, бег да тэлефона.

— Кіраваць, — з'едліва падказаў Б.

— Ага, — недачуў сябра.— Нагадаць, каб сын малога ўзяў з дзіцячага сада. Жонка ў мяне ў бальніцы.

— У бальніцы? — спагадліва перапытаў Б., і ўжо яму стала шкада сябра. І, каб неяк загладзіць сваю віну, запрасіў:

— Можа пойдзем у буфет?

## КАБ НЕ ЛЮСТРА

Яны сядзелі побач — празаік А. і празаік Б. Сябрамі не былі, але пры сустрэчы не шкадавалі адзін другому шчырых, добрых слоў.

Абое трапілі ў спіс для тайнага галасавання. І, зразумела, павіншавалі адзін другога з такой нагоды.

— Я вельмі рады за цябе. Сапраўды, ты варты таго.

Тое ж сказаў і другі.

Потым, калі падышла хвіліна, яны ўзялі бюлетэні і адышлі ў бок.

— Відаць, трэба кагосьці выкрасліць, — сказаў празаік А.

— Я таксама думаю. На тое ж галасаванне, — адказаў празаік Б.

— Спадзяюся, ты не мяне маеш на ўвазе? — усміхнуўся празаік А.

— Жартуеш?—адказаў празаік Б. і ў сваю чаргу спытаў.— І ты, спадзяюся, мяне не выкрасліш?

Разышліся, сардэчна ўсміхаючыся. Адзін падпёр адну сцяну калідора, другі — другую. Разглядаюць бюлетэні.

Раптам празаік А. заўважыў у люстры, што празаік Б., адвярнуўшыся ад яго і прыклаўшы бюлетэнь да сцяны, вымарвае са спісу яго прозвішча. «Ну што ж, тым жа аддзячу і табе».—рашыў празаік А. і выкрасліў прозвішча празаіка Б.

Потым яны склалі бюлетэні і, працягваючы шчырую размову ў духу, так сказаць, поўнага разумення, накіраваліся да урны.

## З НЕНАДРУКАВАНАГА

«Асноўнай старажытнай лепшай ядой з'яўляецца хлеб, які не страціў свайго значэння і ў сучасным харчаванні.

Такія ж якасныя змены адбыліся з блінамі...»

⊙

«Праз кампазіцыю дывана выявіць свае мастацкія погляды на акаляючы свет...»

⊙

«Для расшыфроўкі гэтай сітуацыі выкарыстаем гісторыю звычайнай цэглы».

⊙

«Ёсць цяпер у нас сілы, веды кожны дом будаваць з гарантыйным пашпартам на сонца, балкон і цішыню, якая парушалася б толькі вясёлым спевам птушак і ўхваляючым шэлестам дрэў».

⊙

«Тэатр узведзены для пастаноўкі дасканалейшых твораў мастацтва».

⊙

«Нават прымітыўны першабытны спосаб вытворчасці ўплятаў элементы прыгажосці».

⊙

«Бо асобныя рысы імкнення да прыгажосці выяўлены ў людзей перадавымі пісьменнікамі і мастакамі да нашай эры».

⊙

«Востраканечнасць інструмента нікому не патрэбна.

Грані скоўваюць зваротны рух інструмента (лапата) у працоўным працэсе».

З рукапісаў, якія паступілі ў выдавецтва «Навука і тэхніка», выбрала А. ХАРЭЎСКАЯ.

Мядзведзь:
— Чаго ў цябе такія доўгія вушы?
Заяц:
— У Саюз пісьменнікаў цягнулі.

Павел ШЫБУТ

## ДЫЯЛОГІ

— Чаго ты крычыш?
— Трэніруюся. Мяне вылучаюць загадчыкам аддзела.

⊙

— Як жывеш?
— Добра. Раней я купляў, а цяпер мне прадаюць.

⊙

— На, закуры.
— Дзякую, свае ёсць.
— Дык чаго ж ты ўчора прасіў у мяне?

⊙

— І ты яе пакахаў з першага погляду?
— Другі раз не паспеў глянуць: яна ўткнулася тварам мне ў грудзі.

⊙

— Што, я свіней з табой пасвіў?
— Свіней то не, толькі авечак.



У кнігарні:
— Што ён робіць?
— Шукае сваю кнігу, каб мне аўтограф даць.




— Добра, што такое папаўненне ідзе ў нашу літаратуру. Трэба спадзявацца, што хоць палова з іх будзе мець свой твар.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07667.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19. бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.